**Барыс Пятровіч**



# Пуціна

*Апавесці*

**Мінск**

**"Кнігазбор"**

**2015**

# СТАХ
*Трыпціх*

## *Частка першая.* ЭКСПРЭС, альбо Няспраўджанасць адзіноты

I я ад ззяння гэтага знямеў*...
*Дантэ. «Боская камедыя» — «Рай».*

### 1а.

...I вось ідзе ён лесам: ноч, дождж — што яшчэ можа быць горш?

А ён — не зважае на непагадзь, цемру, страх, які дыхае ў твар. На ім лёгкая, прамоклая наскрозь кашуля, а яму не холадна.

Ён крочыць не адчуваючы стомы, ён — ляціць. Ён не заўважае адлегласці, не заўважае адзіноты. I дарога дадому — шэсць кіламетраў глухім лесам — дарога, якая так абрыдла яму за дзесяць школьных гадоў, цяпер у асалоду.

Ён — шчаслівы, але не згадвае пра шчасце, пакуль яно ёсць.

Гэтай дарогаю ён цяпер мог бы ісці з завязанымі вачыма — і не заблукаў бы. Бо вочы ягоныя глядзяць

* Пераклад на беларускую мову Уладзіміра Скарынкіна.

не наперад, а ў самога сябе і бачаць там толькі Яе — дзяўчыну, з якою ён пазнаёміўся ў начным аўтобусе. «Стах... — шэпча яна яму, — Ста-а-асік!..» — і ён — ляціць...

Яна паехала далей. Бліснула ў ягоным жыцці асляпляльнай звышновай і знікла назаўсёды: згасла святлом аўтобусных фараў за паваротам. Магчыма, праз гады яны будуць жыць у адным горадзе, на адной вуліцы, у суседніх дамах, але ніколі больш не сустрэнуцца. Ён будзе ехаць з працы ў тым жа трамваі, што і яна, адчуваць незразумелы неспакой і сум па нечым, але так і не даведаецца: ча-му рап-там я-ны а-па-на-ва-лі ім...

Гэта можа быць, а можа і не быць, а пакуль ляціць Стах над зямлёю, між дрэваў да свайго дома і бачыць прад сабою толькі яе постаць, твар, усмешку... Яна тут, побач, з ім, у ім, у гэтым лесе, гэтай цемры, у гэтым свеце — адна-адзіная. Яна. І больш нікога. Няма нікога. Нікога... Нават яго самога.

## 16.

На менскім аўтавакзале яе праводзіў высокі бялявы хлопец, пра якога Стах запомніў, што ў акулярах і дужа статны. Яны застылі ў развітанні акурат перад вакном, за якім ён сядзеў. Яна паклала хлопцу галаву на грудзі і знізу ўверх замілавана глядзела на яго.

Іх нельга было не заўважыць — настолькі файнаю была пара. І ўздых, які Стах пачуў ад бабулькі наперадзе, прыналежаў ім.

Пасля аб'яўлення пасадкі кіроўца падагнаў аўтобус да платформы, а сам знік у будынку вакзала на няпэўны і таму доўгі час.

Хлопец згінаў галаву, дзяўчына падымалася на дыбачкі, і яны зліваліся ў зацяжным, нібыта паказаным у запаволеным паўторы, пацалунку. Скульптара, скульптара, Радэна сюды: ах, якою чароўнаю была дзяўчына на фоне статнага хлопца з модна-доўгімі валасамі, што казытліва асыпаліся ёй на твар. Цела дзяўчыны прылягала да хлопцавага: шчыльна-ласкава, млява-спакусна, напружана-чуйна — так, што здавалася, калі прыгледзецца, можна ўбачыць, як праскокваюць вострыя маланкі жарсці ад цела да цела, і фізічна адчуць, як добра ім цяпер разам.

Ішоў час. Для каго — бег, каму — поўз, а кіроўца ўсё не выходзіў з аўтавакзала. Стах зірнуў на нягегла족маленькі для вялізнага горада двухпавярховы будыначак і ўбачыў, як трасецца ён ад смеху: то кіроўца выгаворваўся показкамі з дзяўчаткамі-дыспетчаркамі перад маўклівай начной дарогаю.

Хвілінаў праз дзесяць Стах прыкмеціў, што дзяўчына таксама нервова зыркае ў бок вакзала і нецярпліва цярэбіць, пераступае ножкамі, бы ў прыбіральню хоча: ну дзе ўжо ён? дзе ж ён? дзе той кіроўца? А спаднічка — карацей нельга, а ножкі — хоць адварочвайся: «даўжэй грамадзянскай (чачэнскай) вайны...» Ага, ці не стамілася ты бясконца развітвацца і рабіць твар глыбока закаханай? Цікава...

Стах бачыў, што хлопец не заўважае турботаў дзяўчыны: яму не хочацца выпускаць яе з рук, і ён перанёс бы цяпер гэтае развітанне дамоў, у ложак, на цэлую ноч... А дзяўчына, цалуючыся, зноў і зноў спрабуе вызірнуць з-за хлопцавага пляча: ну дзе ж, дзе ж той кіроўца. Яна ехала б, ехала цяпер, а гэты дылда ўсё ліпне і ліпне, б'е і б'е па твары сваімі потнымі валасамі... Стах злавіў сябе на тым, што

зайздросціць ім (і не адзін ён у гэтым аўтобусе), і таму лёгкі неспакой дзяўчыны выдаваў за тое, што яму самому мроілася: яна не любіць гэтага хлопца, а толькі гуляе ў закаханую. Аднак глядзеў і не мог вачэй адарваць ад гэтае сімпотнае парачкі.

Што прыйшоў нарэшце кіроўца, Стах зразумеў па тым, як калыхнуўся аўтобус пад грузным і рашучым целам і як хуценька пацалаваліся хлопец з дзяўчынаю. Яна выхапіла свае рукі з хлопцавых і лёгенька ўзбегла ў расчыненыя дзверы. Прайшла па салоне, увесь час гледзячы на свайго каханага, які з перона ўсім целам цягнуўся ўслед за ёю — як не разрываўся напалам. Прайшла і... села каля Стаха. Толькі цяпер звярнуў увагу Стах на тое, што месца побач з ім адзінае пустое ў аўтобусе і даўно чакае дзяўчыну, і што за гэтымі праводзінамі назіралі ўсе пасажыры.

Дзверы зашыпелі і мякка бразнулі, аўтобус крануўся. Дзяўчына падняла тоненькую руку з маленькай далонькай, пакруціла ёю ў паветры і... са шчырай палёгкай уздыхнула. Нібы вялізны цяжар з сябе скінула. Дзелавіта расчапіла сумачку на каленях, дастала люстэрка, угледзелася ў сябе, пакратала шчочкі, зморшчыла вусны... ні на кога не зважаючы, быццам у крэсле побач нікога не было. Потым дастала з сумачкі стракатую кніжачку на ангельскай мове, пстрыкнула начное святло над галавою — усё абыякава, млява, нехаця...

Ну і хай сабе. Аўтобус імчыць па вечаровым горадзе, і тут самы час было б спець оду яму. О, начны экспрэс! Як Стах любіў цябе! Тваё дрымотнае мроіва, хваравітае трызненне, якое абуджае фантазію і нараджае творчасць. Як лёгка думаецца ў мяккім фатэлі, што нясецца з хуткасцю сто кіламетраў у гадзіну, колькі вобразаў убачылася яму тут і колькі твораў прымроілася! Мільгаюць дрэвы, вёскі з хатамі, у якіх

не свеціцца ніводнага вакенца, а калі якое свеціцца — дык гэта цэлая паэма думак і пачуццяў... А начныя размовы выпадковых суседзяў — дзе яшчэ пачуеш такую нутраную шчырасць? А плаўная святламузыка фараў. А заклапочана-манатонны спеў матора — песня эскімоса ў снегавой пустэчы. А шчасце блізкай сустрэчы з Домам. А раптоўная стома, супрацiўляцца якой няма сілаў, бо ўсе нядаўнія турботы засталіся там, за вакном і — аддаляюцца, забываюцца. Забываюцца...

Але за вакном пакуль Менск, які стаў Стаху амаль родным. За спінай першы курс тэатральна-мастацкага інстытута, цяжкая сесія... а наперадзе — радасць сустрэчы з бацькамі, мілаю вёскаю, знаёмымі краявідамі, якія малявацъ не перамалявацъ. Цяпер не па памяці. Усё лета.

## 1в.

Памяць — дрэва, якое расце каранямі ўверх. Памяць — прамежак часу ад адзіноты ў лоне да адзіноты ў труне.

Сярод абсалютна «роўных» заўсёды ёсць больш «роўныя» і менш «роўныя». Зазірніце ў сваю памяць — і вы ўбачыце, што ўсё жыццё складаецца з крыўдаў. Крыўдзілі вас, крыўдзілі вы. Але вас — часцей. Кожнага з вас — часцей, чым кожнага...

Жывёлы памятаюць крыўду і крыўдзіцеляў, дрэвы памятаюць крыўду і крыўдзіцеляў. Усе, хто адчувае боль, маюць памяць. А боль — гэта і пакута, і асалода, і шчасце.

«Жыццё ёсць невылечная хвароба, якая перадаецца полавым шляхам». Чужая думка — пустая ў сваёй паўнаце.

Сон — таксама невылечная хвароба. Мары — невылечная хвароба. Усё, што робіць чалавека чалавекам — невылечнае.

Але не вечнае: Маўглі сніць і марыць, а ўжо не чалавек.

Спіце спакойна, і хай спакой вам толькі сніцца. Бо лепей журавель у небе, чымсьці ў руцэ сініца, якая ціха крадзе пшаніцу ў доме, што пабудаваў ваш дзед.

Чалавек адзінкавы, непаўторны экзэмпляр, які не паддаецца кланаванню. Статкавасць неўласцівая чалавеку, таму і не прыжыўся ў свеце камунізм.

Адзінота — дрэва, якое расце не ўверх, а ўніз: у сябе, у сябе.

Радзіма, і ўвогуле прывязанасць да пэўнага месца, таксама спадчынная хвароба, якая робіць чалавека — грамадзянінам.

Каб любіць... трэба кахаць... Каб кахаць, трэба любіць... Паэтам можаш ты не быць...

Усё ў гэтым свеце ўзаемазвязанае, запраграмаванае і закальцаванае. І нуль, а не згвалтаваная васьмёрка — вось сімвал гэтай закальцаванай бясконцасці. Вось сімвал твой забыты...

**2а.**

Стахава вёсачка была маленькая, згубленая ў лесе на поўдні Беларусі. Да школы, крамы, сельсавета, шасейкі — да цывілізацыі ўвогуле — шэсць кіламетраў старым, густа зарослым маладняком, лесам па сцяжыне, што блукала ўздоўж разбітай грузавымі машынамі дарогі, па якой на легкавіку не праедзеш і ў сухмень. А ўжо ў дажджы, калі глыбокія яміны рабіліся лужынамі-азёрамі, даехаць можна было хіба на гусенічным трактары. Шэсць кіламетраў — роўна

гадзіна хады пешкам, дваццаць хвілінаў язды на веласіпедзе, дзесяць — на матацыкле. Не так і далёка, калі падумаць, не такая і вялікая па сённяшнім часе плата за раскошу жыць сярод дзікай, нечапанай прыроды.

Стаху пашанцавала: вёсачка была не зусім паміраючай, стаяла ў ёй дзясяткі два жывых хатаў, і ў палове з іх былі дзеці — найменш двое-трое, а ў адной — васьмёра. Гулялі яны звычайна разам, амаль у цэнтры вёскі, там каля калодзежа меласяпашырэнне: на месцы, дзе некалі стаяла цэркаўка, потым — хата-чытальня, потым — клуб, спалены партызанамі, каб не дастаўся ворагам, цяпер была пустэча, пасярод стаптаная дзецьмі да току, а па краёх зарослая высокаю густою травою і лапушыннем, кустамі і дробнымі дрэўцамі: акацыяй, грушамі-дзічкамі — калючымі ды злоснымі.

Колькі Стах памятае сябе — яго заўсёды хвалявалі дзяўчынкі. І жанчыны ўвогуле. Здаецца, ён і нарадзіўся з гэтым непакоем. І не толькі ён... Суседскі, гадоў на пяць старэйшы і на той час, пра які Стах згадвае, самы вялікі хлопец у іх кампаніі — Сёмка, якога ўсе: і браты, і бацькі, і свае, і чужыя — клікалі па мянушцы Гец, таксама жыў толькі гэтым хваляваннем, і ў хлопцаў, якія збіраліся разам на пустцы, іншых размоваў не было, апроч як пра такія мары. «Эх, вось вырасту, ажанюся, — казаў Гец, лежачы пад дзічкай і задумліва-мройліва гледзячы ў высокае бясхмарнае неба, — ох і папакачаюся тады з жонкаю ў ложку, ох і папакачаюся...» Пры гэтым ён церабіў свой немалы ўжо стручок, які рос на вачах і выклікаў зайздрасць і захапленне ў малечы. Потым Гец пачынаў вучыць малых няхітрай навуцы, як атрымаць найбольшае задавальненне...

Аднойчы застаў яго за гэтым бацька і злупцаваў пругкім дубцом калючай акацыі да крыві.

Сёмка-Гец... Вечны двоечнік і прагульшчык урокаў у школе, ён, здавалася, мог гаварыць толькі пра дзяўчат, пра тое, як бы якую злавіць дзе ў кукурузе, у лесе, у калгасным садзе... Твар ягоны расплываўся ў слінявай усмешцы і рука, засунутая ў штаны, пачынала механічна ўжо не дрыжэць, а вібраваць... Ён урэшце і сеў у турму гадоў у сямнаццаць за спробу згвалтавання.

Вядома, былі ў вёсцы і дзяўчынкі. Аднак яны нібыта ад пачатку разумелі, што — іншыя, і трымаліся асобна.

Ды іх таксама цягнула да хлопцаў, і часта яны наладжвалі супольныя гульні — у «бабу-рабу-цап», у «квача», у «хованкі»... Падчас гэтых гульняў Сёмка-Гец толькі тым і займаўся, што стараўся ўшчыпнуць, ціскануць, «памацаць» тую ці іншую. Дзяўчаты пішчэлі, білі па руках, але з гульні не выходзілі, з чаго хлопцы рабілі выснову, што ім гэта падабаецца. Вечарамі, калі цямнела, меншыя дзеці ішлі дамоў, а старэйшыя заставаліся. Што рабілі яны, у якія гульні гулялі, Стах даведаўся, калі падрос.

...Маленькая вёсачка... Маленькая вёсачка... Цэлы свет у мініяцюры. Увесь свет у мініяцюры. Бо ці бывае ўвогуле вялікім тое, што вакол нас? Горад-мегаполіс і той сціскаецца, звужаецца да свайго раёна, вуліцы, двара... да свайго мікракосму, у якім ёсць месца толькі бацькам, родным, знаёмым, сябрам, сяброўкам... І ў вялізным сяле альбо ў аграмадным горадзе іх роўна столькі ж, колькі ў маленькай вёсачцы. І яны такія ж самыя. Недзе хітрэйшыя, а недзе больш наіўнашчырыя ў сваіх пачуццях і ўчынках, але — такія ж...

Абсалютна.

**26.**

...Але за вокнамі Менск. Сонны, ды яшчэ жывы. Ужо не мітуслівы, аднак гараць вітрыны, імчаць машыны. Спяшаюць некуды людзі. Купкамі і па адным. Часцей па адным. І гэтыя адзінокія постаці за шклом настолькі чужыя, што здаюцца фанернымі дэкарацыямі. Яны пралятаюць міма аўтобуса, не пакідаючы пасля сябе нічога. А ў іх жа недзе ёсць дзеці, а ў дзяцей — мары... А ў іх ёсць лёсы, характары, пакуты і шчасце... Як гэта намаляваць? Ці варта гэта маляв...

Стах спыніўся, замёр, замоўк, завіс на паўслове: халоднае калена дзяўчыны дакранулася да ягонай нагі. Неасцярожна, выпадкова. І яго бы токам праціла: куля са змешчаным цэнтрам цяжару трапіла ў нагу і пайшла гуляць па ўсім целе — ад нізу жывата, дзе імгненна ўсё напялася, загарэлася, захвалявала ажно забалела, да сэрца, якое затахкала, да галавы, якая ўспыхнула... Яго кінула ў жар, ён адчуў, як чырванее... Ён зразумеў, што чакаў, што жадаў гэтага дотыку, хацеў, прагнуў. Але сам бы на яго не адважыўся. «Стоп! — паспрабаваў ён супакоіць сябе. — Стоп! Нічога не адбылося... Стоп!» Аднак галава ягоная паплыла ўжо, ён не валодаў сабою, ён бачыў перад вачыма толькі аголеную да кароценькай спаднічкі нагу дзяўчыны, калена, якое вабіла яго, якое хацелася пагладзіць, проста дакрануцца...

Дзяўчына нібыта нічога не заўважыла. Яна схілілася да валізкі, што стаяла ў праходзе побач з крэслам і нешта хацела дастаць... Ножкі яе раз’ехаліся... Не-не-е... Стах адвярнуўся да вакна, унурыўся ў яго, прымусіў сябе супакоіцца: «Нічога не здарылася... Нічога не здарылася...» Менск заканчваўся. Паўз дарогу бег слаба асветлены «спальны» раён з аднолькавымі

дзевяціпавярховікамі і рэдкімі тралейбусамі... Аднак цела ягонае памятала той салодкі дотык, хварэла ім і прагнула новага...

Дзяўчына дастала з сумкі кнігу — гэтым разам расейскую, адгарнула закладзеную старонку: нікога з ёю побач не было, яна адна раскашавала ў крэсле, не зважаючы на цень хлопца справа. Між імі — маладымі, яшчэ неспатоленымі дарослымі забаўкамі — было ўсяго некалькі сантыметраў, якія аўтобус, пагойдваючыся на выбоінах, ператвараў у міліметры...

## 2в.

Адзінокімі не становяцца, адзінокімі нараджаюцца.

Адзіноты шукаюць найчасцей не людзі, якім абрыдла быць навідавоку, якія стаміліся ад шуму і тлуму, а людзі глыбока адзінокія.

Адзінокі чалавек не ідзе да людзей — на рынак, у краму, у кіно — а наадварот, пазбягае людных месцаў.

Людзі такія непадобныя між сабою: тое, што камфортна аднаму — раздражняе другога.

Хемінгуэй, каб пісаць, ішоў з друкаркаю ў бар і там пад віскі з содавай выстукваў чарговы аповед.

Гофман абклеіў чорнаю паперай увесь пакой, заткнуў усе дзіркі, каб пісаць у поўнай цішыні.

Адзінота — каму лёгкія крылы, а каму цяжкія кайданы, каму агідная змяя, а каму ласкавая котка.

І наадварот: каму ласкавая змяя, цяжкія крылы, лёгкія кайданы...

Можна пачуваць сябе адзінокім пасярод пчалінага гуду і мітусні вялізнага рынку, а можна не заўважаць адзіноты ў пустым доме на востраве за тысячу кіламетраў ад бліжэйшага жытла.

Самая страшная адзінота — у вясковай жанчыны, у якой рана памёр муж.

Мужчыну цяжка быць адзінокім нават у самай глухой вёсачцы: калі не хворы, ён і там не згубіцца, знойдзецца, яго абавязкова камусьці параяць.

Абсалютна адзінокіх людзей няма. У Рабінзона быў папугай, пакуль не з'явіўся Пятніца.

Увогуле — ніколі не бойцеся адзіноты: яна недасягальная.

Імкненне да адзіноты ёсць імкненнем да пачуцця адзіноты. І толькі.

Тэрмін «адзінота» — самы абстрактны з усіх канкрэтных і самы канкрэтны з усіх абстрактных.

У адзіноты няма твару, але заўсёды ёсць гаспадар, які носіць яе ў сабе і не ведае, што ён раб. Забярыце ў яго адзіноту — і што застанецца ад яго?

«Усё сваё жыццё мы не набываем сяброў, а толькі страчваем іх». Мы не цэнім іх, пакуль яны побач, і пачынаем разумець, што яны значылі для нас, толькі калі яны далёка альбо іх ужо няма.

Па сваёй натуры чалавек — істота статкавая. Маўглі губляюць сваю чалавецкасць за некалькі гадоў і так ніколі потым яе і не набываюць.

Шчасце і адзінота — несумяшчальныя. Адзінокі можа быць шчаслівым толькі калі не ведае, што недзе ёсць іншыя людзі.

Хрыстос у пустэльні не быў адзінокім.

Адам у раі да з'яўлення Евы не быў адзінокім. Што ёсць адзінота, Ён зразумеў не тады, калі Яна з'явілася, а калі Яна на хвілю знікла з вачэй.

Адзінота і ёсць пекла на зямлі.

Адзінота — шырокая рака, што паўстае раптам на тваім шляху, і не абысці яе, не пераплыць. За-

стаецца толькі чакаць Харона, які перавязе цябе на другі бераг.

Якім жа адзінокім будзе апошні чалавек на планеце Зямля!

**3а.**

Калі прыходзіла цемра і бабулькі, перамацаўшы бяззубымі ртамі дзённыя навіны, разыходзіліся, сагрэтыя імі лавачкі займалі хлопцы і дзяўчаты. І распачыналі новыя гульні, у якіх не змест быў важным, не сэнс. Галоўнае, на лавачках можна было сядзець побач з дзяўчатамі, а лавачкі заўсёды былі кароткімі, месца ўсім не хапала — цяснота неймаверная. Цяснота салодкая... Чутно, як тахкае сэрцайка тваёй суседкі, як дрыжыкі праходзяць па ейным целе... А можна, быццам неўпрыкмет, абняць яе за плечы, за талію — цесна ж, няма куды рукі падзець: такая дробная хлапечая хітрасць. Дзяўчына заўважыць, сцепанецца, крутнецца, каб адсунуцца, але — куды ж падзенешся — цяснота, і здасца...

А колькі гульняў было цудоўных, «лавачных». «Садоўнік»... «Я садоўнікам назваўся, не на жарты раззлаваўся, усе кветкі мне абрыдлі, апроч... апроч (выбірай!!!)... апроч васілька...» «Васілёк» адгукаўся — усе бралі сабе імёны кветак, а калі зазяваўся поруч з суседачкай, на табе — фант. І скончалася ўсё тым, што за фанты хлопцам і дзяўчатам прызначаліся розныя выпрабаванні, самым цяжкім (і частым!) сярод якіх было — пацалавацца... Так і Стах некалі ўпершыню ткнуўся вуснамі ў вусны дзяўчыне. Яго выбрала на год меншая суседская Нінка. Наўмысна. Ён няўмела і саромеючыся — хоць і цёмна, але здаецца, што ўсе ўсё бачаць, — падставіў твар, і яна гэтаксама нясмела і не дужа ўмела чмокнула яго: а што ж — фант такі выпаў...

А вось жа, памятаецца — было ў тых гульнях столькі чысціні і непасрэднасці! І ні каліва бруду. Нават той жа Сёмка-Гец хацеў здавацца лепшым, чым ёсць, і матам пры дзяўчатах не лаяўся ніколі.

Адсюль, з такіх гуляў, Стах некалі ўпершыню правёў дахаты дзяўчыну. Каго? Вядома ж, Нінку. Выбар у яго быў не дужа вялікі. Зрэшты, чаму ж. Выбар быў. Асабліва ўлетку, калі да бацькоў прыязджалі на адпачынак з гарадоў нядаўнія вяскоўцы са сваімі дзецьмі. Тады вёска ажывала. Доўгімі вечарамі мужчыны збіраліся на лавачках перакінуцца ў «дурня», бабы — папляткарыць, а дзеці пагуляць пакуль відно — у «пікура», у «клёца», у «штэндара»... а калі сцямнее — у «садоўніка»...

Збіраліся звычайна бліжэй да цэнтру вёскі, паблізу той самай пусткі. Большыя хлопцы ў гульні не ўдзельнічалі, стаялі збоку, пакурвалі і зіркалі на дзевак. Чакалі пакуль скончацца гулі, каб потым разабраць дзяўчат. Стах, скажам, сядзеў каля аднакласніцы Галі — пругкай, гарачай... і ведаў, што вунь стаіць Алік Атаманаў, які нервова чакае яе, а Галя нібыта стараецца аддаліць той момант, калі пойдзе з Алікам, дазваляе Стаху прыціснуцца да яе... Яна хітрыць... Дзяўчаты ўвогуле хутчэй за хлопцаў робяцца дарослымі, а ў вёсцы — тым болей. Мажліва таму, што страх працягу роду да іх прыходзіць раней...

## 36.

Дзяўчына чытала нейкі раман. Нібыта ўважліва. Стаха ж па-ранейшаму, нат краем вока, не заўважала. Мо і не бачыла зусім? Не, як хутка ён, аказваецца, забыўся — падышоўшы да яго, яна спынілася і спытала: «Тут сямнаццатае месца?» Прыгожым танклявым і

разам крыху грудным (мо яшчэ не астылым ад нядаўняе жарсці развітання) голасам спытала і слізганула па ім кароткім і вопытным (так-так, вопытным — Стах гэта адразу адчуў) поглядам. Імгненна ацаніла, не ўтойваючы сваёй цікаўнасці, ён нават уціснуўся глыбей у крэсла пад гэтым рэнтгенаўскім позіркам, дачакалася маўклівага кіўка галавой, і паставіла сумку каля крэсла. Стах злавіў сябе на тым, што ўвесь гэты час, як зачараваны, як заяц, загіпнатызаваны рухамі змяі, не можа адвесці вачэй ад дзяўчыны, а яна, заклапочаная хіба тым, што пад вакном стаіць яе каханы, спакойна села і падняла развітальна маленькую далоньку...

Стах адкінуў спінку крэсла, разняволіўся, бы сабраўся спаць. Але і не бачачы дзяўчыну, адчуваў яе блізкасць. Ён хутка стаміўся паўляжаць гэтак. Яму было нязручна, бо ўсё цела напятае, бо ўсім левым бокам ён лавіў прысутнасць дзяўчыны. Яму стала горача. Ён адарваў спіну ад крэсла, сеў, стамлёна паклаўшы рукі на калені, потым вырашыў зняць пінжак. Зняў і адчуў, што ў аўтобусе прахалодна, нават холадна. Стала лягчэй. Бакавым зрокам згледзеў, што і дзяўчына неўпрыкмет, цішком назірае за ім. Быццам чытае, аднак... Стах яшчэ раз прыкінуў, як спакусліва-далёка аголеныя яе ногі: спаднічка, калі дзяўчына села, зрабілася яшчэ карацейшай. Кароткая спадніца — мода. Ды і лета на двары — сярэдзіна чэрвеня. Дзяўчына, пэўна, была старэйшая за яго. Гады на два, не болей. І прыгожая... Стах пераканаўся ў гэтым яшчэ раз. Русявыя валасы да плячэй, вялікія вочы, крыху выцягнуты твар, свежая-свежая скура — нібы не вечар на вуліцы, не ноч. Маленькае вушка — дзіцячае проста. Бачыў Стах яе ў профіль, і яму неймаверна моцна захацелася пацалаваць яе

ў крыху прыўзняты, бы ва ўсмешцы Моны Лізы, куточак пульхных вуснаў. Пульхных — разагрэтых нядаўнімі пацалункамі — вуснаў.

Стах зноў заплюшчыў вочы, каб пастарацца забыць пра дзяўчыну. Апошнія тыдні ў яго былі надзвычай трывожнымі: яму трэба было здаць усе іспыты на «выдатна», каб атрымаць павышаную стыпендыю, бо бацькі асабліва не маглі дапамагаць яму вучыцца. Здаў, толькі на апошнім, які быў сёння, парваўшы троху нерваў. Гісторыя КПСС давалася яму з цяжкасцю. А тут яшчэ тэма: «Роля асобы ў гісторыі». Ніякая яна, гэтая роля, калі меркаваць па марксісцка-ленінску: усё вырашаюць масы. Ён не пагаджаўся з тым. А Аляксандр Македонскі, а Напалеон, а сам Ленін, урэшце... Масы ж — быдла, статак, хай сабе і такі абучаны, як войска ці дысцыплінаваны, як партыя... Аднак мусіў адказваць так, як патрабаваў падручнік. Выкладчык заўважыў слабінку, раскусіў яго і крыху паздзекаваўся «наваднымі» пытаннямі. Але «пяцёрку» паставіў. Стах вылецеў з аўдыторыі і адразу кінуўся на вакзал па квіток. У Менску заставацца не хацелася больш ні дня. Квіткі былі толькі на гэты — начны рэйс.

Стах расплюшчыў вочы. За вакном — цемра, суцэльная чарнота, пэўна, лес. Але калі зірнуць наперад, можна ўбачыць, як фары асвятляюць-выхопліваюць край дарогі, як імклівa нясецца аўтобус. Белыя начныя матылькі разлятаюцца перад ім, як адзінокія сняжынкі. Стах вярнуў позірк у салон. Квола-жоўтае святло на падлозе ледзь пазначала праход, большасць пасажыраў спала. Чыталі яшчэ двое — бачна было гэта па святле, што падала на іх зверху. Дзяўчына таксама быццам драмала: загорнутая кніга ляжала на каленях, і вялікі палец левай рукі быў у ёй закладкаю. Галаву дзяўчына паўадвярнула ад Стаха — і валасы адкрылі вушка,

агалілі край шыі, тое асабліваe месца ў жанчын, што пад вухам, — аксамітна-пяшчотнае, вабнае — гледзячы на якое, Стах заўжды нямеў, млеў ад замілавання, і сэрца ягонае пачынала вырывацца з грудзей...

Дзяўчына не спала. Стах бачыў гэта па тым, як злёгку ўздрыгвалі ейныя павекі, па той асаблівай напрузе твару, якой не бывае ў людзей, што спяць. Але — як яму карцела дакрануцца да яе, нахіліцца над ёю і... Не, не, не... Трэба супакоіцца. Што тут такога? Чужая дзяўчына. Хай і побач. Чужая!.. Чужая?.. А што, калі паддацца гайданню аўтобуса, даць волю сваёй левай назе... і прытуліцца на імгненне да такой блізкай, такой даступнай, такой спакуслівай нагі дзяўчыны?..

І што яму гэтак далося калена дзяўчыны?.. Чым яно яго прываражыла? Што ў ім такога спакуслівага? Блізкае, даступнае... Хіба што. Ну ты даеш! Даступнае... А па мордзе не хацеў? Але... Але — як бязвольна пагойдваецца нага дзяўчыны, крыху адстаючы ад калыхання аўтобуса. І спыняецца ў нейкім міліметры ад ягонай нагі. Яшчэ трошкі, яшчэ... Дапамагчы? Не, не, не...

Ніколі раней не жадаў Стах нічога падобнага, хоць амаль год ад'ездзіў у «самых сэксуальных у свеце» — так пісала адная газета — менскіх аўтобусах і тралейбусах, вечна перапоўненых у «гадзіны пік». Людская хваля часта прыбівала-прыціскала яго да вабнага дзявочага цела, але ён стараўся адсунуцца, саромеўся, а тут... Колькі разоў у такіх вось начных экспрэсах ён ехаў разам з файнымі дзяўчатамі, бывала і знаёмымі, але ніколі, ніколі не апаноўвалі ім такія думкі, такое неспатольнае, нясцерпнае жаданне.

Няўжо, няўжо прыйшоў ягоны час?..

Стах расплюшчыў вочы — твар дзяўчыны паружавеў, пакруглеў, быццам яна відочна папраўілася. Заснула, пэўна, заснула...

І тады Стах зрабіў выгляд, што паварочваецца да вакна. Няёмка так, няспрытна. І пры павароце — міжволі! — зусім таго не жадаючы, проста па неасцярожнасці, крануўся сваім каленам нагі дзяўчыны...

**3в.**

Прага адзіноты — псіхічная хвароба, яшчэ не апісаная дактарамі і не названая. не фобія, а манія.

Але ж прага да адзіноты ніколі не лічылася хваробай. Больш за тое, людзей, якія імкнуліся да адзіноты, называлі мудрацамі. Да іх ішлі па параду.

Яны хаваліся ад усіх — у бочцы, у пячоры, у скіце... каб не бачыць нікога, а найперш тых, хто набіваўся ў суразмоўцы, а то і ў вучні.

Іх потым залічвалі ў святыя, а трэба было проста вылечыць.

Хіба гэта нармальна, калі чалавек цураецца бліжніх, пазбягае іх і ўрэшце замыкаецца ў сваім закутку, не есць нічога, гніе жыўцом, адмаўляецца ад усяго?.. І ён — мудрэц?

Іншыя фобіі ды маніі — хваробы, а за гэтую — у святыя.

Аднак, калі б людзі часцей прыслухоўваліся да словаў такіх «псіхічна хворых», колькі б глупстваў на зямлі ўдалося пазбегнуць...

І ўвогуле, ці ёсць сёння абсалютна здаровыя людзі. Псіхічна. Пакажыце такога. Вы ўпэўненыя? Ну вось...

Няма такіх.

Пагартайце падручнік па псіхалогіі, прачытайце спіс хваробаў. Сімптомы некалькіх дзясяткаў у вас

ёсць, а дзве-тры — у чыстым выглядзе. Баіцеся мышэй — вы хворы чалавек. Любіце мышэй... Ці скажа большасць, што вы нармальны? Баіцеся вышыні — у вас псіхічнае расстройства. Любіце вышыню — вы герой! А ці герой? У вас элементарная манія. Вы маньяк! Маньяк вышыні. Вам лячыцца трэба, а вы — у лётчыкі...

Боязь быць смелым. Смеласць прызнацца, што баязлівы. Боязь зрабіць тое, чаго хочаш, што прагнеш... Смеласць дабіцца свайго...

Хочацца дакрануцца да жанчыны. Вам гэта прыемна. Фраттаж, кажаце. Цяга да супрацьлеглага полу? У бальніцу! У клініку! У дурдом!.. Да псіхіятра!..

Усё, што падабаецца вам, чаго хочацца, што вядзе да асалоды, — загана, распуста...

Усіх лячыць трэба. Усіх да аднаго! Усім лячыцца трэба. Пачынаючы з псіхіятраў...

**4а.**

Першае каханне... Што ёсць «першае каханне» і што ёсць «каханне» ўвогуле? Пажада? Жарсць? Юр? Падман, прыдуманы дзеля працягу роду?

Стаху здавалася — людзі і нараджаюцца ўжо закаханымі. Што ён мог бы назваць сваім «першым каханнем»? Дакладней, каго? Маці — банальна, не верце, гэта іншае... А калі ж у яго адбылося першае ўсведамленне сваёй цягі да... Госпадзе, як гэта кепска гучыць: «цяга да...»

Няўжо тады, калі бацька ўзяў яго з сабою ў райцэнтр. Горад... Яго больш за ўсё ўразіла колькасць платоў — у «прыватным сектары», каля рынку, яны былі бясконцыя... Ён узяў пруток, ішоў побач з бацькам і тарабаніў па штыкецінах. І так заняўся гэтым,

што і не заўважыў, як яму насустрач ідзе, гэтаксама стукаючы па плоце, дзяўчынка. Яны сышліся і сутыкнуліся лоб у лоб: ударыліся галовамі да гузакоў. Ён сцярпеў, пэўна, адчуваючы нейкую сваю віну, а дзяўчынка заплакала. Голасна, залілася слязьмі. Румзаючы падняла ручкі, кароценькая сукеначка падцягнулася, агаліўшы ружовенькія трусікі... Яна была міленькай, бо чысценькай і акуратненькай. Ён такой яе запомніў... Маці дзяўчынкі кінулася на яго з крыкам. І тады ён таксама заплакаў ад болю.

Потым Стах недзе чуў, што гэта — лёс, што, маўляў, тая дзяўчынка павінна стаць ягонаю жонкаю... Няўжо і сапраўды ёсць «лёс»?

Зрэшты — пра «першае каханне». Садка (дзіцячага), дзе, дарэчы, у большасці дзяцей якраз і прачынаюцца пачуцці, у іхняй вёсцы, зразумела, не было. Аднак мама з ім сядзець доўга не магла: які там «дэкрэтны» адпачынак, месяц — і ў калгас, на працу: кароўкі зачакаліся... А тут бабуля, з якою пакідала яго мама, надумала да сына ў Карэлію з'ездзіць. Ды і засталася там унукаў глядзець. Мама папрасіла назіраць за ім суседскую дзяўчынку, ужо школьніцу, Вальку. Ён чамусьці запомніў яе тою, якою яна была тады. Чаму? Не ведае. Але як нейкі сімвал — не ідэал, не, а проста сімвал жаноцкасці ці прыналежнасці да жанчынаў — яна запомнілася. Гэта каханне? А хто яго ведае...

Так, яго заўсёды, усё свядомае жыццё цягнула да жанчын. Свядомае?.. На сенакосе жанчыны ў абед купаліся голыя (вось жа, запомнілася — першы эратычны «фільм») у рачулцы, яго, малога, не саромеючыся. І ўжо тады ён разумеў нейкім сваім разуменнем, што ёсць прыгажосць, і вылучыў сярод аголеных баб і дзяўчын самую вабную. І гэта была

не ягоная мама... Тая цётка і сапраўды была самай прыгожай у вёсцы — ён ацаніў гэта, калі падрос, але яна так і засталася адзінокай...

Потым, згадваецца, стаіўшыся з суседскай Нінкай за хлявом, яны паказвалі адно аднаму, чым адрозніваюцца. Чаму гэта запомнілася? Хутчэй таму, што кепска яны схаваліся: бачыў іх здалёку Сёмка-Гец, які доўга з яго здзекаваўся-кпіў, крычаў услед «жаніх і нявеста», а ён саромеўся, чырванеў...

**46.**

...Нічога не здарылася. Гром не грымнуў, маланка не бліснула. Цемра не расступілася. І не асляпіла...

Але якая асалода пранізала ўсё Стахава цела... Чаканая, аднак неспадзеўна магутная.

Стах забыўся, дзе ён. Трэба было ўжо, як злодзею, адсоўваць нагу, а ён не здалеў прымусіць сябе зрабіць гэта. Д-р-э-в-ы нясуцца ўздоўж д-а-р-о-г-і — убачыў Стах затуманена-абвостраным зрокам — с-л-у-п-ы мільгаюць, часта, бы ш-т-ы-к-е-ц-і-н-ы, успыхваюць і патухаюць да-рож-ныя з-н-а-к-і... Але — трэба вяртацца ў салон: хітрасць не можа працягвацца в-е-ч-н-а.

І ён адарваўся ад цяпла дзяўчыны.

Яна, здаецца, нічога не адчула. Спіць? Няўжо спіць? Ага, спіць... І тады Стах таксама «заснуў». І ў «сне» лёгенька зноў прытуліў сваю нагу да нагі дзяўчыны: калена да калена, потым лытка да лыткі... Яна не варухнулася. Стах сядзеў з заплюшчанымі вачыма і лавіў кайф, што нахлынуў на яго. Яму хацелася, каб гэты стан доўжыўся і доўжыўся. Бясконца. Яму карцела большага: прытуліцца да гэтай мілай дзячыны ўсім целам, ці хоць бы бокам... Не, абняць яе, прыгарнуць да грудзей... Грудзі да грудзей... Ды

гэта было немагчыма. І ўсё ж плошча судакранання, паддаючыся пакалыхванню аўтобуса, усё большала і большала.

Яны «спалі». Стах балдзеў. Ён жыў цяпер толькі гэтым. Праз дотык ён адчуваў усю дзяўчыну, ён ужо «абследаваў» яе. Пабываў заплюшчанымі вачыма ўсюды, дзе хацеў. І гатовы быў паклясціся, што яна не спіць. Бо і яе сэрца білася там, у назе, і ўсё часцей, часцей, часцей... А можа, яна спіць — засумняваўся Стах. Няўжо спіць? Няўжо яна не адчувае «кантакту»? Няўжо ёй не прыемна? Няўжо ёй да ліхтара? Ці ёй таксама хочацца гэтага?

Стах паспрабаваў (як жа яму не хацелася таго!) крыху адхіліць сваю нагу (дзеля эксперыменту, вядома, у такт аўтобусу), і яму падалося, дзявочая нага хітнулася ўслед... Ён вярнуў нагу назад і атрымаў яшчэ большую порцыю асалоды, бо, здаецца, адчуў «кантакт». Зноў адтуліў нагу (эксперыментатар, пта маць!), і цяпер ужо праз паўрасплюшчаныя павекі ўбачыў, як дзявочая нага нібы за магнітам пахіснулася за ягонай... «Не спіць», — вырашыў ён.

Колькі часу яны сядзелі гэтак — ловячы асалоду ад блізкасці адно аднаго, і целы іх патроху-пацігху, як яму думалася, зусім незаўважна, прыцягваліся... І хто да каго падсоўваўся? Стах мог пабажыцца, што і яна таксама... Ці гэта ён выдумваў сабе апраўданне, разумеючы, што займаецца не дужа прыстойнай справай. Але спыніцца не мог. Ноч... Дарога... Аўтобус гайдаецца, спакушае... І адна адзінота туліцца да другой, каб хоць адною адзінотай у свеце стала менш.

Калі экспрэс пад'ехаў да першага свайго прыпынку — падкаціўся пад павець і сцішыўся, калі заварушыліся пасажыры, калі пайшла гамана па салоне: «Дзе гэта мы?», «Што за станцыя?», «Бабруйск?»,

«Асіповічы?», «Колькі будзем стаяць?» — «прачнуліся» і Стах з дзяўчынаю. Першаю яна: ён адчуў, як холад атуляе, агортвае месца, дзе яшчэ нядаўна было ейнае цяпло. І тады «прачнуўся» ён. Зірнуў на дзяўчыну. І ўбачыў тое, што хацеў: яму падалося, што яна аднымі вачыма «ўсміхнулася» яму, нібы «падзякавала», нібы «адобрыла». А што? А чаму б і не?..

«Вы выходзіце? — спытаў Стах, і выдаў сябе, сваё хваляванне, бо язык непаслухмяна заплёўся на гэтым «вы-вы», — не?.. Тады дазвольце...» Дзяўчына моўчкі ўстала, прапусціла яго. Стах слізгануў вачыма па яе чыстым ілбе, па густых валасах, чуйным носам злавіў пах — тонкі пах парфумы і жаночага цела... і выйшаў у начную прахалоду. Мужчыны і жанчыны разбрыліся па платформе, палілі, прагульваліся. Сонныя, нечым незадаволеныя, бурклівыя. І Стах пасміхнуўся, гледзячы на іх.

**4в.**

Скошаная травінка стала сенам, сена — малаком. Сагрэтае малако ўратавала чалавека ад смерці...

Нічога на свеце няма выпадковага.

Часовасць усяго — вось што найбольш турбуе. Бо часовасць, нанізаная на выпадак, робіць усё кароткае імгненным, а доўгае падаўжае да бясконцасці.

Толькі сон лечыць, расцягваючы ў часе, аддаляючы ад нас падзеі і здарэнні. І сваё пачынае здавацца чужым.

Адзінае, што трэба чалавеку, — спакой. Нават у экстрыме ён шукае спакою: «а ён, мяцежны, хоча буры...» Цэлае жыццё шукае, нібыта не ведаючы, што якраз спакоем усё і заканчваецца.

Ніхто так хутка не аддаляецца ад вас, як вашыя дзеці, бо ніхто не быў так блізка.

Боль і асалода, пакута і шчасце — рэчы настолькі палярныя, што сыходзяцца на другім полюсе і зліваюцца ў адно. Боль робіцца асалодай, пакута — шчасцем. І наадварот.

Людзі ўсяму зайздросцяць. Нават чужой смерці: адпакутаваў. А самі чапляюцца за жыццё да апошняга.

Кажуць: адтуль яшчэ ніхто не вярнуўся. Сюды. Няпраўда — вярталіся.

Хто, калі, дзе бачыў цалкам задаволенага сабою, сваім лёсам? Ніхто, ніколі, нідзе. Хоць часам людзі гэтую незадаволенасць скіроўваюць на іншых: кепскі муж, паганая жонка — яны вінаватыя. Падман. І добра, калі самападман.

Калі Марфей апераджае Харона — жыццё дае нам надзею прачнуцца.

Усё на свеце глыбока асабістае. Усё ў адзіночным ліку. Чалавек — самая адасобленая, самая замкнутая ў сабе істота з усіх статкавых.

Ніхто не можа пабыць у скуры іншага. Чалавек — уяўны свет, які з'яўляецца з ягоным нараджэннем і знікае з ягонай смерцю.

Але прыходзіць сон. Сніцца прыгожае і страшнае, пакуль не прачнешся.

Здольнасць марыць — апошняе, што адрознівае чалавека ад жывёлы. І першае, што зрабіла яго чалавекам. Ці марыць муха? А слон? Мядзведзь? Дрэва зімою?

Мала хто запісвае свае думкі, і амаль ніхто не фіксуе іх. А калі нехта паспрабуе зрабіць гэта — ён жахнецца: колькі зла носіць у сабе чалавек. І як мала дабра.

Жыццё кароткае, і толькі адзінота падаўжае яго: бярэ ў канцы і прыточвае ў сярэдзіне.

Адзінота — гэта вайна шэрага з шэрым, у якой перамагае шэрае.

Усё часовае — вечнае. Усё абсурднае — звышлагічнае. Трэба толькі не ленавацца.

Не стамляйцеся лячыцца сном. Бо менавіта ў сне вы адкрытыя для іншых, вы кантактуеце з іншымі. Удзень вы — рэч у сабе. Ніхто не ведае вашых думак, а чужыя — вы самі выдумляеце.

«У добрых думак — кароткія штонікі», «Дзе коратка — там і рвецца», «Ціха сам з сабою... з цэлым народам гутарку весці».

Кепскае — кароткае — сваё.

Добрае — доўгае... у чужых руках...

Шчасце доўгім не бывае, як гора кароткім.

Самае доўгае шчасце можа не даць шчасця, а самае доўгае гора не быць горам. Не таму, што ўсё адносна і залежыць толькі ад нашага ўспрыняцця, а таму, што няма нічога вечнага.

Апроч адзіноты.

...Чалавек — скошаная травінка, якая думае, што яна думае.

### 5а.

Стах сядзеў за другою партай, а за першай, каля стала настаўніцы, сядзела самая файная дзяўчынка ў класе.

Яна заўсёды была проста перад ім: падымеш галаву, і вось яна — злева. Іх так пасадзілі: хлопчыкі справа, дзяўчынкі злева.

Таня! Якое прыгожае імя! Ён ніколі не думаў, што самае звычайнае імя можа быць такім прыгожым. Яму хацелася паўтараць і паўтараць яго. Па дарозе дамоў, да сваёй вёсачкі, на самай тоўстай бярозе Стах

выразаў яе імя і кожны раз праходзіў і любаваўся ім, нібыта ёю...

Так, яна, Таня, а не суседка Нінка, не Валя, якая глядзела яго, і нават не мама, была ягоным першым каханнем. Гэта яе імя ледзь высвечваецца цяпер на ягонай левай руцэ: калі напружыцца, калі ведаць, можна і цяпер яшчэ скласці ў літары сінія кропачкі наколкі, няўмела зробленай яму Сёмкам у чацвёртым класе. Ён стрываў боль, але наколка не ўдалася... Як і іхняе каханне. Бо ён так і не адважыўся прызнацца ёй. Хоць, здаецца, усе ў класе і настаўнікі ведалі пра ягоную неабыякавасць да Танькі. Ведала і яна сама. Пэўна, таму і пазбягала яго. Дарэчы, і першы партрэт, які намаляваў ён і па памяці, і з «натуры», быў яе. У профіль і крыху збоку — гэтак, як бачыў яе ў класе. Можа, і маляваць ён пачаў у вёсцы таму, што летам сумаваў па ёй, а «картачкі» ў яго не было.

У дзявяты клас Таня не пайшла: паступіла ў тэхнікум. Маскоўскі, харчовы, дзе вучылі на тэхнолагаў, што робяць каўбасы. І ўсё — знікла з ягонага жыцця, як прапала...

А тое, што было ў іхняй вёсцы, тыя гульні разам, тая «дружба», — не былі каханнем. То была цяга, прага, якая дыктавалася прыродай, пэўная патрэба, што хвалявала, не давала спакою. Ад нараджэння. І толькі.

Стаху было гадоў восем-дзевяць, калі ён упершыню ўбачыў, «як гэта робіцца».

Побач з вёскаю быў алёс. Дакладней, вёска паўакружала — паўабдымала падковай — яго, гэтае лясное балота, у якім амаль заўсёды стаяла, чмякала пад нагамі вада. Пасярод алёсу быў астравок-палянка: яшчэ адное месца гульняў дзятвы. Але — таемнае. Тут была ў іх «вышка» на дрэве: своеасаблівы будан, амаль не бачны з зямлі, змайстраваны на старой раскідзістай

асіне невядома кім і невядома калі, аднак штогод паднаўляльны. Там, у шалашы на дрэве, гулялі яны ў «ачко» на грошы, што дарослыя забаранялі. Дзяўчынак туды з сабою не бралі ніколі, ды яны і самі баяліся хадзіць, бо на дрэва трэ было ўзлазіць па слізкіх, зарослых і амаль незаўважных прыступках — круках, знятых з тэлеграфных слупоў.

Аднойчы ішлі яны да сваёй «вышкі» і раптам пачулі на палянцы чыесьці асцярожныя галасы. Хлопцы адразу сцямілі, што адбываецца нешта таемнае, забароненае. Сцішыліся і пачалі падкрадацца.

З-за вольхаў, аднекуль знізу, з высокае травы, чуўся цяпер толькі жаночы голас, і па ім кожны з іх мог здагадацца, што там робіцца. Жанчына прасіла: «Хопіць... Хопіць...» — і адчайна стагнала. Мужчына маўчаў і гучна, з хрыпам соп. Яны вызірнулі з-за дрэва і спачатку ўбачылі, як над травою падымаецца і апускаецца голы бела-сіні, з ружовінкамі пасярод, зад. Узлятае і з сілаю падае ўніз. І тады з травы чуецца стогн і просьбы: «Хо-о-піць...».

Вышка была на краі палянкі. Яны ўзлезлі наверх. Адсюль усё было відаць як на далоні, як на засланым зялёным абрусам стале. Сэрцы іх забіліся яшчэ хутчэй. Яны пазналі мужчыну — то быў кульгавы Яўген, няўдаліца, няўклюда, які жыў адзін, бо бацькі памерлі, а жонкі не займеў. Пазналі і жанчыну — дзяўчыну, тую самую Валю, якая некалі аберагала Стаха... І як яна магла?..

Колькі іх было ў тым будане? Пяцёра... не больш. Стах быў самым меншым. І ўсе, гледзячы на гэтае «кіно», бы па камандзе, засунулі рукі ў штаны. А ён пасаромеўся: там была Валя...

Аднак на палянцы нешта здарылася. Падхапіўся на калені Яўген. Прысеў над Валяю. «Што, што з табою?» — пытаўся. Валя нібыта заснула. «Прытом-

насць страціла...» — прашаптаў нехта з хлопцаў. Яўген падцягнуў штаны і, трымаючы іх у руках, пакульгекаў па сцяжыне да вёскі. «Па ваду пабег...» — зноў сказаў хтосьці. А на паляне ляжала голая, расхрыстаная дзяўчына, якую не засціла цяпер цела мужчыны. Яўген нават не затуліў, не накрыў яе — так і пакінуў... І самы старэйшы з іх — той жа Сёмка — нічога не кажучы, злез з вышкі, падбег і лёг на Валю. Ляжаў і торгаўся, амаль як Яўген, толькі нейк коратка і хутка, а над ім ужо стаяў ягоны брат Івута і ныў-прасіў: «Ну злазь ужо, дай і мне пасправабаваць... Дай і мне...» Сёмка нехаця падняўся, і да Валі прыпаў Івута. Потым Віталь... Стаху было брыдка назіраць за гэтым? Яму хацелася ўцячы, каб не рабіць тое, што і хлопцы, бо адмовіцца перад імі ён не змог бы. Але ён чакаў чаргі... Ч-а-к-а-ў ч-а-р-г-і, не ведаючы, куды падзець вочы. І тут з боку сцяжыны пачуўся шоргат ног і шум: нехта бег, спяшаў. «Кульгач!» — крыкнуў Сёмка, і яны кінуліся да кустоў...

З алёсу Яўген і Валя выходзілі паасобку. Спачатку Валя — яны назіралі за гэтым здалёк — няўпэўнена, пагойдваючыся, бы п'яная, асцярожна мацаючы нагамі зямлю, а потым Яўген — азіраючыся, як нешта ўкраўшы, і спешна-радасна, жвава: кульгецъ, кульгецъ подбегам...

А Стаху, між іншым, падалося, што Валя прыйшла ў сябе яшчэ да таго, як на яе лёг Сёмка, аднак выгляду не падала... Чаго баялася? Галоўнае — каго?..

## 56.

Дзяўчына прыязна ўсміхнулася Стаху, калі ён вярнуўся да свайго месца. Прапусціла да вакна (зноў пах валасоў, цела: водар!..), спытала:

— Холадна?

— Не сказаў бы. Але зоркі на небе не відаць ніводнай. Пад раніцу тут будзе дождж.

— Ты фенолаг ці проста назіральны чалавек?

— Не, я захапляюся астраноміяй і дужа шкадую, калі хмары захінаюць зоркі.

— Значыць, ты вельмі летуценны чалавек, любіш марыць, у сне лятаеш...

— Лятаю («Што за намёк на сон?» — падумаў Стах), а вы што — прафесійная гадалка? — яму не спадабалася неспадзяваная напорыстасць, наступальнасць дзяўчыны. Ён заўважыў, як лёгка, адразу яна перайшла на «ты», і ў ягоным «вы» таксама быў прыхаваны выклік. Дзяўчына ніяк не зрэагавала, а толькі зноў спагадна-ветла ўсміхнулася:

— Я трошкі псіхолаг, без пяці хвілінаў дыпламаваны, а значыць яшчэ не прафесіянал, аднак ужо і не аматар... Магу і пагадаць — давайце руку...

— Заўтра... — выйшла грубавата, хоць Стах і скарыстаў свой даўні жарт, бо ніякага «заўтра» ў іх з дзяўчынаю быць не магло, — вы студэнтка?

— Потым пра гэта... А гадаць, дарэчы, можна па твары — па носе, вуснах, ілбе, па вушах, вачах... Па фігуры, па манерах трымацца, па голасе... а не толькі па руцэ. Вось я магу сказаць пра цябе, што ты нядаўні вясковец. Студэнт. Курс гэтак другі... — Яна какетліва зірнула Стаху ў вочы: ці так? Стах не падаў выгляду, што аценіў гэта. — Выдатнік, чалавек творчы, таму не з палітэха, не з наргаса... Філолаг — можа быць. Вершы, прынамсі, пішаш. Едзеш на канікулы да бацькоў...

— Так і я магу пагадаць — вы гарадская, з інтэлігентнай сям'і, маеце жаніха... — ён не стрымаўся, усміхнуўся, гледзячы, як уважліва яна слухае: — Даруйце, нясу нейкую лухту...

— Не, чаму ж, цікава. — Яна выключыла святло над сабою, і ў паўцемры стала яшчэ больш прыгожаю і жаданай. Кніга ляжала на каленях, загорнутая, і яна павольна пагладжвала яе рукой, двума пальцамі, уздоўж карэньчыка: уверх-уніз, уверх-уніз... Стах толькі цяпер заўважыў, што яны стараюцца гаварыць паўшэптам, каб не замінаць пасажырам-суседзям драмаць. І гэта надавала іхняй гутарцы дадатковую шчырасць і нават інтымнасць.

— Я не псіхолаг і тым больш не гадалка, — сказаў Стах, гледзячы дзяўчыне ў вочы і дзівячыся сваёй раптоўнай смеласці, — але бачу, што вам, як і мне, не спіцца. Дарога ў нас далёкая, дык чаму б нам, землякам, не пазнаёміцца бліжэй?.. Бо ўгадаць, як вас завуць, я не бяруся. І вам гадаць не раю.

— Добра, але пяройдзем на «ты»... Іра, — і дзяўчына працягнула Стаху сваю маленькую далоньку.

## 5в.

Быць смешным не смешна.

Стах жыў у інтэрнаце ў адным пакоі са старшакурснікам-клоўнам, які казаў, што любіць бачыць, як з яго смяюцца.

«Калі ты на сцэне?» — пытаў Стах. «Не, заўсёды», — адказваў клоўн. «Бо ты лічыш, што цябе пазнаюць і смяюцца з таго, сцэнічнага, як з Нікуліна?» Дарэчы, прозвішча хлопца-клоўна і было Нікулін, а ён змяніў яго на незразумелы псеўданім «Пясочны» (у касцюме такога колеру выступаў). «Не, я заўсёды, свядома ці падсвядома, усюды: дома, у аўтобусе, на людзях — раблю так, каб было смешна. Купляю хлеб, бяру з рук прадаўшчыцы і выпускаю яго на стол так, каб яна спачатку войкнула ў адчай-

ным спалоху, а потым пасмяялася... Я нарадзіўся такім. Я люблю, калі з мяне смяюцца». — «А калі ты не робіш наўмысна смешна, а наадварот, кажаш нешта сур'ёзна, а з цябе ўсё роўна смяюцца, цябе гэта не раздражняе? Табе гэта таксама прыемна?» Клоўн хацеў адказаць: «Так!», але раптам задумаўся і прамовіў — не зразумець, усур'ёз ці жартам: «Мне ніколі не стаць прэзідэнтам краіны. Я сам сябе абмежаваў...»

Жыццё называюць цыркам. Але цырк жыццём — не адважваюцца.

Чалавека называюць клоўнам. А клоўна чалавекам? Гэта маецца на ўвазе, падразумяваецца...

Стаху здавалася, што няма абмежаванняў на прафесію. І добры клоўн можа стаць добрым прэзідэнтам.

Але ж кепскі — ніколі. Затое кепскі прэзідэнт можа быць добрым клоўнам. А добры — ніколі.

Добры клоўн заўсёды сярод сяброў. А як адзінока кепскаму прэзідэнту! Вакол яго тысячы людзей, якія ўмеюць зазіраць у рот, выконваць любую прыхамаць, а яму — хрэнова, а яму — адзінока...

І тады ён бярэ гармонік, зачыняецца ў сваім вялізным кабінеце, грае і спявае ў самотным адчаі на поўны голас...

**6а.**

Летам, між дзявятым і дзясятым класам, Стах упершыню ўсур'ёз правёў дзяўчыну дахаты. І потым з месяц «хадзіў» з ёю. Так гэта называлася: «Ты з кім ходзіш?», а не «сябруеш»... Амаль месяц, пакуль жыла яна ў вёсцы ў бабулі. Дзяўчына была старэйшаю за яго і ўжо вучылася ў нейкай вучэльні, але драбнейшаю: і станам, і ростам Стах выглядаў куды сталейшым і за ейных гарадскіх аднакурснікаў-шчаўлікаў.

Увогуле Стаху было цяжкавата знаёміцца з дзяўчатамі. Бо нейкім невясковым ён быў. Ненармальным. Бо які ж звычайны вясковец будзе цэлы вечар дзяўчыне пра зоркі расказваць і рукамі, замест таго, каб абдымаць яе, паказваць, дзе абедзве Мядзведзіцы, а дзе Касіяпея?.. Гэта ён потым зразумеў, што хоць жанчыны і любяць вушамі, але чуць яны хочуць іншае, і ягоная «эрудыцыя» і «выхаванасць» павінны быць пастаўленыя на службу пэўным намерам. Яму трэ было быць «простым» вясковым хлопцам і не «выпендрывацца» нават на першым курсе, а не тое што ў вёсцы...

Стах бачыў, што гарадскія дзяўчаты выбіраюць не па розуму, а наадварот: чым нахабнейшы і дурнейшы хлопец, чым хутчэй ён пачынае «распускаць» рукі, тым болей у яго шанцаў. Ён бачыў, што яны не «дуры набітыя», аднак з вялікім захапленнем слухалі хлусню чарговага Сёмкі, які пахваляўся тым, як учора на трактары ганяў перапалоханых курэй ды гусей у суседняй вёсцы, а аднаму гусю праехаў проста па даўжэзнай шыі. Пры гэтым Сёмка стараўся размаўляць па-расейску, хоць сам у сваім пэтэвэ толькі «да» і «нет» казаць навучыўся.

Стах жа ніколі, прынцыпова, не «ламаў» язык перад дзяўчатамі, заўсёды размаўляў па-свойму, хоць расейскую мову ведаў дасканала, прынамсі, калі летам ездзіў да дзядзькі ў Карэлію, там у яго акцэнту і не заўважалі... Стах рос у той час, калі ў беларускіх вёсках жанчын яшчэ паважалі і шанавалі, узвялічвалі і аддавалі ім першынства. Але часы мяняліся, і мяняліся проста на ягоных вачах. І вінаватымі ў тых зменах былі і самі жанчыны, якія жадалі быць (здавацца?) больш незалежнымі. Стах бачыў, што ў Сёмкавых аповедах самае цікавае дзяўчатам было

тое, што ён пры гэтым рукамі сваімі лазіў усюды, дзе можна і няможна...

Стах жа, нават калі заставаўся з дзяўчынаю сам-насам, баяўся абняць яе, а не тое што пацалаваць.

Тую дзяўчыну, пэтэвэшніцу, звалі Ірка... Таксама, дарэчы, Іра. Бывае ж такое, што па жыцці суправаджаюць жанчыны з адным і тым жа імем. (Гэта потым яго вучыў старшакурснік-клоўн, што каханку трэ выбіраць з імем жонкі: тады ў ложку не памылішся...) Ірка мужна, штовечар, выхадзіла з ім колькі тыдняў — самае большае за руку патрымацца ды ў вочы пазазіраць, — слухаючы распаведы пра зоркі, пра цікавосткі жыцця вясковага, пра смешныя выпадкі са Стахавага такога кароткага вопыту... і нарэшце не вытрывала і сказала яму пры развітанні: «Ты мне падабаешся...» Для яго гэта было нечакана, але не здзівіла: а як жа іначай, калі яны столькі часу «ходзяць»... І яна яму таксама падабаецца... Яны стаялі каля падворка яе бабулі, і ён моўчкі лыпаў на Ірку, не выпускаючы ейныя рукі, сціскаючы іх усё мацней і мацней. І тады яна вызваліла рукі, прыгарнула яго да сябе і пацалавала. Лёгка кранулася сухімі вуснамі. У цішыні пачулася: «Па-а-а...» — чмокнулі яе губы... Цалуючы, Ірка ўкалола-кранулася яго пругкімі ў станіку ўзгоркамі сваіх грудзей, і ён ледзь не самлеў ад гэтага дотыку. А яна прашаптала: «Бывай...» і пабегла дамоў.

**66.**

Такім чынам, яна назвалася Ірай. Ён — Стахам («Якое незвычайнае імя!» — Караткевіча, відаць, не чытала). Яна ехала праведаць бабулю, у якой некалі жыла кожнае лета. Вёска яе была далекавата ад яго-

най — у іншым раёне. І бачыцца яны раней ніяк не маглі. Праводзіў яе жаніх, з якім яна заручылася, і ў ліпені будзе вяселле. Іра і сапраўды студэнтка — перайшла на апошні курс. Вучыцца не любіць. Лічыць, што ўся кар'ера для жанчыны — удала выйсці замуж. Разумна. Выгадна. Будучы муж — сын дыпламата і сам стане дыпламатам... Стах слухаў яе і адразу забываў, што яна кажа, бо словы цяпер нічога не значылі. Ён не заўважыў, як яе рукі апынуліся ў ягоных. Ён трымаў іх — маленькія, кволыя, цёплыя — і не мог натрымацца. Ён кахаў яе — так, кахаў, хіба для гэтага трэба шмат часу? — гэтую чужую жанчыну. Ён пакахаў яе з першага погляду, яшчэ там, на пероне, калі праходзіў паўз іх з хлопцам у аўтобус. Ён тапіўся цяпер у ейных бліскучых, вільготных, вялікіх вачах, у якіх прабягала святло рэдкіх сустрэчных машынаў. Стах паднёс яе рукі да вуснаў і пацалаваў. Ён дзівіўся сабе: раней ніколі не змог бы адважыцца на такую смеласць. Іра сцепанулася — страпянулася так тонка, быццам нябачная хваля прабегла па ейным целе, — але рукі не забірала. І Стах адчуў сябе зусім хлопчыкам у параўнанні з гэтай жанчынай, з гэтай ільвіцай, якая ў любы момант можа яго разарваць на кавалкі, можа ўзняць, узвысіць, а можа апусціць, выкінуць, зруйнаваць, знішчыць... Стах разумеў, што і яна гэта ведае, што ягоны лёс, ягоная будучыня цяпер у гэтых маленькіх руках, якія ён трымае ў сваіх. Яна ўжо адчула, што можа дыктаваць яму ўмовы, і ёй гэта спадабалася: чаму б не пагуляцца з нявопытным шчанючком?.. Ноч, глухая ноч. Іх двое. Ён хваравіта гарыць, палае. Людзі вакол для яе — не больш чым манекены, антураж... Чуюць іх шэпт — ну і што? Выйдуць на сваім прыпынку і забудуць. Ён жа іх увогуле не заўважае. Мілы, наіўны вясковы

хлапчук, які, напэўна, у жыцці яшчэ нічога не бачыў, толькі што вырваўся ў свет са сваёй вёсачкі... Чаму б не завесці яго?.. Тым больш, што ноч, сумна і спаць не хочацца; тым больш, што ў любы момант гульню гэтую можна перапыніць...

Стаха прываражыла гэтая жанчына, як ніхто раней, ён не валодаў сабою, не мог спыніць сябе, нібыта і сапраўды прыйшоў ягоны час. Яна была так блізка і здавалася такой даступнай. Яму хацелася большага і большага... Ён закахана глядзеў у яе вочы, і яна разумела, што гэта не акцёрства, не гульня, што гэта шчыра, што і ў яе, мусіць, такога яшчэ не было і наўрад ці калі будзе... І яна таксама моўчкі, крыху стомлена, пазірала ў ягоныя вочы, якія глядзелі шырока-шырока... Крыху стомлена глядзела, але быццам бы дазваляльна-заахвочвальна... Прынамсі, Стаху так падалося. Ён падсунуўся да яе бліжэй, адчуў ейнае цела — яно зноў страпянулася, затрымцела, чуйна напялася, як лёска, калі рыбіна кратае нажыўку... Вочы яе яшчэ больш заблішчэлі, пакрыліся туманам... Пажадай? Жаданнем? Жарсцю?.. Стах не думаў пра гэта. Ён думаў толькі: «Якая ж ты прыгожая, Ірынка...», і праз паўзу: «Як жа я цябе хачу...»

Іра раптам адабрала ў яго свае рукі, адсунулася на край крэсла, грубавата адштурхнула ад сябе — і настойліва, працяжна, бы змяя ў мульціку, прашаптала: «Спі-і-і!» Стах не здзівіўся гэтай нечаканай перамене. Са свайго невялікага вопыту ён ведаў ужо, што гэта своеасаблівая лакмусавая паперка: праверка мужчыны на трываласць, што гэта і ёсць дазвол жанчыны ісці далей, пераступаць мяжу... Ён пяшчотна абхапіў яе галаву, прыцягнуў да сябе і пацалаваў гарачымі вуснамі ў шчаку, у вусны, у шчаку, у вушка, вушка, вушка... Прагна, па-даросламу, як не цалаваў яшчэ нікога.

— Спі-і, спі-і, — шаптала яна, і дыханне яе збівалася, — спі-і... — бо вусны не слухаліся яе і лавілі ягоныя, — спі-і... — і грудзі шалёна, адчайна ўздымаліся, — спі-і...

**6в.**

Асалода — гэта самападман.

І каханне — самападман.

Любое імкненне шукаць асалоду — хвароба. Але любое імкненне атрымаць асалоду ёсць нармальная з'ява, незалежна ад таго, якім чынам гэтая асалода даецца. Няма нічога забароненага. Як можна забараніць тое, ад чаго чалавеку добра? Галоўнае, каб пры гэтым было добра кожнаму паасобку і ўсім разам. І ніякага гвалту. Ні над кім. Ніколі. Усё толькі па згодзе.

І тады любыя спосабы і любыя варыянты атрымання асалоды мажлівыя. Разнаполыя, аднаполыя, калектыўныя...

Толькі — ні кроплі прымусу, здзеку, гвалту, падману, хітрыкаў. Усё па добрай згодзе: «Табе «калясо» і мне «калясо»...

Вам добра? Ну дык «упярод».

Стаха ж цікавілі выключна жанчыны. Яго задавальняў толькі адзін варыянт: мужчына + жанчына. Ён шукаў яго. І гэта было адзінае, што жыццё магло супрацьпаставіць ягонай самоце. Жанчына не давала яму быць адным. Адзіным — так, але не адным... Жанчыны — вось што ў рэшце рэшт разбіла ягонае ўяўленне пра адзіноту. Пакуль ёсць жанчыны — ён не самотны...

І цягнецца адна адзінота да другой. І разам ім добра.

Жанчыне добра — пакуль добра, пакуль ідзе «працэс трэння». Мужчыну добра — пакуль не

выштурхне з сябе семя. Жанчына схопіць імпульс звышдобрага і зноў вяртаецца да ранейшага — да проста добра. І так да бясконцасці. І ў любы момант гэтай даброты яна можа адпіхнуць мужчыну, устаць, абцягнуць спаднічку, паправіць прычоску, падфарбаваць вусны і як ні ў чым не бывала сысці...

Жанчына можа не заўважыць «разрыву», перайсці ад стану трэння да стану спакою амаль імгненна. Гэтаксама лёгка яна можа падняць спаднічку, растуліць ногі і быць гатовай прыняць порцыю асалоды...

Жанчына больш дасканалая істота, чым мужчына, бо менш тонкая.

Жанчына адзінокая заўсёды. І да таго, і пасля. Адзінокая і няшчасная. Падманутая сама сабой. І найбольш адзінокая яна якраз тады, калі носіць у сабе другое — новае — жыццё...

Мужчына ж не супакоіцца, пакуль не выкіне з сябе семя. Ён будзе страшэнна пакутаваць, калі гэта не здарыцца, пакуль гэта не здарыцца. А калі ўсё адбудзецца — гэтчаснае расслабленне, млявасць, санлівасць, абыякавасць і думка: навошта?.. У аднаго бывае так пасля першага разу, у другога — хай сабе і дзясятага... Але бывае абавязкова. Ізноў мужчыну агортвае адзінота. Яшчэ большая, чым да таго. І пачуццё віны. Без віны вінаватага...

Ці не таму, што Бог выгнаў Адама з Раю пасля першага, самага першага, спазнання жанчыны.

**7а.**

Наступным разам Ірка вучыла Стаха цалавацца. Ноч была не па-летняму чорнаю і ярка-зорнаю. Проста над ягонаю, нахіленаю ў пацалунку, галавою вісела сузор'е Ліры, і Вега была здзіўлена-вялікаю,

велізарнаю, бы зоркавае вока, што бачыць усё, аграмаднаю, як срэбны рубель, як асалода, як шчасце, ніколі не каштаванае ім у такой колькасці.

Было хваляванне, быў мандраж, быў, нарэшце, сорам. Але толькі напачатку. Потым усё забылася. З мулкай лаўкі яны ўпалі на мяккую, халодную, яшчэ не росную траву, качаліся па ёй, і Стах, калі быў знізу і калі шырока расплюшчваў вочы, бачыў толькі аграмадную Вегу, што бессаромна зазірала проста ў ягонае нутро. Вялізная, як сонца, Вега — сімвал ягонага шчасця. Першы пацалунак: паэма і няскончаны, скамечаны вершык — разам... Вусны не слухаюцца, вусны драўляныя, вусны нічога не ўмеюць, вусны сухія-сухія, гарачыя-гарачыя...

Ірка была непадобнай да сябе. Нястрымнаю, палкаю, шалёнаю... Яна літаральна ўпівалася, усмоктвалася ў яго, рассоўвала языком вусны, трапятала ў руках, білася, як рыбіна... Потым супакойвалася, і, лежачы пад ім, вучыла, як цалавацца «па-школьнаму» — цнатліва... «як муж з жонкаю»... «як з каханкам»... проста — «узасос»... Затым па «Камасутры» — пацалунак «лёгкі»... «паветраны»... «трапяткі»... Ён не дзівіўся — адкуль яна гэта ведае, ён не думаў ні пра што, ён бачыў толькі яе, нават нічога не бачачы...

Цемра — вочы заплюшчваць не трэба, а вочы заплюшчваюцца самі і шныпараць па тваім нутры і здзіўляюцца, не пазнаючы цябе...

Гарачыя вусны, гарачае дыханне, гарачае цела... Гарачыя зоркі, гарачая трава, гарачая ноч... Такая кароткая летняя ноч. Запалаў усход, пазначыліся на ім цені хмарак, даўно спяваюць пеўні: гучна-гучна... Сонца паспела аббегчы зямлю і да нас вярнулася. Няхай бы ты яшчэ хоць на трошкі затрымалася...

Але — час развітвацца, час ісці дамоў. Нацалаваныя вусны — гараць. Абадок чырвоны вакол іх — палае. У Іркі, пэўна ж, і ў яго. Сарамлівае «бывай», «да вечара»...

Ранак халодзіць змакрэлыя штаны: Стах так і не «ўзяў» яе — забыўся, зацалаваўся... Нічога, будзе новы вечар. Цяпер — будзе...

Шчасце — хіба ж можна схаваць яго ад маці, якая ўжо не спіць, збіраецца ісці даіць карову:

— Дзе ты да самага ранку валэндаўся? — бурклівa.

Дзе-дзе... Нідзе-е... Апусціўшы вочы, затуліўшы твар, моўчкі — у ложак.

Спаць... Але хіба ж тут заснеш...

## 76.

Спаць?..

Што ты кажаш, які сон, калі побач, у лічаных міліметрах, такое жаданае, чаканае... Ірына адказвала на пацалункі — то млява, то горача... Але завішчэлі тармазы, аўтобус пахіснуўся на рэзкім павароце і павольна падкаціўся пад павець чарговае аўтастанцыі. Пасажыры заварушыліся, і Стах, не маючы сілаў заставацца ў салоне, выйшаў на вуліцу, на прахалоду, каб крыху астыць.

Ён вырас у такіх умовах, што жанчыны здаваліся яму Боскім стварэннем: нечым чыстым, святым. Ён абагаўляў жанчыну. Гэтак яго выхоўвалі. Хіба можна такую слабую і такую пяшчотную істоту крыўдзіць? Гвалтам дамагацца ад яе чагосьці? Аказваецца, можна. Часам яна і сама таго хоча. І падштурхоўвае, спакушае мужчыну. Жанчыны — найвялікшыя здраднікі. Вось і гэтая: пару гадзінаў таму тулілася да заручонага, з якім праз тры тыдні вяселле, а цяпер цалуецца з

першым сустрэчным, з чужым, абсалютна невядомым, незнаёмым, выпадковым чалавекам... Псі-хо-лаг, называецца... Як так можа быць? Як можна ўсім ім пасля гэтага верыць?..

Разам са Стахам з аўтобуса выйшаў толькі адзін мужчына гадоў сарака — стаяў каля дзвярэй, паліў прагна, узацяжку, але няспешна. Астатнія пасажыры спалі альбо сонна вызіралі ў вокны і пацепвалі плячыма ад уяўнага холаду. Стах падышоў да мужчыны і папрасіў цыгарэтку. Той нехаця палез у кішэню тэніскі, дастаў пачок, зазірнуў у яго і сказаў: «Апошняя... А апошнюю...» — Стах не даслухаў яго, ён і не хацеў паліць, не ўмеў, і не паліў ніколі апроч аднаго выпадку ў першым класе, калі яны з сябрам купілі ў краме на сэканомленыя дзесяць капеек пачок «Паміру» — падманулі прадаўшчыцу: «бацька папрасіў» — і выкурылі яго ўвесь пасля школы ў прысадах. Ён памятае, як прыплёўся дамоў, кінуў ранец, залез на печ, дзе заўсёды па восені вісела цыбуля, з'еў адну — каб мама паху не пачула — і адключыўся: усё, больш нічога не памятае. І пасля таго ён ніколі не спрабаваў паліць. Ад адное думкі пра гэта ў горле падымаўся непрыемны камяк і яму рабілася брыдка. А цяпер вось — закурыў бы. Ды — няма...

Так, ён зараз вернецца ў аўтобус да Іры. Яна чакае яго. Прызнаецца сабе ў тым ці не, але — чакае. Трошкі нахабства — і яе можна браць голымі рукамі, трошкі нахабства — і яна твая. Альбо — ты яе. Не трэба скідваць гэтага з рахунку. Яна — ільвіца. Яна — гаспадыня: царыца... Толькі — ніякіх сумневаў, ніякіх ваганняў. Усе гэтыя львіцы — проста коткі, ласкавыя кошачкі. Непрыступна-даступныя. Крэпасці з высачэзнымі сценамі і расчыненымі насцеж варотамі. Не кідайся, не лезь на сцены, зайдзі ў дзверы...

Але ж — страціць нявіннасць у аўтобусе, у антысанітарных умовах...

У аўтобусе, які нясецца з хуткасцю сто кіламетраў у гадзіну...

Рамантыка...

З гэтай прыгожанькай сучкай...

Бы пад плотам...

**7в.**

Могілкі пачынаюцца з аднаго крыжа. Першага. Адзінага. Адзінокага. Але ў іх яшчэ ўсё жыццё наперадзе. І будуць яны густымі ад крыжоў і цеснымі ад свежых магілаў. Будуць.

А ці бачылі вы могілкі, якія паміраюць?

Жудасная з'ява.

Так бывае, калі спачатку памірае вёска, з якое на гэтыя могілкі людзей везлі спачываць.

Моладзь вёску пакідае, застаюцца толькі старыя, якія нібыта па пэўнай чарзе, пступова перабіраюцца пад рыжыя сосны суседніх могілак. І тады могілкі, са свежымі магіламі, з дагледжанымі сваякамі магілкамі, здаюцца больш жывымі, чым вёска, дзе даўно пахіліліся, абраслі мохам платы, дзе ўтравела вуліца, дзе зарастаюць сцяжыны да калодзежаў, дзе абсыпаюцца і гніюць не сабраныя нікім яблыкі і грушы ў садах, дзе дзічэюць пакінутыя гаспадарамі на галодную смерць каты і сабакі...

А ці бачылі вы, як паміраюць чарнобыльскія вёскі? Не, не тыя, дзе выкапалі вялізныя ямы і ссунулі ў іх хаты бульдозерамі. А тыя, што засталіся за калючым дротам на радасць марадзёрам, дзяжурным міліцыянтам, збеглым зэкам, бамжам і проста адпрэчаным Богам людзям... Гаспадары думалі, што вернуцца

сюды праз дзень, тыдзень, месяц, — так ім тлумачылі. Зачынілі хаты са звычайным скарбам на замкі, а з сабою ўзялі толькі дакументы...

За першы год зараслі бур'яном і пустазеллем незасеяныя па вясне агароды — соткі. Вокны ў хатах выбітыя, вырваныя з мясам замкі. З пакояў вынесенае ўсё: тэлевізары, лядоўні, сталы, ложкі... і вывезенае куды — у «чыстую зону», кім — тымі ж міліцыянтамі, марадзёрамі, бамжамі... З'едзеныя ўсе прыпасы, што пакінулі гаспадары: бульба, збожжа, сала... У пошуках прыхаванага самагону ўзламаныя падлогі...

За другі год на селішчах зараслі ўсе сцяжыны да хлявоў, да паграбоў, да сцёпак, да лазняў... Трава цесна абступіла асфальт, што пакладзены пасярод вуліцы. З некаторых хатаў ужо зняты — тымі ж людзьмі: дайшлі рукі — і прапіты шыфер, правальваюцца дахі, абсыпаюцца ад сырасці столі, развальваюцца печы, грубкі...

За трэці год кустоўе, якога летась яшчэ не было відаць з высокае травы, пачынае тырчэць паверх яе і пераходзіць у свой пераможны наступ ад платоў — да хатаў і дарогаў. Слупы, як клічнікі, чарнеюць уздоўж вуліцы — дрот з іх зняты і прапіты. Вецер гуляе ў расхрыстаных хатах без рамаў, без дзвярэй, дождж залівае іх, снег засыпае іх...

Людзям сюды ўжо можна не вяртацца — лепш будавацца на новым месцы. І добра яшчэ, калі сухім летам не пракоціцца пушчаны чыёйсьці злою рукою (а можа, і добраю, бо няма сілаў глядзець, як рабуецца і разбураецца — памірае — вёска) сляпы і бязлітасны пажар, — тады застаюцца тут толькі ўчарнелыя цагляныя сцены ды коміны...

Зрэшты, час няўмольны, і — адныя цагляныя сцены ды коміны застануцца тут праз пятнаццаць гадоў.

Зрубы асунуцца ўніз, згніюць, сатлеюць без догляду, маладыя дрэўцы цесна абступяць былыя котлішчы, і толькі цэгла з-за іх чырванее, як кроў, толькі крэйда бялее, як бінты на месцы ранаў нядаўняга селішча. Па асфальтаванай дарозе, аброслай кустоўем і ладнымі дрэўцамі акацыі, можна заехаць ці зайсці глыбока ў памерлую вёску, а звярнуць на неасфальтаваны завулак, па якім хадзілі некалі людзі, на якім гуляла ў пяску дзятва, ужо нельга — няма яго...

## 8а.

Справядлівасць і праўда, гонар і сумленне — для Стаха былі не проста словамі, а сэнсам жыцця. І пакуль ён быў малым, пакуль ён жыў у вёсачцы, яму ўдавалася не толькі самому не здраджваць гэтым прынцыпам, але і патрабаваць таго ад іншых. Дарослыя «падыгрывалі» яму, і да пары да часу ён не бачыў, не ўмеў бачыць падману, хітрасці, хціўасці, здрады. Ён верыў усім. І толькі пазней пачаў разумець сваю наіўнасць, сваю піянерска-камсамольскую шчырасць, што не падобны гэтым да іншых і што яму цяжка будзе жыць правільна ў гэтым няправільным свеце.

Першае расчараванне, першы падман, зразуметы Стахам, — запомніўся. Дзядзька Віця паабяцаў, што возьме яго на рыбалку. Ён сам напрасіўся, і дзядзька сказаў: «Ідзі паспі, а я цябе раненька разбуджу». Стах паверыў і заснуў. А прачнуўся, калі ўжо ўзышло сонца. Зразумеў, што яго пад-ма-ну-лі, і заплакаў.

Але гэта быў яшчэ не падман, хоць Стах моцна перажываў. Падманы і здрады былі потым, наперадзе. Сяброў і... жанчын... — тых, ад каго гэтага не чакаеш...

Тым ранкам, пасля той ночы пацалункаў, Стах так і не заснуў. Праваляўся ў ложку колькі гадзінаў з не-

спакойным сэрцам, з вобразам Іркі ў вачах: змружыш вейкі — і вось яна, тут... Прагныя вусны, трапяткое цела... Хіба ж заснеш?..

Падняўся, паеў, у хату зайшла маці:

— Гуляеш цэлымі днямі, — прабубніла яна, ён прамаўчаў, бы вінаваты, хоць гэта была няпраўда, — а кралям есці няма чаго: ні травінкі. Клеткі грызуць...

Стах узяў серп, мех, сеў на ровар і паехаў у калгасны сад. Там пад яблынямі і грушамі расла высокая, сакавітая, крамяна-зялёная дзікая трава, якую вельмі любілі трусы. Жаць сярпом яе не забаранялася — вартаўнік за гэта не ганяў. Стах ад'ехаў ад дарогі метраў сто, выбраў месцейка з нявытаптанаю травою, прысеў і пачаў няспешна жаць...

Заставалася толькі сабраць у мех купкі зжатае травы, калі па дарозе, што вяла праз сад, прапыліў калгасны «газік». Аб'ехаў вакол і спыніўся з другога боку, якраз насупраць Стаха. З «газіка» вылез вясёлы, узрушаны парторг. Стах хоць і ведаў, што траву не крадзе, стаіўся, прылёг за бугарком, схаваўся. Парторг, дарэчы, дужа непрыгожы мужчына — бываюць жа такія! — да таго ж з пакалечаным, прыжмураным крыху вокам і ад таго перакошаным на гэты бок тварам: нібы скамечаным, і крывым носам — Квазімода! — Стах гэтую брыдкасць парторгаву міжволі зноў сабе адзначыў, пакуль той борздзенька аббягаў «газік» спераду. Аббег, расчыніў дзверы, і з машыны выйшла... Ірка. Парторг артыстычна падагнуў адну нагу, адставіў другую, падаў ёй руку, як пані ў кіно, яна засмяялася, гарэзліва прыхінулася плечуком да ягоных грудзей...

Далейшае Стах памятае, як скрозь сон. Парторг з Іркай прайшлі ў ягоны бок і спыніліся на паўдарозе пад раскідзістай яблыняй. Парторг дастаў з адной

кішэні пінжака пляшку гарэлкі, з другой — нейкую закусь: плаўлены сырок, печыва, цукеркі... і кінуў пінжак пад ногі, на траву. Выглядала гэта гідкавата: ежа з кішэняў... Ірка села на пінжак. Войкнула і з рогатам дастала з пад сябе зялёны яблык, шпурлянула яго ў бок Стаха. Парторг зубамі адкаркаваў пляшку, і яны выпілі. З горла. Ірка першая. Смачна-смачна (!!!) пацалаваліся. Парторг выцер слінявыя губы і зноў падцягнуў да сябе Ірку.

Былі яшчэ нейкія жарты і смех, як прэлюдыя, разбаўленыя дапіваннем гарэлкі, — а потым парторг паваліў Ірку на траву, ус-ка-рас-каў-ся на яе, шкрабаючы тоўстымі пальцамі па плячах, грудзях, сцёгнах... А затым... яны качаліся па траве пад яблыняй з віскам і стогнамі, і то парторг быў наверсе, то Ірка... Стах успомніў нядаўнюю ноч, і яго ледзь не званітавала...

Аслупянелы, анямелы, асляплены, ён даляжаў у траве да самага канца — ажно пакуль яны, рагочучы, не селі ў «газік» і не паехалі. У ягоных вачах назаўсёды застаўся рух Іркі: двума рукамі яна абцягвае — пасля таго! — кароткую сваю сукенку: двума рукамі дзелавіта тузае ўніз, уніз, а змятая сукенка не слухаецца...

Стах сабраў падвялую траву — мех быў не поўны, не хапіла нейкай жмені. Ён ухапіў рукою пук травы, разануў сярпом з усяе сілы і — закрычаў ад болю: мезенец, самы згіб яго на костачцы, быў развалены сярпом да касці. Імгненне бялела мяса, косць, а затым пырснула гарачая, чырвона-чорная кроў. Стах заціснуў палец рукою і заплакаў.

Слёзы ліліся ручаём. Не ад болю. Ад крыўды. І не было цяпер нікога побач з ім, хто б супакоіў яго, растлумачыў, што нічога не здарылася, што гэта ніякая не здрада, што гэта і ёсць жыццё...

**8б.**

Толькі ніякіх сумненняў, ніякіх ваганняў. Досыць... До... До... До...

Ірына чакала яго вясёлымі вачыма. Пэўна, і ў яе быў час падумаць. І сапраўды — калі адкінуць усе ягоныя прыдумкі: якая яна прыгожая! Асабліва цяпер, у паўцемры. Як гарэць яе вочы, блішчаць пажадай...

Стаху захацелася іх запомніць, сфатаграфаць, каб потым намаляваць... Ён усміхнуўся ў адказ — аднымі вуснамі: лёгка, прыязна, супакаяльна...

Аўтобус крануўся.

Толькі не трэба словаў... Не трэба словаў!

...Маленькая рука пацягнулася да маланкі на Стахавых джынсах, гузік расшпіліўся сам...

**8в.**

Смерць хацела ажаніць Стаха з сабой. Але да таго — даць адпакутаваць неспазнаннем жанчыны. Каб стаць першай.

З маленства ён адчуваў, што лёс рыхтуе яго да адзіноты. І як мог супраціўляўся таму. Смерць не ўлічыла гэта. Яна і падумаць не магла, што ў ягоным кволым цельцы пасяліўся такі моцны дух. Трэба было не даваць яму шанец, не пакідаць яго жыць, а забраць сабе яшчэ тады, калі трое сутак ён ляжаў у коме з пераламанымі нагамі і скабамі пасля таго, як Сёмка-Гец спіхнуў яго ўніз з дзевяцімятровай вышыні той самай вышкі. Але яму споўнілася ўсяго дзесяць, і ёй закарцела трохі падрасціць яго...

А потым яна са смехам заўважыла, як хапаецца ён за сваё жыццё, не ўсведамляючы, што ягонае зямное існаванне можна назваць хіба суцэльнай пакутай, а шчасце ўяўным і прыдуманым. І яна вырашыла пра-

вучыць яго, паздзекавацца хоць тым, што патрымаць як даўжэй у гэтым балючым цельцы. Яна думала — Стах паразумнее, убачыць, што, апроч болю і пакутаў, нічога не мае. І сам папросіцца да яе: закіне вяроўку за крук над люстрай і павісне, будзе боўтаць нагамі ў паветры і ўмольваць яе забраць яго. Аднак ішоў час, а ён усё чапляўся і чапляўся за жыццё, сталеў, старэў, і да яе не спяшаў. Больш за тое, адвучыўся на мастака, потым ажаніўся са звычайнай зямной жанчынай і... ягонае семя дало ўзыходы...

І тады яна зразумела, што падманулася, пралічылася, што ён перахітрыў яе, і ноччу, у сне, прыйшла да яго, але не бабуляй з касою, як малююць кепскія мастакі, а гожаю жанчынаю, якую тыя ж мастакі могуць назваць Музаю.

І тады Стах усвядоміў, што жыве не так, не дзеля той мэты, з якою прыйшоў на зямлю, што пралічыўся. Ён цярпеў пакуты, ён супраціўляўся смерці, а яна — перахітрыла яго, падкінуўшы спакусу ў выглядзе кахання, у вобразе зямных жанчын... Ён супраціўляўся адзіноце, але ці варта было рабіць гэта толькі дзеля аднаго: працягу жыцця, працягу радаводу? Бо...

Бо... платай за гэта можа стаць ягоная творчая нікчэмнасць і незапатрабаванасць. Бо ён раптам сярод ночы ўсвядоміў, што жыве дарэмна, што Геніем яму не быць... Бо геній — гэта пустацвет. Геній — гэта найпрыгажэйшая кветка, якая ярка цвіце, аднак не дае пладоў. Геній — засохлая галіна на дрэве радаводу. Геній не дае працягу: ён — вянец.

Інакш ён не геній.

«А Талстой!» — хапануўся Стах за саламіну. «А хто сказаў, што Талстой — геній?» — супакоіла яго смерць-муза.

«У мяне ж дачка, у мяне ж няма сына, няма працягу...» — у адчаі крыкнуў ён. «Тым горш для цябе...» — адказала смерць і знікла.

Стах прачнуўся. Побач спала жонка — усё ягонае багацце, увесь ягоны набытак... А яшчэ ў яго ёсць праца — любімая праца, ёсць карціны. Карціны... Каму патрэбна ягоная мазня?..

У яго быў шанец, а ён змарнаваў яго. Ён хацеў быць як усе і стаў такім: растварыўся між іншых.

Але ж — ён баяўся адзіноты і перамог яе. Ён дамогся свайго: змяніў лёс. А хіба гэтага мала, хіба кожнаму гэта дадзена?

«Умеюць людзі прыдумваць сабе апраўданні», — смерць глядзела на Стаха — маленькага і роспачнага, агаломшанага пасярод ложка і ночы, і ёй было шкада яго. Толькі цяпер яна зразумела, што прагадала, пакінуўшы яго, але парадавалася, што не памылілася ў ім. Толькі цяпер яна ўсвядоміла, якое значэнне ён надаваў свайму начному маляванню, і ўсміхнулася: яна дамаглася свайго — ён так і застаўся адзінокім. Нічыім тут, чужым усім. І гэтай жанчыне побач, і той дзяўчынцы ў суседнім пакоі, і тым людзям, што за сценамі дома, у майстэрнях, на выставах, у часопісах... Ён яшчэ зразумее гэта. Жахнецца... І аддасца ёй...

Аддасца...

## *Частка другая.* УДОЛ, альбо Актава пазнання

Я і душа пад ношаю цяжкою
Ступалі побач, як валы ў ярме...
*Дантэ. «Боская камедыя» — «Чысцец»*

У зграбненькім скверыку паблізу вакзала экскурсавод прыпыніўся:

— А цяпер вы самі можаце пагуляць па нашым горадзе... Збіраемся тут у сямнаццаць трыццаць...

Стах зірнуў на гадзіннік — да адыходу цягніка на Менск заставалася амаль паўтары гадзіны. Значыць, паспею, падумаў ён, не толькі паблукаць па горадзе, але і падысці да таго будынка, на якім заўважыў шыльду з надпісам на мясцовай мове, дзе сярод незнаёмых словаў убачыў і пазнавальныя ў любых літарах «...Францішак Скарына...».

Цалкам прачытаць, што там было напісана, Стах не здолеў, бо баяўся адстаць ад сваёй групы. З гісторыі ён ведаў, што і сапраўды менавіта ў гэтым горадзе Францішак Скарына некалі выдаваў свае кнігі. Экскурсавод пра гэта нічога не сказаў. Паўз дом ён вёў групу да знакамітага касцёла і з захапленнем распавядаў легенду пра ягоную прыгажосць, пра тое, як Напалеон хацеў забраць яго ў Парыж.

У гэтым горадзе Стах быў упершыню. Але заблудзіцца ў ім не баяўся. Заблудзіцца ў незнаёмым горадзе можа хутчэй гараджанін, чымсьці вясковец. Стах вырас сярод лесу і таму арыентаваўся па сваіх, адметных толькі яму, прыкметах, добра. Ён запомніў, што той будынак з шыльдай стаяў ці не ў самай нізкай мясціне старога горада, нібыта ў нейкай даліне, у логу. І таму адразу пайшоў уніз па вуліцы, забіраючы на паваротах усё ніжэй і ніжэй.

Вось і дом. І шыльда, прымацаваная не высока, а якраз на ўзроўні вачэй. Сабраўшы ў жменю ўсе свае веды розных моваў, Стах прачытаў-зразумеў, што і на сам-справе напачатку XVI стагоддзя ў гэтым доме працаваў і выдаваў асобныя кнігі Біблii беларускі асветнік і першадрукар Францішак Скарына... Шыльда была прымацаваная да дзвярэй, зробленых пад старыя, аздобленых каванымі карункамі. Стах падумаў, што тут можа быць музей, і вырашыў зайсці.

Дзверы лёгка, без натугі і рыпення, адчыніліся. Але ўпусцілі Стаха яны не ў пакой — музейную вітальню, а ў маленькі дворык. З усіх бакоў былі невысокія, з двухпавярховы дом, цагляныя сцены, крытыя блакітным небам. Дворык быў утульны, прыветны, як і ўсё ў гэтым горадзе. І — пусты. Толькі ля адной са сценаў, нібыта запрашаючы прысесці ды адпачыць, стаяла драўляная лаўка. Стамляе чалавека ўсё, нават прыгажосць. Прахадзіўшы дзень па пякнотах горада, Стах добра-такі прыстаў. Тут жа было ціха, чыста і свежа. І Стах падумаў: нікуды я адсюль не пайду — пасяджу ў гэтым мілым куточку да самага адыходу цягніка.

Дворык, здавалася, дыхаў даўніною. Жывою даўніною. Стаху падалося нават, што і паветра тут не такое, як у горадзе, на блізкай — праз сцяну — вуліцы, а свежае, нібыта ў вёсцы пасля дажджу. Разглядаць у дворыку не было чаго, акрамя сценаў. Былі яны дагледжанымі і выдавалі зусім новымі, учора складзенымі. Не адрэстаўраванымі, а нанова адбудаванымі. «Вось табе і «...у гэтым доме...», — падумаў Стах, — будынка таго даўно ўжо няма, знесены вайною ці гора-будаўнікамі, але ж пішуць... І заўсёды знойдзецца разявака, які паверыць...»

Заўважаны наіўны падман не раззлаваў Стаха, а наадварот, супакоіў. У дворыку прыемна было сядзець і думаць, крыху прымружыўшы вочы, як у паўсне. Разважаць пра імклівасць часу і безабароннасць чалавека перад ім, часам, — чацвёртым вымярэннем, што штурхае людзей наперад і наперад. Чалавек можа вярнуцца назад, у тое месца, што яму спадабалася, дзе ён быў некалькі хвілінаў таму, але вернецца ён ужо не той самы, а іншы, пасталелы, пастарэлы на тыя самыя некалькі хвілінаў... І сапраўды, нельга двойчы ўступіць у адную і тую ж раку... Як і ў жанчыну...

Салодкая млявасць апанавала Стахам, узяла яго ў свае цесныя абдымкі, яму прымроілася родная хата, маці, і мама паківала яму пальцам: не спі, не спі, усё праспіш...

Стах прахапіўся... Час, і праўда, імкліва бег. Гадзіна праляцела, як адно імгненне. Трэба было ісці на вакзал, да цягніка, які чакаць не будзе. Стах ускочыў і пайшоў у той бок, адкуль прыйшоў. Пайшоў па памяці, механічна, і... упёрся ў сцяну. Дзвярэй і знаку не было. Стах кінуўся да другой сцяны, да трэцяй... Усюды суцэльная кладка: цаглінка падагнаная да цаглінкі, роўненька, гожа... І толькі на чацвёртай сцяне, на вышыні другога паверха, ён убачыў маленькае акенца, зашклёнае чымсьці мутна-зялёным. Стах падняў з зямлі каменьчык і кінуў у акенца. Шкло дзынкнула, паклікала гаспадароў.

Не адразу, але акно расчынілася і з яго вызірнула чарнявая дзяўчына.

— Што табе трэба, хлопча? — спытала яна, змерыўшы позіркам Стаха.

— Выйсці адсюль.

— Х-ха! Усе гэтага хочуць. Я таксама хачу... Ха-ха-ха!.. — гучна, з выклікам, засмяялася дзяўчына і зачыніла акно.

Яна падалася Стаху прыгожай, з даволі правільнымі рысамі твару і, галоўнае, з надзіва натуральным колерам яго: не бледным, не загарэлым, не падфарбаваным касметыкай, а проста здаровым... Здзівіла Стаха і тое, што апранутая яна была ў нешта незразумелае — нейкія шэрыя, грубыя лахманы. Накшталт мяха з-пад бульбы. І гаварыла яна неяк не так, як чулася Стаху. Сэнс сказанага ён разумеў, нібыта па вуснах чытаў, але словы былі і тыя, і не тыя — чужыя, незнаёмыя, але... зразумелыя... Як у замежным дубляваным фільме: вусны кажуць адно, а голас за кадрам — зусім іншае...

Ды Стаху было цяпер не да гэтага. Яму трэба было як хутчэй выбрацца з дворыка. І, падобна, ніхто, акрамя дзяўчыны, не мог яму дапамагчы. Стах набраўся нахабства і зноў шпурлянуў каменьчык у вакенца. Дзяўчына глянула на яго звысоку ўніз і спытала пагардліва:

— Ты адкуль узяўся такі смелы?

— Я тут у вас на экскурсіі...

— На экскурсіі? На агледзінах... Не смяшы.

Стах пабаяўся, што дзяўчына зноў зачыніць вакенца, і хуценька загаварыў:

— Праўда! Я прыехаў у ваш горад на выходныя. Каб адпачыць. І зайшоў у гэты дворык выпадкова...

— Выпадкова...

— Так.

— Дзіўна...

— Я беларус, і мне цікава было пабыць... — пачаў казаць Стах, але дзяўчына перабіла яго:

— Ты агледзься, куды трапіў, бе-ла-рус, куды сам прыйшоў...

Стах паглядзеў вакол: той жа дворык, тыя ж сцены, лаўка, дзвярэй не відаць... Нічога новага. Адзін

ратунак — гэтае вакенца. Але... Што гэта? Па кожнай з чатырох сценаў павольна, няспешна ходзяць вoi з дзідамі ды тарчамі... І гэта робіць дворык падобным да турэмнага. «Кіно здымаюць...», — прытушыў здзіўленне Стах, прыгадаўшы і дзіўны ўбор дзяўчыны. Дарэчы, а дзе яна? Вакенца зноў было зачыненае. Каменьчык. Дзынь! Дзяўчына. Ужо не спакойная і смяшлівая, а нібыта раззлаваная:

— Ну ча-го ты хо-чаш, хлоп-ча? — спытала яна, падзяляючы кожнае слова на склады.

— Дапамажы мне выбрацца адсюль, — папрасіў Стах, — я на цягнік спазняюся...

— Добра. Дапамагу. Толькі пры адной умове: калі ты выберашся адгэтуль, раскажы там пра мяне, проста раскажы, што бачыў мяне... Згодны?

Стах згадзіўся б цяпер, у роспачы, і не на такое.

Дзяўчына апусціла з вакна брудна-чырвоную, саматканую — музейную? — посцілку. Стах ухапіўся за яе і зашкрабаў нагамі па сцяне. Гэтак узлазіў ён некалі ў госці да знаёмых дзяўчат у інтэрнат на другі паверх, калі вахцёрка не пускала. «Гэта кіно, — супакоіў ён сябе яшчэ раз, — кіно здымаюць...»

Пакойчык, у які ўцягнула Стаха дзяўчына, быў зусім маленькі. Акрамя голага драўлянага ложка (коўдра з яго — здагадаўся Стах), у ім нічога не было. Ні стала, ні зэдліка... Але затое былі дзверы — выхад!

Стах заспяшаў: часу да адпраўлення цягніка заставалася ўсё менш і менш. Начаваць жа ў гэтым горадзе, хай сабе і ў пекнай дзяўчыны, яму зусім не хацелася.

— Ну, дык пра што мне трэба расказаць, калі выйду? — спытаў Стах у дзяўчыны, прыгадаўшы ўмову, і нецярпліва зыркнуў на дзверы.

— Сядай, — запрасіла дзяўчына, — і слухай...

Мажліва, тое, што яна расказвала, і было цікавым. Але не Стаху і не цяпер. Пасля першых словаў: «Служыла я ў пана пакаёўкай...», Стах падумаў, што дзяўчына проста рэпетуе сваю ролю і таму далей амаль не слухаў яе, а толькі зрэдзьчас ківаў галавою. Грала, між тым, дзяўчына добра, шчыра. Натуральна. І сукенка надта пасавала да яе ролі — спакушанай і абылганай панам простай дзяўчыны, пасаджанай у цямніцу. Нават і не сукенка то была, а звычайны мяшок з дзіркамі для галавы і рук... Счакаўшы, покуль дзяўчына закончыць (а яна, у запале, напрыканцы нат заплакала), Стах спачувальна прамовіў, падыграў дзяўчыне:

— Добра, я ўсё раскажу... А цяпер пакажы мне, як адсюль выйсці.

Дзяўчына адчыніла дзверы і выпусціла Стаха ў напаўцёмны, вузкі калідор. Такі вузкі, што дваім у ім не размінуцца. Стах ішоў па калідоры, нібыта па лабірынце: доўга, паварочваў управа-ўлева ўслед за ім, і ўрэшце выйшаў пад адкрытае неба. Уздыхнуў на поўныя грудзі...

## ДО

...і аслупянеў...

Ён патрапіў у яшчэ адзін дворык, падобны да папярэдняга, толькі крыху большы.

Высокія сцены з чырвонага каменю абступілі двор з усіх бакоў. Стах, ужо сёе-тое ўцяміўшы, азірнуўся назад: праходу за ім не было — там, адкуль ён толькі што прыйшоў, была такая ж гладкая, роўная, акуратная сцяна, як і справа, злева, спераду...

Але двор гэты быў не пусты. Ля далёкай сцяны, пад невысокім дрэвам, падобным да ясеня ці явара,

Стах убачыў купку людзей. Адтуль даносіўся размераны свіст пугі і цёк ціхі гул галасоў — быццам адзін працяжны стогн...

Стах падышоў бліжэй. На лаўцы... не, на пласе... ляжаў хлопец са спушчанымі штанамі і падабранай кашуляй. Двое мужчынаў, аж хакаючы ад натугі, лупцавалі яго. Білі не як у кіно — не дзеля выгляду, а сур’ёзна, бы на адказнай працы. Са спаласаванай чырвонымі пісягамі спіны сцякала кроў. Хлопец ляжаў без прытомнасці, і на твары ягоным напісаны быў не боль, а жах, які палалі шырока расплюшчаныя — у здзіўленні — вочы... Крыху далей, за плахай, пад дрэвам, у цяньку ляжалі збітыя раней людзі. Стах памкнуўся падысці бліжэй, але раптам на яго засыкалі з натоўпу перад плахай:

— Куды без чаргі?!.. Куды без чаргі!..

І праўда, гэта быў не натоўп, не купка людзей, а чарга да плахі. Стах паслухмяна стаў у канец яе і пачаў назіраць, што тут адбываецца. Яму шкада было хлопца, якога лупцавалі, але калі прыгледзеўся, дык яшчэ больш шкада стала тых мужчынаў, што збівалі яго. Стома ішла ад іх, здаецца, фізічна адчувальная, стома хранічная, даўняя і страшная ў сваёй бясконцасці, нязменнасці і неадменнасці.

Стах пачаў сачыць за тымі людзьмі, што пабылі ўжо на пласе і ляжалі цяпер пад дрэвам. Ачомаўшыся, яны ўставалі, падыходзілі да чырвонай сцяны за дрэвам і знікалі ў ёй, нібыта праходзілі праз сцяну. Да таго месца вяла добра ўтаптаная сцяжына, якая ўпіралася ў сцяну. Іншага «выхаду» з гэтага двара не было... Не, быў! Трохі збоку ад гэтай сцежкі Стах убачыў металічную лесвіцу, што вяла ўверх, да краю сцяны. І хоць на чатырох кутах двара ўзвышаліся вежы, на якіх стаялі ахоўнікі з лукамі ды арбалетамі

напагатове, Стах не стрываў, кінуўся да лесвіцы. Падскочыў, ухапіўся за яе і палез. Ніхто з чаргі не кінуўся ўслед за ім. Ніхто з ахоўнікаў ніяк не адрэагаваў на ягоны рывок. Ужо гэта павінна было калі не спыніць Стаха, дык хоць здзівіць. Аднак яму было не да таго: ён хапаўся за прыступкі-папярочкі і лез, лез вышэй і вышэй, да неба... Узлез, перакінуў нагу праз сцяну, зірнуў уніз і ледзь не самлеў: увесь дворык пад ім быў запоўнены гадаўём — змеямі розных колераў і памераў. Яны спляталіся ў клубкі, каталіся па двары, а некаторыя, падняўшы галовы, сычэлі ці на яго, ці проста ў неба... Па ўсім двары валяліся белыя чалавечыя косці, чарапы...

Стах павольна, расчаравана спусціўся ўніз, у ранейшы двор і стаў у канец чаргі. Ён не ведаў, дзеля чаго, навошта яму, як і іншым, трэба прайсці праз гэткае выпрабаванне, праз гэткія пакуты. Але змірыўся з лёсам і жадаў цяпер толькі аднаго: хутчэй патрапіць на плаху, адляжацца і знікнуць у сцяне...

У двор увайшоў мужчына, але не з таго боку, з якога патрапіў сюды Стах. Агледзеўся і, пачуўшы: «Куды без чаргі!..», стаў услед за Стахам. Паназіраў-паназіраў моўчкі за пакараннем і пабег да сцяны з лесвіцай. Узлез... і вярнуўся ў чаргу...

Надышоў Стахаў чарод класціся на плаху. І Стах пайшоў — без роспытаў. Жыло ў ім спадзяванне, што атрымае ён сваю порцыю бізуноў, хай і невядома за што, падыдзе да сцяны... выйдзе ў горад і паедзе дамоў... Раз патрапіў ужо нейкім чынам у гэтакі пераплёт і іншага выйсця няма, дык варта пацярпець... Абы хутчэй усё скончылася.

Адзін з мужчынаў-катаў, калі Стах праходзіў паўз яго, шапнуў: «На, патрымай пугу, я пот вытру...» Жалобна гэтак папрасіў, умольна, ажно варухнула-

ся нешта шчымлівае ў Стаху. Але ён стрымаў сябе, не пашкадаваў ката, не ўзяў пугу, хоць рука было і пацягнулася. Перастрахаваўся на ўсялякі выпадак, бо прыгадаў раптам дзіцячыя казкі і старыя паданні пра гэткую хітрасць: возьмеш пугу — і сам зробішся катам...

Стах спусціў штаны, задраў кашулю і лёг на плаху. Кат размахнуўся і ўдарыў. Стах заплюшчыў вочы, чакаючы болю, але... болю не было... Фізічнага... Затое рэзануў памяць успамін. Балючы ўспамін. З далёкага дзяцінства. Пра здарэнне, за якое яму ці не ўпершыню ў жыцці было сорамна і пра якое ён даўно забыўся. Гэта быў першы ягоны «грэх»; першы, бо зрабіў ён гэта свядома. Яму было два гады ці трохі болей. Бацька папрасіў знаёмага шафёра, які вазіў торф на поле, каб пакатаў Стасіка. Стасік быў шчаслівы... Дзядзька зрабіў адзін рэйс, другі, а потым спыніў машыну ля канторы і пайшоў у яе. Надоўга. І трэба ж было такому здарыцца, што Стасіку якраз прыспічыла пісяць. З кабіны ён вылезці не мог, і цярпець болей не мог. Пад нагамі ў сябе ён убачыў маленькую лужынку — снег з валёнак растаў — і вырашыў папісяць у яе. Думаў, дзядзька прыйдзе і нічога не заўважыць — была ж лужынка раней, была... Але дзядзька заўважыў... І моцна накрычаў на яго. Асабліва за тое, што Стасік не адразу прызнаўся яму...

Успамін гэты, горкі і прыкры, пранёсся імгненна: разам з ударам. За ім — другі, трэці... Удар — успамін, удар — успамін... Балючы. І чым далей, тым страшней. Ад разумення, што зробленага не паправіць, што перажытае не паўторыцца. І самыя балючыя ўспаміны — не тыя, якія ён і без таго памятаў і ад якіх меў перажыванні, а забытыя. Пра тыя падзеі, якім ён некалі не надаў увагі, але ад іх, аказваецца, пакутавалі іншыя людзі... Усё жыццё Стаха да сёння,

да гэтага моманту, прайшло перад ім, б'ючы яго, выварочваючы сумленне... Апошнім быў успамін пра тое, як няшчыра абышоўся ён з дзяўчынаю, што дапамагла выбрацца з першага дворыка... Але Стах страціў прытомнасць задоўга да яго. Між болем паспеўшы падумаць, што ўспамінае ён сваё мінулае жыццё, пэўна, каб назаўсёды забыцца пра яго, каб развітацца з ім, поўным памылак і пралікаў, каб ачысціцца, каб засталася ад яго толькі віна, чыстая віна, невядома за што і перад кім...

...Стах апрытомнеў пад дрэвам. Ляжаў на спіне і глядзеў уверх праз голле і лісцё. Па дрэве бегала, пераскоквала з галіны на галіну шустрая вавёрка; у небе, хоць і быў гэта дзень, стаяла поўня... Дзіўна, але ўспаміны ягоныя не сцерліся. Нічога не забылася. Наадварот, памяць стала больш вострай. Ён застаўся Стахам і памятаў усе свае крыўды і ўсіх пакрыўджаных ім...

Побач бухнула на зямлю яшчэ адное збітае цела. Стах падняўся і паплёўся па сцяжыне. Галава ўвайшла ў цагляную сцяну і адразу выйшла з другога боку, быццам перашкоды і не было. Стах патрапіў у яшчэ адзін двор...

## РЭ

...які поўніўся шумам — шоргатам ног, гаманою сотняў людзей.

У двары стаялі, сядзелі, хадзілі мужчыны ў незвычайнай памаранчавай вопратцы, падобнай да камбінезонаў. Аднолькавай ва ўсіх, як форма ў войску... ці як у... турме... Стах глянуў — такі ж самы камбінезон быў і на ім. Пэўна, пераапранулі, пакуль ляжаў непрытомны...

Людзі на пляцы былі занятыя кожны сваім, і ніхто на Стаха не звяртаў увагі. «Дзе я? — падумаў Стах. — Куды патрапіў? Чаму мне ніхто не патлумачыць? Навошта заманілі мяне сюды? Дзеля чаго? Няўжо гэта турма?.. Тады за што?..» Здаецца, пакуль ляжаў Стах на пласе, перадумаў-прыгадаў усё, што было ў ягоным жыцці. Аж да дробных крыўдаў, да падрабязнасцяў, усю праўду — як на дэтэктары маны. Але нічога крымінальнага ў ягоным жыцці не было...

Крымінальнага нічога... Значыць, пасадзілі за «палітыку»?.. Гэта прасцей за ўсё. Любога можна лёгка зрабіць шпіёнам, даносчыкам ці «ворагам народа»...

Не, гэта не турма. Гэта гульня нейкая. Кшталту камп'ютарных. Віртуальная рэчаіснасць... Толькі ў гульні ён мог націснуць «Ctrl+Alt+Delete» альбо на іншую пэўную клавішу і «выйсці» ў любы момант... А тут... Хто ім гуляе? Хто гуляе ў яго? І навошта?..

І вырашыў Стах — нягледзячы ні на што — вырвацца адсюль, з гэтага кола дворыкаў. Не чакаць «game over», не чакаць «вызвалення», а ўсяляк набліжаць яго самому... Прайсці праз усе выпрабаванні з адною мэтай: вярнуцца назад, у тое жыццё, з якога ён патрапіў сюды... Бо ведаў: вытрываць любое выпрабаванне можа толькі той, у каго ёсць вялікая мэта, дзеля якой ён жыве...

— Ага, новенькі... — да Стаха падышлі некалькі мужчынаў, падобных між сабою, як браты. Толькі ў аднаго з іх была адметнасць — акуратна падстрыжаная барада кліночкам. Гаварыў ён, бо, мусіць, быў старэйшым. «Хто яны? — падумаў Стах. — Зэкі? Арыштанты? Такія ж, як я... Ці з тых, хто ведае, дзе я цяпер знаходжуся і што мне трэба рабіць?..»

Стаха абступілі пяць ці шэсць мужчынаў.

— Грошы ёсць? — спытаў барадаты.

Грошы ў Стаха былі, калі ён увайшоў у дворык, а цяпер... у гэтай апратцы... у яго нават кішэняў не было.

— Былі, але... — адказаў Стах, спадзеючыся, што мужчыны далей самі зразумеюць.

— Што — «але»? Няма? А гэта што?.. — барадаты паказаў на мяшэчак, які вісеў, аказваецца, у Стаха на поясе. Стах не паспеў і вокам міргнуць, як барадаты адарваў мяшэчак і ўзважыў яго на руцэ. Там нешта звінела, быццам манеты.

— Падманваць надумаў? — са злосцю сказаў барадаты і плюнуў на зямлю: — Ану падымі!..

Падняць скурчаны ў пяску камячок ягонай сліны? Не, нізавошта!.. Стах адвёў рукі за спіну, паказваючы тым, што нічога падымаць не будзе.

— Не хочаш? — Стах бакавым зрокам убачыў, як сціскаецца вакол яго кола мужчынаў са сцятымі кулакамі. «Заб'юць, — падумаў ён, — ну і няхай. Але падымаць не буду!»

— Стойце, хлопцы, — сказаў барадаты, — нам няма патрэбы спяшацца. Нікуды ён не падзенецца. Хай падумае. Хай добра падумае. А потым мы зноў у яго спытаем...

Мужчыны зніклі, расталі ў натоўпе гэтакіх самых, як і яны, аранжавых людзей. Стах застаўся адзін. Сярод сотняў чалавек. Цень сярод ценяў. Чужы ўсім і нікому не патрэбны. Кожны быў заняты тут сваімі думкамі і ні на што не рэагаваў.

Не прайшло і дзесяці хвілінаў, як Стаха зноў абступілі тыя ж самыя мужчыны. Барадаты плюнуў і сказаў: «Падымі!» Стах у адказ не варухнуўся.

— Не хочаш падымаць? Тады выкупі.

— За што?

— А дзе твае грошы?

— Ты ж сам...

— Тады падымі...

Стах маўчаў, не варушыўся. А мужчыны, вытрымаўшы напружаную паўзу, разышліся.

Праз дзесяць хвілінаў усё паўтарылася. Яшчэ праз дзесяць зноў, потым зноў... Напружанне расло. Стах разумеў, што гэта не гульня, што адбываецца гэта ўсё на поўным сур'ёзе і хутка павінна нечым скончыцца. Чым? Здзекамі?.. Доўгімі і бязлітаснымі. Бясконцымі пакутамі, а не кароткай смерцю. Але здзек ужо быў у самой паўтаральнасці гэтай сітуацыі з пляўком. Па сутнасці, драбязы... Здавалася б, ну што тут такога: скарыся, падымі той камячок мокрага пылу, і ўсё скончыцца. Ты станеш такім, як і ўсе... Станеш такім — і застанешся тут назаўсёды?.. Не... Вось гэтага Стах не хацеў. Смерці ён не баяўся. Але і не шукаў яе. Хоць думка пра самазабойства была варухнулася, страпянулася, ды ён яе прагнаў. Ён ведаў і з папярэдняга жыцця, што гэта часовая слабасць, якая не дае выратавання... Не, трэба змагацца да канца. Не зважаючы ні на што. Калі ідзеш да пэўнае мэты і звяртаеш увагу на кожнага сабаку, што гаўкае на цябе, дык ніколі да свае мэты не дойдзеш... Ён жа занадта шмат значэння надаў гэтым мужчынам і зусім забыўся, што мэта ў яго адзіная — вырвацца адсюль... Але, калі яны ёсць, калі лёс звёў з імі, дык, можа, яны чым-небудзь дапамогуць?

Праз колькі хвілінаў, калі мужчыны зноў абступілі Стаха, ён сказаў:

— Над намі адно неба, пад намі адная зямля. Мы ўсе тут не па сваёй волі. Усе роўныя. Апроч вас я нікога не ведаю. Дык давайце ж трымацца разам!

Аднак гэтыя пафасныя словы ніякога ўражання на барадатага не зрабілі. Той нібыта не пачуў іх, плюнуў і сказаў:

— Падымі!

— Не хачу! — закрычаў Стах, — Не магу! Не буду! — і, адштурхнуўшы барадатага, ірвануўся з кола мужчынаў і пабег.

Бег доўга, ажно здзівіўся, што такі маленькі дворык ніяк не скончыцца... Ляцеў між людзей, збіваў іх з ног, падаў сам, падымаўся і зноўку імчаў. Пакуль не заўважыў наперадзе расчыненыя дзверы і не ўскочыў у...

## МІ

...жоўты ад голых людскіх целаў дворык.

Стах спыніўся, задыханы ад шпаркага бегу. Людзі павярнуліся да яго, і Стах убачыў, што патрапіў ён у дворык, поўны жанчын...

Жах!.. Згвалтуюць!.. Стах кінуўся назад — сцяна паўстала перад ім. Зноў пастка... Стах замёр, прыціснуўся плячыма да шурпатай сцяны. Шурпатай?.. Стах спачатку адчуў, а потым і ўбачыў, што ён таксама голы. Пэўна, тыя крымінальнікі паспелі садраць з яго адзенне, калі ён вырываўся... Зрэшты — што за д'ябальшчына! — Стах зірнуў уніз і... Гэта быў не ён. Гэта была жанчына... Ён стаў жанчынай? Не можа таго быць!.. Не хачу-у!..

Але факт быў навідавоку — Стах зрабіўся жанчынаю. Толькі памяць ды розум — начынне — засталіся ў яго мужчынскімі.

Некалькі жанчын узялі Стаха пад рукі. Ён не супраціўляўся. Жанчыны завялі Стаха ў вялізны пакой, у якім уздоўж сцяны стаяў суцэльны ложак — метраў на сто даўжынёй. На ім ляжалі такія ж голыя, як і Стах, жанчыны. Паклалі на ложак і Стаха.

Усё рабілася моўчкі, без тлумачэнняў. Нібыта пакідалася выключна на розум Стаха. Як ён зразумее, як ацэніць тое, што дзеецца, так і будзе...

А адбылося тое, чаго ён і чакаў, убачыўшы ложак: у пакой увайшлі адразу мо сто голых мужчынаў... Стах здагадаўся потым, што гэта былі такія ж мужчыны, як ён — жанчына... Бо ім увесь час хацелася памяняцца месцамі. І яны мяняліся... Аж да стомы, што перайшла ў сон-забыццё. Пры гэтым несупынна гучала прыгожая музыка. Знаёмая Стаху мелодыя, накшталт «Зорка Венера ўзыйшла над зямлёю...» , і вочы засцілаў салодкі туман...

Скрозь сон Стах пачуў, як яго ўзялі за рукі і за ногі і панеслі. Калі б Стах хацеў застацца тут і зноў, і зноў атрымліваць насалоду, яму варта было толькі падаць знак, і яго б пакінулі... Але ён не жадаў...

Ачуўся Стах ужо ў іншым дворыку. Ачуўся...

## ФА

...ад казытання травінак па шчацэ, вуху.

Ён ляжаў у высокай, густой траве. Павяваў лёгкі ветрык, варушыў сцяблінкі, і яны гладзілі ягоны твар.

Гэта быў першы дворык, напоўнены зелянінай, а не пяском, стаптаным у ток. Так, дворык, а не звычайны зямны луг, як падумалася Стаху адразу. Ён палічыў ужо, што вырваўся назад, на волю, аж не — зноў убачыў сцены, вежы над імі і ваяў са стрэльбамі...

Трава была мяккая і ласкавая. Лíслівая. Можна было б ляжаць гэтак хоць усё астатняе жыццё. Калі б не голад, калі б не вострае жаданне есці, якое адчуў раптам Стах.

Ён адарваў колькі травінак і пажаваў. Нясмачна. Жавалася трава, нібыта пластмасавая, — нават сок з яе не выціскаўся.

— Што, есці хочаш, хлопча? — да Стаха падсеў чалавек. Стах зірнуў на яго, ацаніў: з «нашых» ці з «абслугі»? Здаецца, з такіх, як і ён, прышлых.

— Не памятаю, калі еў апошні раз, — сказаў Стах, без асаблівай ахвоты падняўся і сеў, — не памятаю...

— Бачыш, вунь чалавек у зялёным капелюшы? Падыдзі да яго і скажы, што ты з пятага кута. І ён цябе накорміць.

— Але ж я не з пятага кута. Я не ведаю, адкуль я, але, мусіць, не з пятага...

— А якая розніца? Табе хочацца есці — дык змані. Тут так: не падманеш — не паясі.

— А хто-небудзь іншы накарміць можа? Каб проста так, без хлусні...

— Не, толькі ён.

Стах паляжаў яшчэ трохі. Ад думак пра ежыва голад зрабіўся зусім невыносным, пякуча-балючым. Лепш бы ён не жаваў той травы. Пад лыжачкай смактала так, бы нехта кішкі намотваў на руку і цягнуў... І тады Стах падняўся і пайшоў да чалавека ў зялёным капелюшы.

— Ты з пятага? — спытаў той адразу. Стаху заставалася нават не прамовіць нічога, а толькі моўчкі кіўнуць галавою: «Так», і ежа стала б ягонай. Але дагэтуль дапамагалі яму выжыць, вытрываць ягоныя наіўнасць ды шчырасць, імкненне да праўды і справядлівасці, і ён вырашыў і цяпер не здраджваць самому сабе:

— Не.

— Не з пятага? — здзівіўся чалавек. — Ты што, я ж бачу, з пятага...

Яшчэ адзін шанц назвацца і пад'есці... Але Стах быў ужо цвёрдакаменны ў сваім перакананні:

— Я не ведаю адкуль я, але не з пятага...

— Першы раз чую, каб чалавек не зманіў. Дзіва... Есці хочаш? Ну, прысядзь... Я ведаю, хто ты і адкуль. Хочаш, раскажу? — і чалавек у зялёным капелюшы пачаў расказваць Стаху пра Стаха.

Пачаў здалёк, з бацькоў, з данараджэння. Распавядаў такія рэчы, што Стах адразу пераканаўся: гэты чалавек і сапраўды ўсё пра яго ведае. А потым дайшоў да такіх прыкрых, брудных падрабязнасцяў пра бацьку і маці, што Стаху зрабілася сорамна за іх... Сёе-тое ён ведаў, можа, не так дакладна, але ведаў. Калі б чалавек расказваў пра чужых людзей, і то Стаху было б няёмка, брыдка. А тут — бацька і маці... Чалавек раптам спытаў: «Можа, я памыляюся... Можа, я не пра тваіх бацькоў кажу?» Прасцей простага было пацвердзіць: не пра маіх — і адмежавацца... Але Стах стрымаўся, ледзь не крыкнуў на самога сябе: будзь шчырым. І прызнаўся чалавеку: пра маіх, пра маіх бацькоў...

Чалавек здзівіўся, але выгляду не падаў. І пачаў распавядаць Стаху пра ягоны народ, пра краіну, у якой ён жыве. Зноў жа — праўду. Непрыемную, горкую, ганебную, але — праўду. Стаху карцела адрачыся ад сваёй, такой нягеглай, краіны, з якой смяецца ўвесь свет. Сказаць, што прыйшоў ён з той, у якую прыехаў на экскурсію. І гэта было б амаль ісцінай. Аднак ён зноў стрымаўся, хоць разумеў, што калі б адрокся, шлях да ежы адразу ж скараціўся б. Да ежы, але не да волі...

Чалавек зноў выгляду не падаў, што здзівіўся. Між тым Стах згледзеў за ім стол поўны найсмачнейшых закусак ды выпівак. За сталом Стах, ці не ўпершыню за час вандровак па дворыках, убачыў некалькі знаёмых твараў. Проста насупраць яго сядзеў паэт, які праславіўся адным вершам, а побач з ім — той, супраць каго гэты верш быў напісаны. Яны разламалі на дваіх смажанае парасё і ўгрызліся ў ляжкі... Стах убачыў яшчэ некалькі пазнавальных твараў. Аднак

не было сярод іх ягоных сяброў ці хоць бы тых, каго ён паважаў і мог бы падысці цяпер і падаць руку.

Галава кругам пайшла ў Стаха ад смачных пахаў, што паўзлі ад стала, глыток сліны перакрыў дыханне... А мужчына сказаў:

— Ідзі і еш...

Стах засумняваўся: ці варта яму сядаць за адзін стол з тымі людзьмі, якіх ён не паважае... Тым самым — ці не стане ён падобным да іх, адным з іх? Спыніўся на паўкроку і вярнуўся да чалавека ў зялёным капелюшы.

— Чаму ты не пайшоў? Там што, ёсць табе знаёмыя? Хто? Калі гэта кепскія людзі, здраднікі ці даносчыкі, злачынцы ці забойцы, дык мы іх прыбяром. У расход пусцім адразу ж... Каб табе есці не заміналі... А можа, тут ёсць людзі, якіх ты проста не паважаеш, саромеешся, ці яны брыдкія, агідныя табе, дык ты толькі скажы...

Стах хмыкнуў. Усё ён ведае, гэты чалавек. Аднак жа хоча, каб Стах сам назваў людзей, якіх тут жа «ў расход» пусцяць... Не, нікога ён не назаве. Подласць подласцю не лечаць, а зароблены такім чынам кавалак хлеба папярок горла стане... Данос ёсць данос, якою б прыгожаю, высакароднаю мэтаю ён ні прыкрываўся... Данос, як і здрада, у любой вопратцы, у любы час — зло, а не дабро...

Толькі Стах падумаў гэтак, як стол знік, і чалавек у зялёным капелюшы прапаў, нібы і не было яго побач. Вакол адно — трава. Зялёная трава на прамавугольных магілках, зялёны мох на старых крыжах. Гэта былі могілкі. Стах пайшоў між магілаў і крыжоў, пайшоў да расчыненых дзвярэй... у новы дворык. Спыніўся. Павагаўся трохі і ступіў...

## СОЛЬ

...у ланцуг людзей, якія павольна рухаліся наперад.

Настолькі павольна, знясілена, зморана, што Стах, яшчэ не стомлены, яшчэ свежы, ледзь стрымліваў сябе, каб не выйсці з гэтага шэрагу і не пакрочыць, абганяючы іншых, да той мэты, да якой паўзлі яны гэтак марудна. Наперадзе чуўся грукат, нібыта трушчылі там кіркамі ды кувалдамі каменне. Так і было: ланцуг людзей цягнуўся да каменяломняў. Там кожны браў сабе глыбу па сілах, узвальваў на плячо і нёс. Стах таксама ўзяў сярэдніх памераў кавалак блакітнага граніту і панёс. Назад, з грузам, людзі ішлі крыху хутчэй. Падыходзілі да краю вялізнай яміны, кідалі туды камяні і зноў павольна сунуліся да каменяломняў.

І гэтак цэлы дзень. Доўгі дзень — гадзінаў пятнаццаць, ад цямна да цямна. Потым кароткая ноч. А з ранку — зноў праца. Гэтым разам з кіркай і кувалдай. Праз дзень змены — то камяні насіць, то разбіваць блакітную скалу. Вось і ўся разнастайнасць.

Стах пазнаёміўся з суседзямі па ланцугу. Гэта былі першыя за ўвесь час людзі, з якімі ён сам загаварыў тут і паразумеўся. Таго, хто быў перад Стахам, звалі Кнут, а таго, хто быў за Стахам, — Джой. Яны жылі тут даўно — ужо нават збіліся з ліку, колькі дзён, ці, можа, нават гадоў.

Дзень заканчваўся. Усе сядалі, не разбураючы жывога ланцуга, там жа, дзе заспяваў іх вечар, на адпачынак-сон. І, дзіўная рэч, радаваліся, што яшчэ адзін дзень пражыты. Некаторыя так і казалі: «Дзень прайшоў — і слава Богу!» Чалавек — такая жывёліна, што да ўсяго прывыкае. Усё з’ядае ў рэшце рэшт абыякавасць і апатыя. Ніхто, здаецца, не задумваўся,

дзе ён, навошта насіць гэтае каменне, ніхто не думаў нават, што тут — горш, як у турме. Бо ў турме ведаеш за што сядзіш і колькі табе яшчэ засталося. Ведаеш, што некалі твой «тэрмін» скончыцца. А тут... тут ніхто нічога не ведаў.

Не задумваліся ні пра што і суседзі Стаха. І калі Стах падзяліўся з імі жаданнем збегчы адсюль, ні Кнут, ні Джой яго не падтрымалі.

— Навошта? — абыякава сказаў Кнут. — Ад свайго — куды ты ўцячэш?.. А па-за сваім — чужое... Раз дадзена нам гэткае жыццё, гэткі лёс — трэба жыць.

— Няпраўда. Гэта зусім не так... Чалавек можа змяніць свой лёс, сваю будучыню. Трэба толькі вельмі хацець гэта зрабіць і нешта рабіць дзеля гэтага. Пад ляжачы камень вада не цячэ... Калі б я не імкнуўся нешта змяніць, я застаўся б у тым самым першым дворыку. Ці другім...

— Змяніць... Жадаць... Навошта? — казаў Кнут, мусіць, па-нарвежску, але Стах разумеў яго. — Дзеля чаго? Каб з адной турмы трапіць у другую, можа, яшчэ горшую? Жыць можна і тут.

— Жыць? Ты называеш гэта жыццём?

— Жыццё ёсць вучоба, вучэнне цярплівасці і цярпенню. І тут мы ў ідэальным становішчы.

— Так, жыццё вучыць чалавека цярплівасці. Але не цярплівасці ў чаканні, а цярплівасці ў дзеянні. Калі нешта не ўдалося з першае спробы, не атрымалася, зрабі ў другі раз, трэці... І ты — пераможаш, даб'ешся свайго... Ведаеш прытчу пра жабу ў смятане: боўталася яна, боўталася там, збіла масла і вылезла... Трэба дзейнічаць.

— Дзейнічаць? Каб загінуць?.. Не, я ведаю, што я — непаўторны, я адзіны такі на свеце. І я павінен сябе зберагчы, захаваць як мага большы час. Вось

мая задача на гэтай зямлі, ці ў гэтым двары. Мая задача не толькі дайсці да мэты, але і не страціць сябе пры гэтым. Неабходна выкарыстоўваць любую мажлівасць жыць і выжываць. У любых умовах. І не рызыкаваць па-дурному.

— Жыць... Выжыць... Працягласць жыцця вымяраецца не колькасцю пражытых гадоў, а колькасцю назапашаных уражанняў. Чалавек, які пражыў сто гадоў у вёсцы і не быў далей за рэчку за хатай, пражыў кароткае жыццё... Памрэш і ты, колькі ні будзеш берагчы сябе. Памрэш рана ці позна. У нас кажуць: усё, што свеціць, — згарае. Ці не так?

— Так.

— Згарыш і ты. Згнііеш тут, так нічога больш і не ўбачыўшы, акрамя блакітнага камення і сагнутых спінаў перад сабою. Не пакінуўшы нікога і нічога пасля сябе. Дык няўжо так і будзеш ты цягаць гэтае каменне, не пойдзеш са мною?..

— Кожны памірае сваёй смерцю. Так кажуць у нас... Значыць, мне наканавана гэта: ні да чаго не імнуцца, жыць, як жыву... І таму, нават калі б я ведаў, што заўтра надыдзе канец свету, я сёння ўсё роўна насіў бы каменне...

Ягоную філасофію нельга, немагчыма было «прабіць». І пагаварыўшы гэтак яшчэ колькі разоў, Стах вырашыў не шукаць супольніка, а выбірацца аднаму.

Пад раніцу, калі ўсе спалі, ён устаў і пайшоў. Было яшчэ цёмна, ён не бачыў куды йдзе, куды караскаецца па каменні. Урэшце дапоўз да схілу, які заканчваўся недзе глыбока ў цемры. Стах заплюшчыў вочы і пакаціўся ўніз.

Калі развіднела, Стах убачыў, што знаходзіцца зноў у дворыку, які патанае...

## ЛЯ

...у перадранішнім сінім паўзмроку.

Колькі бачылі вочы, двор быў запоўнены невялікімі, дачнымі, дамкамі. Падысці да іх адразу Стах не адважыўся. А дарэмна. Мог бы ў любым з іх адпачыць з дарогі. Яго прынялі б з радасцю.

Даведаўся пра гэта Стах толькі тады, калі двор, ажыў — прачнуўся і напоўніўся людзьмі. Яго ўбачылі, кінуліся абдымаць. І Стах зразумеў, што сюды рэдка хто прыходзіць.

Жыццё тут цякло размерана і спакойна. Нешматлікія насельнікі лічылі, што патрапілі — ні больш ні менш — у рай. Кожны тубылец меў свой асобны сіні дамок, выдатную ежу, якая невядома адкуль бралася кожную раніцу, — і ўсё свежае, смачнае, рознае... Дні людзі праводзілі ў цікавых гутарках, у чытанні кніг, у гульнях. Некаторыя малявалі, іншыя нешта пісалі... На адно тут было табу, забарона — на ўспаміны пра сваё мінулае...

Варта на сценах стаяла, але ўцякаць адсюль ніхто не збіраўся, — гэта Стах зразумеў адразу ж. І пераканаўся пасля адной-дзвюх размоваў.

— Ад дабра дабра не шукаюць, — загаворвалі ягоны неспакой тубыльцы, — мы шмат дзе былі, у кожнага быў свой шлях сюды, але лепшага жыцця мы нідзе не бачылі. Адсюль можна выйсці, але яшчэ ніхто сюды не вяртаўся... Не рвіся дарэмна і ты, жыві тут...

— Калі ніхто сюды не вяртаўся, дык гэта зусім не азначае, што недзе горш, чым тут. Можа, якраз наадварот... — казаў Стах, але ніхто яго не слухаў. Людзі, знявераныя і стомленыя жыццём, радаваліся свайму ціхаму шчасцю і нічога лепшага не жадалі. Больш за тое, некаторыя, пачуўшы ягоныя словы, пачыналі

азірацца, ці не чуе хто іх: яны баяліся страціць, што мелі... Хоць, па сутнасці, існаванне іхняе тут нічым не адрознівалася ад турэмнага.

Стах жа супакоіцца не мог. У яго ёсць права выбару: спакусіцца адносна сытым і лёгкім жыццём, асабліва ў параўнанні з тым, што бачыў, пераджыў раней, у іншых дворыках, і застацца тут, альбо... Што чакае яго наперадзе, там, за сцяной, ён не ведаў. Але спыніцца, як яму здавалася, на паўдарозе ён не хацеў...

У той дзень, калі Стах канчаткова вырашыў ісці далей, да канца, ён зусім неспадзявана знайшоў аднадумца. А пераканаў ён даўняга жыхара гэтага дворыка простым пытаннем:

— Што такое, па-твойму, шчасце?

— Не ведаю... Тут, канкрэтна, не ведаю... Раней, там — ведаў... Хіба мо — шчасце ў тым, каб вярнуцца дамоў, на радзіму, да родных...

— Вось-вось... Дык мо паспрабуем, мо рызыкнём?

— Давай...

Ноччу, калі ўсе спалі, яны зрабілі падкоп пад адною са сценаў і пралезлі...

## CI

...ну вядома ж, у яшчэ адзін дворык.

Ён быў пусты.

Толькі — дзверы, дзверы, дзверы... у сценах.

І на кожных дзвярах надпіс: «Шчасце», «Гора», «Багацце», «Страх», «Радасць», «Боль», «Каханне»... і далей — усе мажлівыя пачуцці і станы чалавека.

Стах не бачыў, што выбраў той, хто патрапіў у гэты дворык разам з ім.

Яму ж хацелася выбраць дзверы з надпісам, які ўключаў бы ў сябе ўсе гэтыя паняцці, каб раз

і назаўсёды пакончыць з гэтымі пакутамі, з гэтымі выпрабаваннямі, з гэтымі вандроўкамі па дворыках...

Ён выбраў дзверы з надпісам «Смерць».

Адчыніў іх і...

## ДО

...выйшаў на тую ж самую вуліцу, з якой увайшоў некалі ў Скарынаў дворык.

## *Частка трэцяя.* ЧАКАННЕ, альбо Зацемкі 1995-га года

> І азірацца стаў я недаўменна,
> Нібы ў быццё вярнуўся з небыцця...
> *Дантэ. «Боская камедыя» — «Пекла».*

Цені паўзлі па зямлі. Доўгія цені, з якіх нараджаецца вечар, каб памерці ў ноч. Няспешна, але няўмольна, няўхільна, набліжаліся яны да ног Стаха, і спыніць іх — азначала спыніць час, спыніць жыццё. Цені належалі не навакольным дрэвам і дамам, а сонцу, якое хавалася за гэтымі дрэвамі і дамамі, якое сыходзіла адсюль некуды туды, дзе цені цяпер змяншаліся, дзе цемра скурчвалася і знікала, дзе нараджаўся ясны дзень. Любы зыход ёсць нараджэнне? Мажліва, і так. Але не тут, а недзе там... Стах наступіў на блізкі цень, аднак ён абняў сабою ягоны чаравік, накрыў, узяў у палон, і Стах адчуў холад ценю, нібы засунуў нагу ў гурбу снегу. Холад не фізічны і таму адчувальны яшчэ больш — страшней. Сонца забірала адсюль не толькі сваё святло, але і цяпло. Забірала, каб заўтра зноў гэтаксама няўхільна — немінуча — аддаць і святло, і цяпло людзям. «Дык ці варта змагацца

з насоўваннем холаду і цемры? — падумаў Стах. — Яны наколькі непазбежныя, настолькі часовыя. Законы прыроды адзіныя для ўсіх, і кожнаму краю рана ці позна трэба адпачынак. Хай і наш адпачне... Мажліва, продкі нашыя пажылі ў ясны дзень, мажліва, нашчадкі нашыя яшчэ пажывуць. А на нашую долю дасталася ноч...»

Стаху балела за тое, што адбывалася ў краі. Ён упарта, пакутна шукаў выйсця для сябе, а знаходзіў толькі апраўданні бяздзейнасці. Гідка было адчуваць сваю слабасць перад сістэмай, моц якой здавалася непарушнай, як законы прыроды. Крыўдна было жыць чаканнем, бо жыццё адно і яго не перачакаеш...

Наляцеў вецер. Рэзкі, нервовы. Прыгнуў галовы дрэваў, вычасаў пажоўклыя лісты, што з апошніх сілаў трымаліся за жыццё. Шырокі, нібы спрацаваная даланя, кляновы ліст апусціўся на плячо Стаха, пагладзіў яго, быццам пашкадаваў-паспачуваў, альбо — развітаўся, і з'ехаў на лаўку. «Восень... Вечар года, які нясе ноч — зіму. І тут — спачын...» — падумаў Стах. Ці не таму думкі ягоныя круціліся сёння вакол аднаго — спачыну, ці не таму толькі пра набліжэнне яго гаварыла яму цяпер прырода, што быў ён вельмі стомлены? Некалькі апошніх месяцаў працаваў Стах над карцінаю. Дзясяткі варыянтаў, сотні эскізаў адпрэчыў, перш чым пачаў пісаць. І вось праца падыходзіць да канца, а ён — незадаволены ёю. Грызе яго чарвяк сумліву. Нібы нехта, брыдкі і агідны, шэпча яму: «Не тое, зусім не тое выходзіць у цябе, не тое, што ты задумваў...» Хоць сябры і жонка ў захапленні, хоць і сам ён бачыць, што ў гэтай карціне «падскочыў» вышэй за самога сябе, аднак... Аднак штосьці ў ёй не задавальняла яго. Што? Ён пакуль не ведаў. Шукаў і не знаходзіў. Бывала з ім

такое і раней, але тады ён альбо быў больш упэўнены ў сабе і пакідаў усё так, як склалася, альбо менш ведаў і веды не перашкаджалі яму (як не дапамагалі цяпер), таму выйсце знаходзіў хутка. Гэтым жа разам ён, напэўна, занадта сур'ёзна паставіўся да свае чарговае, так — чарговае, а не этапнае, работы, бо нішто з таго, што ён прыдумваў, не «бачылася» яму на карціне, як завяршальны штрых... Таму яна разварвалася, распадалася на астраўкі, з'яднаць якія ў адзіны мацярык ён не мог...

Сёння вечарам Стах ачуўся ў той момант, калі стаяў ля карціны з кухонным нажом, гатовы кінуцца на яе, пакроіць на кавалкі, змесці іх у кут і пачаць пісаць нанова. Ачуўся і вырашыў выйсці ў блізкі скверык, каб адпачыць, каб забыцца. Бо ён раптам зразумеў, усвядоміў, што незадаволенасць гэтая перапаўняла не толькі яго. Яна зыходзіла і ад нясконачанай карціны. А жаданне знішчыць свой твор — ці не было то жаданне знішчыць сябе? Бо абрыдла яму шукаць выйсце, а знаходзіць апраўданні, бо зразумеў ён, што толькі чалавек, толькі мастак і не болей за тое...

Цямнела надзіва хутка. Літаральна на вачах гусцелі фарбы празрыста-бясколернага паветра. Цені даўно сабраліся разам, у адзін, вялізны, які ўвабраў у сябе ўвесь горад. Паўз лаўку, на якой сядзеў Стах, праходзілі нейкія людзі, праносілі свае пахі, фарбы і словы. Скверык амаль апусцеў. «Паехалі» дамоў маладыя бабулі і маці з унукамі і дзецьмі ў вазках. Зніклі і сабакаводы. І сапраўды — сабакаводы, бо водзяць яны сваіх сабак, баяцца нават спусціць іх з павадка, каб не зманілі і не скралі... Не, водзяць сваіх гаспадароў сабакі — цягаюць за сабою ад дрэва да кусціка, пырскаючы патроху ледзь не на ногі клапатлівым «уладарам».

На вуліцы запалілі ліхтары, і ў скверыку стала яшчэ цямней. Стах застыў у роздуме — маўклівы, нерухомы, — і збоку магло падацца нават, што ён дрэмле.

— Малады чалавек, а малады чалавек! — ля Стаха спыніўся нейкі мужчына, на выгляд амаль дзед, але ў паставе ягонай адчувалася яшчэ моц і сіла, а ў руках — лёгкасць. — Малады чалавек, вы не скажаце, дзе тут магіла Пфляўмбаўма? — Мужчына спытаў і пільна ўгледзеўся ў вочы Стаху. Гаварыў ён з заўважным акцэнтам. Прыбалтыйскім, падобна?

«Магіла Пфляўмбаўма?..» — Стах урэшце зразумеў, пра што ў яго пытаюцца, і страпянуўся: і сапраўды, некалі на месцы гэтага скверыка былі могілкі. Нямецкія — лютэранскія — могілкі. Але бальшавікі гадоў пяцьдзясят таму іх знеслі, магілы выраўнялі, а надмагільныя пліты з гатычнымі надпісамі разабралі месцічы на падмуркі дамоў. І ніхто, мусіць, цяпер у цэлым горадзе не пакажа тое месца, дзе была некалі магіла Пфляўмбаўма...

— Карла Іванавіча Пфляўмбаўма, — сказаў чалавек і на гэты раз акцэнт ягоны падаўся Стаху яўрэйскім і сам ён падобным да яўрэя, старога менскага яўрэя.

— Не ведаю, — адказаў Стах, — тут даўно скверык. Я пасяліўся — скверык ужо быў. Спытайцеся мо ў каго са старэйшых.

— Які скверык? — перапытаў мужчына здзіўлена. Роблена здзіўлена, але таго хапіла Стаху, каб адняць спіну ад лаўкі і агледзецца. І праўда: які скверык? Стах сядзеў на могілках, і вакол былі надмагільныя пліты. Сурова перамежваліся яны між сабою, стаялі вышэй-ніжэй нібы дамы ў начным горадзе, але не абыякава, не хаатычна, як на Кальварыі, а строга, акуратна.

— Тут быў... тут заўсёды быў скверык... — толькі і змог прамовіць Стах і падумаў: «Пакуль зусім не сцямнела, трэба ісці дахаты, класціся спаць і добра адпачыць... Адпачыць, бо так нядоўга і з глуздоў з'ехаць...» Могілкі, падобныя правільныя могілкі з пагрознымі надмагільнымі плітамі, не зусім беларускія і разам з тым спрадвечна-беларускія, і павінны былі быць на ягонай карціне. Менавіта іх там не хапала. Якраз такіх. Толькі вось дзе? У правым куце на «залатым сячэнні»?..

— Ну, скажам, скверык тут быў не заўсёды, і вы гэта цудоўна ведаеце, — сказаў мужчына, прысеў побач са Стахам на лаўку, дастаў з кішэні люльку, набіў тытунём з прыгожае, чорнае ў чырвоныя кветкі, табакеркі. — Прабачце, малады чалавек, у вас запалак не будзе?

— Няма... Даруйце, але нічым я вам дапамагчы не магу... Я сабраўся быў ісці дамоў, таму яшчэ раз даруйце...

— Пачакай, — раптам безапеляцыйна прамовіў мужчына, — не спяшай, мне, уласна, не магіла Пфляўмбаўма трэба. Я і без таго ведаю, дзе яна. Вунь, бачыш, над плітою крыж гатычны каменны?.. То яна. А прыйшоў я па іншай справе. Я прыйшоў, каб паказаць табе тваю магілу...

— Маю магілу?.. Мне?..

— Непасрэдна.

— Прабачце, але мне не да жартаў...

— Я і не збіраўся жартаваць. Пойдзем пакажу.

Стах не быў загіпнатызаваны і, не зважаючы на стому, як здавалася яму, цалкам валодаў сабою. Прынамсі, мог крытычна мысліць, мог не паддацца на спакусу, мог, думалася яму, у любы момант спакойна

развітацца з незнаёмцам, устаць і пайсці дамоў. І калі што і ўзяло верх — дык простая цікаўнасць, так думаў ён, і жаданне праверыць сябе ў незвычайнай сітуацыі. На гэта, пэўна, і разлічваў мужчына.

— Пойдзем? — перапытаў ён і пыхнуў дымам — белым на тле цемры, лёгкім у святле ліхтароў і — сапраўдным: Стах пачуў прыемны пах яго, далікатны і тонкі. Калі і як незнаёмец прыпаліў — Стах не прыкмеціў.

— А чаму б і не? — асмялеў раптам Стах. — Пойдзем.

Хацеў таго Стах альбо не, аднак у словах ягоных чуліся выклік, лёгкая іронія і здзек. Толькі вось з каго іронія і здзек — з сябе ці з мужчыны? Каму выклік? Паколькі Стах быў амаль упэўнены, што перад ім рэальны чалавек, то і першае, і другое, і трэцяе адрасавалася толькі яму самому. Ён не любіў у сабе гэтую разважлівасць, асцярожнасць, боязь рызыкі, разлік — памяркоўнасць, як цяпер любяць казаць — і таму час ад часу кідаў сябе прымусам у нейкую авантуру, з якое, бывала, выплываў яшчэ больш раззлаваны і незадаволены сабою.

Мужчына і Стах прайшлі колькі дзясяткаў крокаў углыб скверыка-могілак і спыніліся ля свежага жоўтага грудка, у які быў уторкнуты кепска пафарбаваны драўляны слупок з чорнаю металічнаю шыльдачкаю. На ёй свяціліся спешна, але не скажаш, што неахайна, напісаныя белыя словы і лічбы. Прозвішча, імя, імя па бацьку Стаха. Прычым імя поўнае, пашпартнае — Станіслаў, а не творчае, не сямейнае, пад якім яго ўсе ведаюць. І даты. Нараджэння і смерці. Нараджэння... і... смерці: 12.10.199... Лічбы паплылі перад вачыма Стаха: год быў сёлетні...

— Гэта — праўда?.. — непаслухмянымі сухімі вуснамі прамовіў Стах. Прамовіў-спытаў: — Гэта — праўда: мне засталося жыць толькі сем дзён?.. — І ўбачыў свой здымак на магіле пад слупком. Ягоны любімы здымак. У чорнай рамцы і з чорнаю паласою наўскос унізе... І пачуў густы пах сырой зямлі і незасохлае фарбы, якім было настоенае паветра.

— Так, толькі тыдзень — спакойна адказаў мужчына, узяў люльку і пыхнуў дымам, — роўна праз тыдзень ты прыйдзеш сюды, у гэты скверык, сядзеш на тую самую лаўку і будзеш чакаць мяне. Я прыйду да цябе... Каб развітацца. Бо здарыцца з табою тут тое, што і павінна здарыцца: інсульт. Ты заснеш ціха і пакорліва на гэтай лаўцы, і ніхто не здагадаецца табе дапамагчы, ніхто не выкліча «хуткую». А калі прыбяжыць шукаць цябе жонка, будзе ўжо занадта позна...

— Позна... — толькі і змог паўтарыць апошняе слова мужчыны Стах. Ён не быў разгублены. Ён не быў здзіўлены. Ён быў абыякавы да ўсяго, быццам не ўсвядоміў яшчэ, што размова ідзе пра яго. Але — «быццам», бо ён усё разумеў. Толькі вось як рэагаваць на гэта, не ведаў. Успрымаць сур'ёзна, распытаць падрабязнасці, альбо пасмяяцца, пакпіць з мужчыны, — розум не падказваў яму выйсця. Розум маўчаў, нібы прымаў словы мужчыны за ісціну.

— Так, позна, — гэтаксама спакойна паўтарыў мужчына і дадаў, — ужо сёння позна нешта змяніць. Нельга. Немагчыма. І ты не зможаш цяпер ні аддаліць сваю смерць, ні нават прыспешыць, што б ні рабіў дзеля таго. Бо не важна, як ты памрэш, важна — калі. А памрэш ты роўна праз тыдзень — 12 кастрычніка, увечары... Ад інсульту. І будуць адныя шкадаваць цябе такога маладога і таленавітага, а іншыя зайздросціць

лёгкай смерці... У цябе цяпер ёсць толькі адзін выбар: як пражыць, што зрабіць за гэты тыдзень. А ў астатнім — ад лёсу не ўцячэш. І я адно падказаў табе наканаванае.

Стах маўчаў. І тады незнаёмец загаварыў зноў:

— Каб ты канчаткова паверыў мне, а не палічыў, што нашая размова нейкі сон, мроіва, трызненне твайго стомленага розуму, скажу вось што: цяпер восем гадзінаў, а сёмай твае жонка і дачка пайшлі ў тэатр і будуць вяртацца адтуль а палове дзясятай. На скрыжаванні ля Гарадскога вала ў іх аўтобус на поўнай хуткасці ўрэжацца «мерседэс». Не хвалюйся, усё абыдзецца лёгкім спалохам, толькі адна жанчына зломіць руку ды нехта нос разаб'е падаючы. Але дачка і жонка табе абавязкова раскажуць пра гэтае здарэнне, што адбудзецца праз паўтары гадзіны.

І ўсё ж мужчына падабраў вельмі зручны момант дзеля сустрэчы са Стахам: той быў надта спустошаны, каб імгненна рэагаваць на ягоныя дзіўныя словы, калі не паведамленні, каб з нечым спрачацца, каб нешта ўдакладняць... Праз колькі хвіляў няёмкае цішыні, мужчына дастаў з кішэні гадзіннік, пстрыкнуў вечкам, хмыкнуў сам сабе і прамовіў развітальна:

— Ну што ж, калі ты ўсё зразумеў, то — бывай. Мне пара. Не дзякуй, не трэба (быццам Стах збіраўся яму дзякаваць), а праз тыдзень — прыходзь сюды, у скверык, на любімую лаўку. Узваж усё і прыходзь. Абавязкова. І, можа, яшчэ ўбачымся... Бывай.

Стах увесь гэты час, як зачараваны, не зводзіў вачэй са сваёй магілы, са здымка, з якога ён мёртвы ўглядаўся ў сябе жывога. А таму і не заўважыў нават, як і куды знік мужчына. Ці пайшоў ён, ці растаў на месцы, бы дым з люлькі... Але могілкі былі яшчэ вакол Стаха — рэальныя, сапраўдныя, старыя магі-

лкі. І магіла ягоная была перад ім. А значыць, ён не спаў і не трызніў. Стах дастаў з кішэні насоўку, зачарпнуў жменю сыраватага жоўтага пяску са сваёй магілы, высыпаў у хусцінку, згарнуў яе, завязаў і паклаў у кішэню. Вакол ужо былі проста могілкі, не тыя — нямецкія, а нейкія іншыя, якіх Стах не ведаў, не бачыў раней... Стах яшчэ раз зірнуў на дату сваёй смерці: 12.10... павярнуўся да яе спінай і пайшоў у бок святла, у бок вуліцы, на якой, адсюль бачна было, не спынялася жыццё — нізка над асфальтам плылі аўтамашыны і спяшалі некуды людзі.

Так, горад яшчэ не спаў. Ціхенька праслізнуў паўз Стаха амаль пусты 57-ы аўтобус. Кіроўца эканоміў паліва, і машына кацілася ўніз з адключаным рухавіком. З міліцэйскае школы з дружным рогатам выйшлі некалькі хлопцаў у форме. Стах азірнуўся. За ім быў той самы скверык, у які ён увайшоў надвячоркам. Не могілкі — скверык, з рэдкімі, тоўстымі старымі дрэвамі, маленькі, наскрозь працяты скразняком вулічнага святла. Пусты. Звычайны. Аднак Стах чамусьці быў упэўнены, што ўбачанае і пачутае ім тут — праўда, а не сон, не «трызненне стомленага розуму». І ўпэўненасць гэтая — не рэшткі гіпнозу. «Толькі тыдзень... Мне застаўся адзін тыдзень жыцця...» — падумаў ён, падыходзячы да свайго дома. Яму ідзе трыццаць трэці год, ён толькі-толькі ўзбіўся ў творчасці на нешта сваё, перад ім пачала адкрывацца прывабная будучыня, і вось — трэба паміраць... «Не хачу!..» — пульсавала думка, білася, як птушка ў клетцы, ірвалася на волю, у крык, але заглушала яе іншая: «Што рабіць? Як жыць?..» Не — «Як дажываць?» У яго ёсць тыдзень, каб нешта зрабіць, каб, мажліва, змяніць свой лёс. Усяго тыдзень! Не — цэлы тыдзень... Але незнаёмец сказаў, што нічога змяніць ён не зможа. Нават калі

зараз паспрабаваць забіць сябе, зрабіць харакіры, як Місіма, скінуцца з дзявятага паверха, як Янішчыц, ці засіліцца, як Ясенін, — усё роўна «адкачаюць», і памрэ ён, пасля пякельных пакутаў, толькі праз тыдзень: 12.10... У ягоных вачах зноў паўстаў надпіс на слупку над магілай... А значыць — цэлы тыдзень яму давядзецца яшчэ жыць... Давядзецца? То было мала, а цяпер зашмат: «Давядзецца...» — пакпіў з сябе Стах.

Ён падняўся на другі паверх, доўга шукаў у кішэні ключы ад кватэры, а потым, не адразу трапляючы ў замочную шчыліну, адчыніў дзверы. Дома нікога не было. Жонка з дачкою і сапраўды цяпер у тэатры (ведаць пра тое мог шмат хто — падумаў Стах), у ТЮГу, на «Калысцы чатырох чараўніц». Майстэрні Стах, як занадта малады, яшчэ не займеў, не зарабіў: дзяржава не дала, як іншым. І з дазволу жонкі ён ператварыў у майстэрню адзін з трох пакояў «хрушчоўкі» — вузкі і доўгі, бы труна, але з вакном, не заслоненым дрэвамі, адкрытым сонцу. Стах увайшоў у яго, запаліў святло. На мальберце, проста перад ім, стаяла няскончаная карціна. Была яна сярэдніх, можна сказаць, памераў: метр на метр трыццаць прыблізна. Угледзеўшыся ў чорна-шэры прастакутнік палатна, Стах адразу ўбачыў, дзе ён намалюе могілкі. На залатым сячэнні. Там, дзе цяпер жаўцела пляма, ад якой ён пакутаваў, як ад зубнога болю. Узяў фарбы, падабраў на палітры колер — колер нядаўняга вечара, насычаны ярка-бэзавай фарбай ценю ад заходзячага за дрэвамі нябачнага сонца. Стах падыходзіў да карціны, кідаў на яе рэзкія і лёгкія, мокрыя сляды фарбы, адступаў пару крокаў, пазіраў часценька міргаючы, асцярожна вяртаўся і лагодна, ласкава падпраўляў нешта амаль нерухомым пэндзлем. Ён не баяўся сапсаваць кар-

ціну ўнясеннем чагосьці новага, не запланаванага, не прадуманага загадзя, не прыкінутага на эскізе. Ён цалкам аддаўся інтуіцыі, таму пачуццю палёту, якое называюць натхненнем, ці, калі бліжэй да мастакоў, — экстазам. Ён не бачыў цяпер нічога вакол сябе, ён нібыта сам быў унутры сваёй карціны і толькі падмалёўваў, паднаўляў фарбу на лаўцы, на слупку на магіле... Дрэвы вакол сталі ўжо сапраўднымі, ён незадаволены быў толькі небам: яно ніяк не хацела рабіцца жывым...

Бразнулі ключы ў замку — вярнуліся жонка і дачка. Стах адклаў пэндзлі, выцер ад фарбаў рукі: ён любіў вымешваць фарбы ўказальным пальцам, каб адчуваць іх жар і холад. «На пытанне “Што рабіць?” адказ знайшоўся сам, — падумаў Стах, — працаваць. Працаваць, як ні ў чым не бывала. Працаваць так, каб за гэты тыдзень карціну закончыць...» Засталося вырашыць толькі — як жыць цяпер з тым веданнем, што даў яму ў сквeрыку-могілках незнаёмец? Сказаць жонцы ці не?.. «Вядома, не, — рашуча астудзіў сябе Стах, — пакуль — не. А можа, і зусім нічога не казаць. Хай лепш даведаецца пасля. Тады, калі і павінна быць...»

У майстэрню ўбегла дачка. Радасная, шчаслівая і разам — нечым устрывожаная.

— Ой, татка, як добра, як добра... Як файна! Я вырасту і стану актрысай, — і закружылася вакол мальберта, нібы ў танцы. — А ведаеш, што на дарозе было? На скрыжаванні. Усе так і ахнулі...

— Хуценька збірай кніжкі і спаць, — гэта ў майстэрню ўвайшла жонка. Строгая, як заўсёды, калі справа тычылася «выхавання» і вучобы дачкі. — Заўтра рана ў школу, а ты танцы наладзіла. Спаць! Хуценька... І адразу ж палагоднела: — Ну як у нашага таткі

справы? — падышла да Стаха ззаду, паклала галаву на плячо, зазірнула на карціну. — Адкуль узялася гэтая змрочнасць? — адразу ўбачыла яна, памаўчала і дадала: — А ведаеш, у гэтым нешта ёсць... Думаю, мусіць, гэта якраз тое, чаго і не хапала... Але ці не могілкі ты пішаш? Так?

Стах давяраў ёй, яе густу. І недзе там, глыбока ўнутры, парадаваўся, што і сапраўды знайшоў выйсце: менавіта могілак і неставала ягонай карціне дзеля завяршэння, дзеля закруглення, дзеля закальцавання ягонай ідэі, дзеля замкнення яе ў прасторы карціны, дзеля паўнаты цыклу жыцця...

— Стаміўся?

— Трохі... А што там было на дарозе, на скрыжаванні?

— Ой, татка, — зноў падляцела дачка, — імпартны «мерседэс» у наш аўтобус «бух!» — аж шклы павыляталі. Мы так спалохаліся, так перапужаліся...

— Ідзі спаць, балбатуха, бо раніцай не дабудзіцца цябе. Ідзі, калі хочаш яшчэ ў тэатры пабываць, — сказала жонка дачцы, і тая, насупленая, вярнулася ў свой пакой.

— Дык што там было? — спытаў Стах.

— Нічога асаблівага: п'яны камерсанцік на «мерседэсе» на чырвоны святлафор пайшоў і ў наш аўтобус урэзаўся. Кажуць, тармазы адказалі. Але дурням шанцуе — ніводнай драпіны нават. А ў аўтобусе адна жанчына кепска ўпала ды руку зламала, астатніх толькі дробным шклом абсыпала...

Ну што Стах мог сказаць ёй на гэта, і што мог сказаць сабе? Незнаёмцу ён і без таго паверыў. Выпадак з аўтобусам і «мерседэсам» толькі пацвердзіў, што ён не памыліўся, што і сапраўды чаму быць, таго не абмінуць ні сёння, ні праз тыдзень... Ён злавіў сябе

на тым, што не слухае расповед жонкі, і прымусіў сябе «вярнуцца» ў пакой. Жонка таксама заўважыла нейкія змены на твары мужа і спытала:

— Што з табою?

— Нічога, проста моцна стаміўся. Цэлы дзень ля мальберта, як на закланні, як ля станка. Галава «едзе». Пайду пазваню Вітасю. Можа, выйдзем, разняволімся, падыхаем начным Менскам. Колькі, дарэчы, часу?

— Палова на адзінаццатую.

— Якраз добра...

Стах з сябрам — суседам-пісьменнікам Вітасем — практыкавалі гэткія начныя шпацыры, дзеля прасвятлення галавы пасля дзённага тлуму і перад «усяночнай». Былі яны «совамі» і працавалі звычайна ўсю ноч, ледзь не да світанку зімою і да белага дня ўлетку. Вітась азваўся адразу:

— Мы з табою адчуваем адно аднога на адлегласці, як пародзістыя сабакі. Я таксама кіраваў ужо да тэлефона, каб набраць твой нумар...

— Тады — за скверыкам?

— За скверыкам.

* * *

Вітась быў найлепшым слухачом Стаха. Як і Стах ягоным. У гэтых сваіх шпацырах яны не толькі размаўлялі пра жыццё-быццё, але і пераказвалі адзін аднаму задуманыя сюжэты, шліфавалі іх у гутарках, развівалі, а часам і дамыслівалі разам. не раз у думках Стах падзякаваў Богу, што звёў яго з удумлівым, тактоўным, заўсёды прыветным Вітасем. Хоць знешне былі яны зусім рознымі: Стах — тыповы паляшук, а Вітась — каржакаваты, белабрысы «сярэдні» беларус, — сэрцы іх біліся ў такт і душы трымцелі і адгукаліся на адзін і

той жа заклік аднолькава. Таму Стах і не стаў утойваць ад Вітася нічога пра сваю нядаўнюю сустрэчу: быў упэўнены — зразумее і параіць, як самому сабе.

Вітась выслухаў Стаха моўчкі, неяк затарможана-спакойна, нават у хадзе трохі адстаючы, хоць звычайна ішлі яны крок у крок, бы салдаты на пляцы — за трох- ці чатырохгадовае хаджэнне адчувалі адзін аднаго інстынктыўна, інтуітыўна і паварочвалі заўсёды разам, не згаворваючыся, а так, між іншым, у размове.

— Як, ты кажаш, выглядаў ён? — перапытаў Вітась. — Дужы, стараваты, падобны да яўрэя, прыбалтыйскі акцэнт... Чаму акцэнт? Для іх жа любая мова ці ўнушэнне не праблема. Хіба — дзеля паўнаты ўражання?

— Для іх... Ты ведаеш, мне ўсё роўна, хто гэта быў. І ўсё роўна адкуль: з раю, з пекла, з будучыні ці з мінулага. Мне важна іншае: вось каб табе зараз далі толькі тыдзень, адзін толькі тыдзень жыцця, як бы ты яго пражыў?

— Гм... Я думаю... Я думаю, што ў любым выпадку не стаў бы нешта па-буйному змяняць. Жыў бы так, як дагэтуль...

— Няўжо не захацеў бы паспрабаваць тых радасцяў жыцця, якіх не каштаваў, якія адкладваў на потым, і вось гэтага «потым» не стала?..

— Не ведаю... Але адназначна не напіўся б. І па курвах не пайшоў бы. Жыў бы, як і раней, быццам нічога і не здарылася, быццам нічога і не ведаю... Не, усё-ткі, улічваючы, што, мажліва, і сапраўды застаўся толькі тыдзень, пастараўся б дарабіць тыя справы, якія пачаў, дзеля якіх жыў... жыву. Ушчыльніў бы час, працаваў бы дзень і ноч, каб дапісаць пачатую аповесць. Ты ж ведаеш... Я столькі хачу ў яе ўкласці...

Стах уздыхнуў з палёгкай. Гэтакі адказ ён ужо знайшоў для сябе там, у майстэрні: працаваць, дарабіць, закончыць сваю карціну. Геніяльную карціну — хацеў бы думаць ён, каб не вечны сумліў... Ён выдатна разумеў, і, дарэчы, ніколькі не сумняваўся ў ісціне таго, што калі пішаш выбітную рэч, то і пісаць яе трэба адпаведна. У сэнсе — брацца за пэндзаль толькі тады, калі жаданне працаваць непераадольнае, калі ўсё цела ажно трымціць не толькі ад гэтага жадання, але і ад упэўненасці, што менавіта цяпер ты можаш стварыць нешта незвычайнае, геніяльнае. І ніколі не падыходзіць да мальберта, калі дрэнны настрой, абыякавасць да ўсяго, лянота. Бо яны перададуцца твору. Не трэба прымушаць сябе, гвалтаваць. Як жа ты перадасі гармонію свету, калі няма гармоніі ў тваёй душы?.. Калі ж працуеш з асалодай, задавальненнем, калі пішаш карціну, усведамляючы, верачы, будучы перакананым, што творыш рэч геніяльную, то твае думкі, энергетыка, біятокі, твая вера свядома альбо падсвядома перададуцца карціне і яна потым будзе вылучаць іх, яна будзе гаварыць імі з гледачом, з наведнікам выставы, з аматарам ці прафесіяналам; кожны штрышок, кожны мазок будзе сведчыць пра геніяльнасць творцы і ягонага твора. Гэтым і адрозніваецца праца генія, — думаў Стах, — ад працы проста майстра, падзёншчыка, размалёўшчыка. Гэта так, але ў сапраўднага, геніяльнага майстра заўсёды ёсць адзін «хіб», пра які нельга забыцца, які нельга схаваць далёка-далёка, які заўсёды пры ім, бо жыве ў ім. Гэта — сумліў. Часам, праўда, ён — сумліў — спіць, аднак калі ўжо прачынаецца, дык любое ўсведамленне таго, што творыш ты рэч геніяльную, зжарэ ў хвілю ды яшчэ абліжацца. І каменя на камені не застанецца ад тваёй упэўненасці, і перадолець гэты

крызісны стан, не знішчыць зробленае, не запіць, не закінуць усё могуць толькі людзі моцныя...

Вітась ведаў, што пісаў цяпер Стах карціну выключную. Ён бачыў накіды, ведаў задумкі, «чытаў» карціну пачатую і даведзеную да сённяшняга стану. Ён не бачыў хіба толькі тое новае, што дапісаў Стах увечары, пасля вяртання з могілак. І яму хацелася падтрымаць сябра, які, відочна было, заблытаўся ў сабе, у сваіх думках. Але як зрабіць гэта так, каб не пакрыўдзіць яго?

Яны прайшлі колькі кварталаў моўчкі, замкнуўшыся ў сабе і не заўважаючы пекнасцяў соннага Менска, не прыкмячаючы ягонага начнога жыцця, што віравала ля кавярняў, ля прыпынкаў таксовак ды проста ля некаторых зацемненых пад'ездаў. Час ад часу да іх далятала то вуркатанне машыны, то смех ці ўскрык дзяўчыны, то проста гучны тупат ног... Але яны, звыклыя да гэтых гукаў, да такога тла іхніх шпацыраў, не бачылі і не чулі цяпер нічога.

Стах ішоў і думаў, што яму пашанцавала з сябрам. Як і з жонкай. Не толькі ў жыццёвым, бытавым сэнсе, але і ў творчым. Разглядваючы карціну, сябар, здавалася, чытаў ягоныя думкі. А значыць, можна хоць для пачатку супакоіцца: усё ў Стаха атрымлівалася гэтак, як ён і хацеў. А значыць, дамогся ён асноўнага: здалеў дакладна перадаць свае намеры палатну. Вітась, неяк з месяц таму, толькі падышоўшы да карціны, прадэкламаваў Багдановіча: «Паглядзі, як усход разгараецца, колькі ў хмарках залётных агня...» Хоць не было на карціне ні ўсходу, ні хмарак. Там былі людзі. Там былі фарбы. І людзі і фарбы змагаліся між сабою, як дабро змагаецца са злом. Карціна была сном не сном, явай не явай, як, уласна, і само жыццё. Аднак, галоўнае, яна нібы выпраменьвала не безвыходнасць, якою на-

сычанае, прасякнутае нашае сёння, а веру ў блізкую лепшую, светлую будучыню, у перамогу дабра над злом, святла над цемрай на гэтай зямлі. Тое казала ўся карціна, у якой, як і ў гісторыі, як і ў жыцці, дзе мы не ведаем ні пачатку, ні канца, перамяшаліся і мінулае, і сучаснасць, і будучыня, што вынікала з мінулага, як мінулае — з будучыні... Зрабіць гэтакае можна хіба толькі ў жывапісе. Музыка альбо літаратура тут былі б бяссільныя, бездапаможныя...

— Дык кажаш — дапісаць пачатае, дарабіць недаробленае... — парушыў цішыню Стах. — Гэта было б зразумела, гэта было б добра, калі б не адно: сям'я. Ты думаў пра гэта? Бачыш, а я толькі пра тое і думаю. Я пакідаю сям'ю — жонку, дачку — без будучыні... Я нічога не зрабіў, каб забяспечыць ім нармальнае жыццё. Без мяне...

— Кінь ты! Я ўжо не рады, што падтрымаў гутарку. Хіба можна пра такое гаварыць усур'ёз? Па вялікім рахунку — усе мы ходзім пад Богам. І кожную хвіліну — ад нараджэння — рызыкуем сваім жыццём, бо гэта адзінае, што ў нас ёсць незаменнае, неразменнае. Вось зараз можа спыніцца ля нас вунь той «форд», з яго выскачыць малойчык з аўтаматам, і так, дзеля смеху, наробіць у нас дзірачак... І ўсё — канец. Я ўжо не кажу пра банальную цагліну. А ты — праз тыдзень... Кінь. І не думай. Заснуў, панімаеш, на лаўцы, херню нейкую прысніў, а цяпер пакутуе...

Вітась, відаць, пашкадаваў, што ўвязаўся ў гэтую размову, усур'ёз падтрымаў ад пачатку і цяпер захацеў перавесці яе на іншае, зразумелае, апраўданае, вытлумачальнае: проста сон, мроя, трызненне ад стомы... Стах бачыў, як Вітась падбіраў словы, каб не пакрыўдзіць яго, як моршчыў свой вялікі лоб, як прымружваў вочы, ледзь не мусова выціскаючы з

сябе патрэбныя словы, як на Вітасевым носе збіраліся цесненька зморшынкі — Вітась нават не стрымаўся і разгладзіў іх, нібы акуляры зняўшы. Яны прайшлі колькі крокаў моўчкі, а тады раптам Вітась спыніўся, правай рукою прыгладзіў валасы, прымяў на хвілю непаслухмяны чуб і праніклiва зірнуў на Стаха:

— Табе проста трэба адпачыць...

— Я й адпачываю.

— ...Забыцца, з'ехаць куды-небудзь...

— Я й хацеў, але цяпер не паеду.

— Заманаў! Я й падтрымаў размову дзеля размовы. Па-філасофску. Цікавая, думаю, тэма: чалавек даведваецца, што праз тыдзень памрэ — што рабіць, як жыць?.. Сюжэцік — лепш не трэба. Прадай?

Аднак Стах не хацеў пераводзіць размову на жарт, на лёгкую балбатню.

— Я ведаю, што рабіць, — настырна і цяпер ужо упэўнена прамовіў ён.

— Ты сур'ёзна?

— Сур'ёзней не бывае. І не глядзі на мяне так, быццам я з глуздоў з'ехаў. Я пры поўнай памяці. Як і там, на могілках.

— Кажу табе: адпачні, а то і сапраўды ў дурдом, у Навінкі патрапіш з такімі думкамі, і тады ўжо не ты пра сям'ю думаць будзеш, а яна пра цябе.

На тым і развіталіся.

* * *

Ранкам Стах першым чынам патэлефанаваў на працу — а працаваў ён у адным часопісе мастацкім рэдактарам — і папрасіў на тыдзень адпачынак за свой кошт.

Уладкаваўся ён у часопіс не так даўно, калі жыць стала зусім немагчыма: сям'ю трэба карміць, апранаць хоць бы дачку, калі не жонку, а карцінамі на кавалак хлеба цяпер не заробіш. Ён было паспрабаваў. Павесіў пару дзясяткаў не самых горшых сваіх працаў у дзвюх прыватных галерэях. І невялікія, здавалася б, кошты прызначыў, але ніводнай ягонай карціны так ніхто і не набыў. Сваіх багатых «мецэнатаў» — аматараў жывапісу мы пакуль не нажылі — грошыкі «новыя беларусы» трацяць на рэстаранчыкі, начныя клубы ды казіно, а багатыя замежнікі мінаюць нашую незалежна-залежную краіну. Дзяржзаказу не стала, падзарабіць недзе ў калгасе ці на заводзе, малюючы «наглядку», як некалі ў студэнцкія гады, — не падзаробіш: зачынілася гэтая лавачка, накрылася разам з сацыялістычным спаборніцтвам, кампартыяй і ўсёй ейнай ідэалогіяй. Сапраўднае мастацтва, вядома, ніколі не было патрэбным «грамадству», але ж не настолькі... Раней хоць выгляд рабілі, што разумеюць, і падтрымлівалі амаль усіх, апроч тых, хто быў у адкрытай апазіцыі тагачаснаму ладу. Такіх было няшмат. Можна нават сказаць — у нас іх не было зусім...

Рэдактар выслухаў просьбу Стаха і, пэўна, падумаў, што адпрошваецца ён з-за хваробы, бо сказаў: «Добра. Выздараўлівай хутчэй. І прыходзь — ёсць цікавая задумка наконт афармлення. А без цябе мы як без рук».

Цяпер тыдзень у Стаха быў вольным, цалкам ягоным. І ён зачыніўся ў майстэрні-пакоі, каб пісаць, каб працаваць, каб «вылізаць» карціну, каб паспець, каб... На апошнім «каб» і прыгадаў Стах, што сёння ўвечары прэзентацыя выставы Скідзевіча — даўняга ягонага знаёмага, калі не сказаць сябра, і падумаў,

што «вольнасць» мастака заўсёды рэч умоўная і такая ж абстрактная, як творчасць некаторых «авангардыстаў». Не пабыць на выставе Скідзевіча, нават збіраючыся паміраць, ён не мог. Жартам, за чаркай, ён некалі кінуў Скідзевічу, што на ягоную выставу прыйдзе жывым ці мёртвым, з таго ці па-за таго паралельна-перпендыкулярнага свету. «Што ж, пайду, — вырашыў Стах, — не таму, што пакрыўдзіцца і не даруе, а таму, што пражыць гэты тыдзень трэба па магчымасці так, як звычайна. Быццам я нічога не ведаю, быццам нічога не здарыцца. Гэта будзе найлепш. І для мяне. І для жонкі. І для ўсіх».

* * *

Скідзевіч, нягледзячы на маладосць і «зялёнасць», сяго-таго ў творчасці паспеў дасягнуць: даплюнуць і пераплюнуць. Прынамсі, ягонае імя не толькі час ад часу з'яўлялася ў артыкулах, але і колькі разоў гучала ў дакладах. І не адно ў пераліку «маладых, аднак ужо таленавітых». Ды без сувязяў у камерцыйным свеце гэта нічога не азначала б. Скідзевічу пашанцавала: ягоныя будатрадаўскія знаёмыя з менскага наргаса ў апошнія гады існавання камсамолу настваралі розных фірмаў і фірмачак, і грошы ў іх не пераводзіліся. Яны і арганізавалі выставу ў самім Палацы мастацтваў.

Афіцыйную частку Стах прастаяў у куточку, дрэмлючы пасля бяссоннай ночы, а на фуршэце закаціў скандал. На самым пачатку, праўда, вывеў яго з сябе рэдактар часопіса, які, вядома ж, быў тут: «Дык вось, як ты хварэеш... — шапнуў ён, праходзячы міма, — заўтра ў дзесяць каб быў у мяне...» Стах не стаў спрачацца, нешта даказваць, проста адышоўся да сцяны, да малапрыкметнага століка. Там ён, невядома з кім,

паціху-патроху напіўся ледзь не да «адключкі», і з ім здарылася істэрыка. «Я хутка памру!..» — крычаў ён на ўсю залу і чапляўся да нейкае прыгожае студэнтачкі Акадэміі мастацтваў, якая яго ведала: «Я хачу цябе трахнуць! Маўчы! Мне нельга адмаўляць! Я хутка памру! Не адмаўляйся, лярва!..»

Сябры выцягнулі Стаха ў хол. Ён сядзеў там і плакаў. І шаптаў у роспачным запале: «Быдла, быдла, вакол адно быдла! Абрыдла ўсё! Забярыце мяне адсюль! Не хачу жыць... Абрыдла... Быдла...»

У холе было сыра. Холадна, дрогка, як у выцвярэзніку. Гарэлка хутка выйшла, выдыхалася і істэрыка. Стах сышоў з выставы ціха, непрыкметна, нат не развітаўшыся са Скідзевічам. Суправаджаць яго ўзяўся даўні сябар, з якім, праўда, яны апошнім часам рэдка бачыліся, — выкладчык філасофіі адной з менскіх вну Сяржук Сырэц, знешне падобны да татарына, крыху вузкавокі і раскосы, скуласты, з драцянымі чорнымі валасамі. Сяржук сям'і не меў, жыў у інтэрнаце, і таму некалі ледзь не штовечар Стах заседжваўся з ім на варыўні ў размовах да паўночы, аж покуль не ўстылі гэтыя пасядзелкі жонцы... Ішлі яны паўз Свіслач, вочы іх блукалі па сонным Менску, які прыгожа глядзеўся з набярэжнай, і размаўлялі, нібы ў працяг Стахавых выкрыкаў пра тое, што народ і сапраўды быдла, якому трэба толькі добрая паша ды жорсткі пастух.

— Усіх людзей умоўна можна раздзяляць на дзве групы, — казаў Сяржук, — на людзей актыўных, якія вечна незадаволеныя сабою, сваім становішчам, жадаюць змяніць сваё жыццё, змяніць гэты свет, і тых, хто не задумваецца над жыццём, каго задавальняе тое, што ёсць, для каго страшная любая будучыня,

страшная найперш сваёй невядомасцю... Падзел гэты можна зрабіць і больш простым: свет дзеліцца на тых, хто лічыць, што ўсё лепшае наперадзе, і імкнецца ісці наперад, і тых, хто лічыць, што ўсё лепшае ўжо ў мінулым, і цягне назад...

— А-а, Гумілёў, пасіянарыі... — Стах патроху прыходзіў у сябе, і думкі сябравы падаліся яму знаёмымі з літаратуры.

— Так. Казаў пра гэта таксама Артэга-і-Гасэт ды і шмат хто яшчэ. Я не прэтэндую на нешта новае, на адкрыццё. Як і яны, мусіць, Маркс, а следам і Ленін, вунь падзялілі людзей на дзве катэгорыі, на два класы: прыгнятальнікаў і прыгнятаемых. І тут праўда ёсць. Але, калі без палітыкі, свет дзеліцца на тых, хто вядзе, і тых, хто паслухмяна альбо пад прымусам крочыць услед. Чаго не забываў Ленін. Аднак і ён не ўлічыў, што вынікам працы, высілкаў асобаў — пасіянарыяў — найчасцей карыстаецца быдла і асобаў, як лішніх, вынішчае. Дык вось, бяда нашая сёння ў тым, што, жадаючы волі для сябе, асобы (тыя, хто вядзе) яшчэ больш волі і правоў — дэмакратыя, пта маць, — далі быдлу (тым, каго вядуць), месца якога ў стойле. Быдла ж, адчуўшы волю, галаву падняло і само захацела за сабою весці — паляцела не разбіраючы дарогі. А куды быдла можа весці? Назад, толькі назад. Туды, дзе яно ўжо было, дзе, памятае яно добрую — добрую ў ягоным разуменні, бо іншае яно не бачыла — пашу, якую, дарэчы, само і вытаптала... Таму я і разумею, чаму ты крычаў там, у фае, пра быдла, пра абрыдла... Мне таксама карціць уцячы куды адсюль, з’ехаць, хай жывуць тут, як хочуць...

— Я проста моцна напіўся. І дзяўчына тая пахамску сябе паводзіла — адмаўляла. Ха! Бачыш: не я па-хамску лез да яе, а яна адмаўляла. Во табе і ча-

лавек. Адукаваны чалавек. Інтэлігент... А ты кажаш пра быдла. Можа, і крычаў я нешта, але без далёкіх думак. Ты вось кажаш пра быдла, а я думаю пра нашых бацькоў. Думаю, разумею, што нічым яны з народа для нас не вылучаюцца, акрамя таго, што нашыя бацькі, але ж — не быдла яны, не быдла...

— Быдла. Цяжка сабе ў гэтым прызнацца, аднак гэта так. І ў дадзеным выпадку я не лічу гэта абразай для іх. Я кажу свядома, са шкадаваннем. І па прынцыпе адмаўлення адмаўлення: любое шкадаванне — абраза, і чаплянне ярлыкоў — абраза, атрымліваецца простае спачуванне ўсім нам няшчасным, нягеглым: і асобам, і быдлу, і бацькам, і дзецям...

— Можа, і так. Мне цяжка цяпер з табою спрачацца.

— А ці заўважыў ты, што калі сярод быдла з'яўляецца лідар — плоць ад плоці яго, — дык розум яму найчасцей замяняе злосць, нахабства, напорыстасць, несумленнасць і гэтак далей? Злосць на ўсё і ўсіх. Спачатку на асобаў, як на разумнейшых, а потым і на сваіх, на быдла. Ты бачыў, якія ў яго становяцца вочы — нібы крывёю наліваюцца, — з якою злосцю невядома да каго, бо да ўсіх ён гаворыць?.. І ўсе, хто вакол яго — ворагі, ворагі. Страшна думаць пра будучыню, прыгадваючы падобных да яго папярэднікаў...

Стаху не трэба было тлумачыць, што за «яго» мае на ўвазе Сяржук. Так казалі цяпер: «ён», з націскам на гэтым слове, не называючы ні высокай пасады, ні імя ягонае, паказваючы тым самым сваё непрыманне гэтага чалавека і пагарду да таго, што ён робіць. І таму Стах адразу падхапіў новы паварот гаворкі.

— Якая там будучыня... Пра сёння думаць страшна. Наогул думаць страшна, бо, гледзячы на яго, пры-

ходзіць у галаву толькі адная пэўная думка: няўжо ў цэлым краі не знойдзецца чалавека, які ахвяруе сабою, дзеля іншых, дзеля таго, каб нешта змяніць...

— Не знойдзецца, не той край, прабач... Стагоддзямі выбівалася, вынішчалася тут усё, што асмельвалася супраціўляцца. Таму цяпер гэтак бесцырымонна, ваяўніча, бессаромна, упэўнена і карыстаецца ён уладай. І краінай. Як паслухмянай, бясслаўнай жанчынай. І быдла пляскае яму ў ладкі — ён цалкам адпавядае ягоным ідэалам. Але нельга быць такім жорсткім са сваёй роднай маці, нельга гэтак зневажаць свой родны край, яго гісторыю і мову. Па ўсіх чалавечых і хрысціянскіх законах нельга. Усё на гэтым свеце ўлічваецца, нішто не праходзіць без следу. І пакаранне будзе, калі не ад людзей, дык ад Бога. І будзе бязлітасным. Я спачуваю яму...

— Кінь ты... Паспачувай лепш народу.

— Каб ён гэтак паспачуваў мне хоць раз, як я яму спачуваю. Каб ён паспрабаваў зразумець мяне, як я яго разумею. Я спрабую гаварыць з ім, а мне ў адказ, пачуўшы сваю родную мову, — нацыяналіст, бээнэфавец, фашыст... Божа, якая цемра, якая безвыходнасць! Што і хто яшчэ трэба яму, каб зразумець, што так жыць нельга?

— Клін клінам выбіваюць — гэтак кажа мудрасць народа, альбо, калі верыць табе, быдла. І я ўпэўнены, што выратаваць нас у рэшце рэшт зможа толькі падобны да яго лідар — жорсткі, рашучы, напорысты, але — высокаадукаваны, высокакультурны, гэтакі «просвящённый монарх», а па-просту — інтэлігент-дыктатар, які свядома, а не інтуітыўна будзе казаць тое, што хоча чуць быдла, а рабіць, як і гэты, сваё, прычым не ўласцівымі яму самому сродкамі: сілай, прымусам. Толькі да такога прыслухаецца быдла,

такому «паверыць», і толькі ён зможа вывесці яго з гэтага замкнутага кола, з гэтага хворага балота на сенакосныя лугі. І тады, калі харчу будзе дастаткова, мажліва, і быдлу будзе час задумацца над сваім жыццём.

— Так то яно так... Вядома, не трэба недаацэньваць ролю асобы ў гісторыі. Аднак найчасцей асобы гэткія толькі руйнуюць і вельмі рэдка нешта ствараюць. Наламаць дроваў «асоба» можа столькі, што потым удзесяцёх не разбярэшся. Прыкладаў сотні, у тым ліку і наш, цяперашні... Але тым больш дарэмна ты ўскладаеш нейкія надзеі на быдла. Забудзь пра гэта. Па-першае, у быдла ніколі не будзе дастаткова харчу, па-другое, быдла ніколі не думала і думаць не будзе. Яно не дзеля таго створанае. Яно можа хіба адчуваць і аддавацца пачуццям, якія і замяняюць яму розум. Больш за тое, бойся быдла, якое лічыць, што яно думае... Нездарма ў іншых — дэмакратычных — краінах уведзены розныя цэнзы: узроставы, адукацыйны, маёмасны, каб выключыць адкіды грамадства з ліку выбаршчыкаў, каб не ўплывалі яны сваёй тупой масай на вынікі выбараў, у якіх самі не арыентуюцца і вераць толькі таму, хто больш наабяцае. У нас жа даюць стагадоваму дзеду Базылю з інтэрната састарэлых бюлетэнь — ідзі, галасуй за сваю блізкую будучыню. Вось і нагаласавалі, пта маць...

— Што ты ўз'еўся на народ, чым ён табе гэтак не дагадзіў?

— А то ты не ведаеш... Зрэшты, можа, я не на народ злуюся, а на самога сябе, на жыццё нашае, на тое, што вымушаны мы з табою займацца цяпер зусім не тым ці не толькі тым, дзеля чаго на свет гэты прыйшлі, не тым, да чаго душы нашыя цягнуцца. Вось ідзём мы прыгожым местам і замест таго, каб

абмяркоўваць высокія творчыя праблемы, у аблоках лятаць, гаворым пра бруд, пра які і гаварыць брыдка, агідна, — пра па-лі-ты-ку. Гаворым, бо душа баліць... Заўваж, душы нашыя засмечаныя сёння, экалагічна забруджаныя палітыкай. А душы не палітыка трэба. Ёй трэба паспяваць бачыць прыгажосць свету, каб дзяліцца радасцю гэтай пекнаты з іншымі душамі. А мы пра палітыку... Якая для нас, як, дарэчы, і для быдла, павінна заставацца па-за нашым жыццём, існаваць недзе паралельна. У яе свае куміры...

— Ніколі гэтага не было і не будзе. Нават у ідэале. Не мы дыктуем умовы грамадству, а яно нам. Адзінае, што мы, творцы, так бы мовіць, можам зрабіць, — гэта паўплываць на агульны культурны ўзровень грамадства. І тое не адразу, а, магчыма, толькі праз пакаленні.

— Праз пакаленні... А жывем мы сёння. Мы заўсёды жывем сёння. А не ўчора і не заўтра. Вось прывыклі думаць: філосаф — значыць, летуценнік, чалавек не з гэтага свету. Няпраўда, якраз мы і ведаем сапраўдны кошт жыцця і стараемся ўзяць ад яго напоўніцу і, адпаведна, аддаць яму ўсё, што маем, выпрацаваць свой патэнцыял максімальна. Бяда толькі ў тым — ды і не бяда нават, а выдаткі існавання, недарэчная недарэчнасць — што працуем мы, як, зрэшты, і вы, творцы, са словам, з фарбай, з гукам... Мы пераконваем, а не прымушаем, мы тлумачым, а не навязваем, як робяць гэта «ідэолагі». Тыя ж, хто супраць нас, з намі не цырымоняцца. Ледзь трохі не па-іхняму — турма, ГУЛАГ, расстрэл — фізічнае вынішчэнне.

— І плён карпатлівай працы доўгіх гадоў нейкі самадур можа выкарчаваць у адзін момант...

— Так, але іншага шляху ў нас няма. Супраць лома няма прыёмаў, акрамя слова, якое западзе ў

шчырую душу і прарасце. Прарасце! Я баюся толькі аднаго, што ў выніку ўсіх ягоных эксперыментаў у нашым краі можа праліцца кроў. Нявінная кроў, як плата за волю, што ў рэшце рэшт прыйдзе... Трэба быць гатовым да гэтага і зрабіць усё, каб на тваё месца прыйшло потым два, пяць, дзесяць такіх, як ты. І тады, рана ці позна, мы пераможам канчаткова. Герастраты ды падобныя яму — часовыя. І яны ведаюць пра сваю часовасць, таму і лютуюць гэтак. Але агонь разбуральны дагарыць і патухне і на месцы спаленага лесу вырасце новы.

— А на месцы спаленай хаты што вырасце?

— Ты не прыдзірайся. Мажліва, маё параўнанне і кульгавае. Але давай усё ж пакінем сабе надзею на лепшую будучыню...

Дома, у ложку, Стах прыгадаў гэтую размову з сябрам і падхапіўся, зачапіўшыся за адну думку: мне ўсё роўна паміраць, дык чаму б не загінуць, — падумаў ён, — загінуць прыгожа, у пакутах за родную зямлю, адысці, дык з «музыкай»... І не аднаму, а... з ім... разам... Аднак ён адразу адпрэчыў гэтую думку: для таго, каб паспрабаваць ажыццявіць яе, трэба час, а якраз часу ў яго і не было — засталося ўсяго шэсць дзён. Усяго шэсць дзён, якіх хопіць толькі на тое, каб дапісаць карціну. І ён усміхнуўся сабе скептычна: маўляў, апраўданняў заўсёды можна знайсці мільён, абы не зрабіць нешта. На тым, пэўна, і свет трымаецца. Калі не свет, дык улада пастуха над быдлам — дакладна.

* * *

Праца над карцінай, нягледзячы на сумлівы ды ваганні, пасоўвалася патроху наперад. Нават цяпер бачылася ўжо, што будзе гэта твор не зусім звычайны. Напачатку Стах думаў, што адбіваюцца ў ім толькі ягоныя задумкі, толькі стан ягонай душы, што бачыць ён у карціне тое, што сам хоча бачыць. Потым жа, калі і жонка, і сябар, «прачыталі» ў намаляваным тое ж самае, ён упэўніўся, што памыляецца, што гэтак ёсць насамсправе. Больш за тое, ён заўважыў, што атрымліваецца ў яго нібыта карціна-барометр, карціна-люстэрка, у якім нейкім чынам адбіваецца тое, што адбываецца цяпер у краіне. Мажліва, і не адбіваецца, але чалавек, які глядзіць на яе, знаходзіць у ёй фарбы, сугучныя сённяшняму дню, агульнаму настрою. Нават не знаходзіць, а карціна сама перадае, падказвае, дыктуе яму гэты настрой. Фарбы яе то цямнелі, то святлелі, нібы ў залежнасці ад таго, якое палітычнае ці сацыяльнае «надвор'е» было на вуліцы. Цяпер перамагала зло — набліжаўся вечар, надыходзіла восень — і карціна «цямнела», «чарнела», колькі б Стах ні высвятляў яе. Толькі праз паўгода працы ён зразумеў гэта і кінуў выцягваць пацямненні яркімі фарбамі, а ўсю ўвагу скіраваў на вымалёўку персанажаў, якімі карціна была густа населеная. Гэтак, як карціны Босха, альбо, яшчэ больш дакладна, Філонава. Ці не, цяпер, калі гушчыня, «чарната» фарбаў пераважала, была наймацнейшаю — хутчэй нагадвала яна некаторыя карціны Полака, на якіх фарбы проста разлітыя плямамі. Асабліва крыху здалёк, калі асобныя фігуркі, будынкі, дрэвы зліваліся, ядналіся між сабою, і часам нават уся карціна здавалася адною суцэльнаю цёмнаю плямай, і не

заўважаліся адразу ні сінія, ні чырвоныя, ні зялёныя, ні іншыя яркія колеры, з якіх яна складалася. Аднак варта было ўгледзецца ў карціну, як яна пачынала загарацца, высвятляцца, ажываць, аж да таго, што ярка-зялёныя, ярка-сінія, ярка-чырвоныя колеры пачыналі «сляпіць» вочы... Адсюль і словы тыя сябравы: «Паглядзі, як усход разгараецца...» Карціна давала гледачу надзею на лепшую будучыню, што спее ў змрочным сёння. І не проста надзею, а ўпэўненасць, што гэтак будзе, што інакш не бывае, што наогул будучыня — светлая...

Стаху, аднак, не падабалася такая «барометравасць» і «прарочасць» карціны. Напачатку лічыў ён гэта не дасягненнем сваім, а ледзь не асноўнымі хібамі «твора». Праўда, потым высвятляць карціну ён перастаў яшчэ і таму, што падумаў — любы творца можа памыляцца і, часам, разам з памыямі дзіцё выплюхнуць... Але чым менш заставалася да таго дня, тым большыя сумлівы ахоплівалі Стаха. І калі б ён не ведаў, што здарыцца з ім праз колькі дзён, ён альбо кінуў бы пісаць карціну, альбо знішчыў бы яе... Паколькі ж быў ён упэўнены, што гэта апошняя ягоная работа, то змяняць нічога не стаў. Перарабіць яе ён ужо не паспее. Можа толькі сцяўшы зубы дарабіць. Толькі дарабіць...

Так, змагаючыся найперш з самім сабою, і працаваў Стах. А вечарамі яны з Вітасем, не здраджваючы звычцы, прагульваліся па заціхлым горадзе. Праўда, пра тое, што хутка Стаха не стане, больш не гаварылі, наклалі на гэтую тэму табу: Стах ужо зміры́ўся з тым, а Вітась проста «забыў» да пары да часу. Таму гутаркі былі «звычайныя».

— Штодзень на працу я іду праз пляц Перамогі, — казаў Вітась, — і часта сустракаю там вядомых піс-

меннікаў, мастакоў, акцёраў. Дык вось што найперш кідаецца ў вочы: тыя, хто лічыцца элітай грамадства апрануты сёння горш за ўсіх. Не толькі старэйшыя, але і маладыя даношваюць даўно не модныя, абшарпаныя рэчы. Мала таго, што праца нашая творчая нікому не трэба, што ганарары мізэрныя, дык яшчэ і на «службе» плоцяць такія капейкі, якіх на элементарнае пракармленне не хапае.

— Гэта проста здзек з нас тых, хто пры ўладзе, — падтрымліваў размову Стах, — маўляў, вы хацелі волі, дэ-мак-ра-ты-і, вы больш за ўсіх крычалі пра сацыяльную несправядлівасць, пра рынак, дык наце вам рынак і справядлівасць... Кінулі, як сабачанятаў сляпых, — выплывайце самі. А калі гэта сфера культуры «выплывала сама»? Сапраўднаму мастаку не проста воля патрэбная. Яму патрэбная падтрымка, разуменне, патрэбны мецэнат, апякун. Высокаадукаваны, свядомы. Расейскі жывапіс усяго дзевятнаццатага стагоддзя таму доказ. Не было б Дзямідава — не было б Брулова. Не было б Траццякова ды іншых — не было б росквіту жывапісу напрыканцы дзевятнаццатага — напачатку дваццатага стагоддзя. І не толькі ў Расіі. Французскія імпрэсіяністы выжылі і працавалі толькі дзякуючы заказам расейскіх мецэнатаў. Любімы твой Мацiс, можна сказаць, і стаў Мацісам дзякуючы Шчукіну. Зрэшты, хто б цяпер прыгадваў Шчукіна ды Дзямідава, каб не Мацiс ды Брулоў?.. Але я не пра тое. Такая, як сёння, воля — сва-бо-да! — трэба толькі графаманам ды прахадзімцам. Паглядзі, чые кнігі выходзяць цяпер, хто за мяжу з выставамі ездзіць! Далёкія ад мастацтва людзі. Але прабіўныя, з сувязямі і без сумлення. Яны гатовыя перад спонсарамі на каленях поўзаць, абы свайго дабіцца.

— І поўзаюць. Але тым не сябе прыніжаюць — ім гэта да аднаго месца, — а нас. Бо па іх і нас мераюць, і нас за людзей не лічаць...

— Адно радуе: як гэта ні парадаксальна — беларускае мастацтва патроху — нарэшце! — становіцца элітарным у нашай дзяржаве. Гэта раней таго, хто размаўляў па-беларуску, адразу залічвалі ў «калхознікі», сёння «настаяшчыя калхознікі» першымі на «трасянку» пераходзяць. А па-беларуску размаўляе сапраўдная эліта нацыі. І вельмі добра, што ідзе да нас зараз шмат моладзі, выхаванай не на савецка-сацыялістычным рэалізме, а на лепшых еўрапейскіх узорах. І сама моладзь — беларускамоўная — імкнецца ствараць нешта новае, мадэрновае, тое, што ўліваецца цалкам у кантэкст еўрапейскай культуры. Праўда, пра гэта мала хто з людзей простых, паспалітых, ведае, бо прапаганды ніякай няма, і існуе рух гэты, нібы паралельны свет: з аднаго боку — расейская маскультура, якая на слыху, з другога — новая, нялапатная Беларусь, з якою не сорамна паказацца ў Еўропе. І мы — пакажамся.

— Яшчэ адзін штрышок, — падхоплівае Стахаву думку Вітась, — да беларускамоўнай элітарнай моладзі пачынае цягнуцца і тое лепшае, што ёсць сярод расейскамоўнага асяродка. Раней яны з’язджалі ў Маскву, у Піцер. Цяперака застаюцца тут. І альбо папаўняюць шэрыя шэрагі расейскіх шавіністаў ды сабораўцаў-папугаяў, альбо далучаюцца да нашае моладзі. Тое ж, што працаваць нам зараз даводзіцца ў сваім краі, на зямлі бацькоў, амаль у падполлі, — іх яшчэ больш прыцягвае, дадае шарму. Андэграўнд па-беларуску... Не ў сэнсе мовы, а ў сэнсе культуры, палітычнай сітуацыі ды адносінаў уладаў. У гэтым на сёння я бачу перадумовы, вытокі будучай перамогі беларушчыны на Беларусі. На гэты раз адраджэнне

Беларусі пачнецца не з вёскі, а з горада, бо вёска свой патэнцыял ужо вычарпала, а ў горада ён — невычэрпны. Нічога, вось прыйдзе новы а мудры лідар — і ўсё стане на свае месцы.

— Прыйдзе. Але ж прыйдзе заўтра альбо пасля-заўтра, а нам з табою сёння жыць і паміраць, — горка прамовіў Стах, прыгадаўшы размову з Сержуком і свае думкі наконт «адыходу, дык з музыкай».

— Ды што нам пра сябе думаць, — сказаў Вітась, нібы забыў, што Стаху праз дзень-другі паміраць, — змену трэба рыхтаваць, працаваць на будучыню і быць гатовымі ў пэўны момант не прахаўкаць шанец, як было гэта колькі гадоў таму...

— Нам з табою толькі крыху за трыццаць, а мы ўжо крылы апусцілі, а мы ўжо змірыліся з тым, што ёсць, а мы ўжо гатовы хоць сто гадоў чакаць, пакуль прыйдзе «новы а мудры» і выцягне нас з дрыгвы, чакаць «новага шанцу»... Не змагацца, не набліжаць яго, а, заўваж, чакаць. І што мы вычакаем? Я цяпер гатовы пагадзіцца з Сержуком Сырцом, які казаў, што за ўсё, у тым ліку за волю, а тым больш за мажлівасць будаваць сваё, незалежнае ад суседзяў, жыццё — трэба плаціць. І плаціць крывёю, бо іншай платы неба не прымае. Раней ці пазней, але кожны з двухсот народаў, што маюць сваю дзяржаўнасць, плату гэткую аддаў. Справа цяпер за намі. Гэта не абавязкова можа быць смерць тысячаў, мільёнаў людзей, гэта можа быць смерць толькі аднаго чалавека, але яна ўскалыхне мільёны, дзеля якіх ён загіне, і яны ўспрымуць яе, як сваю...

— Прыгожа, прыгожа ты малюеш, — не стрымаўся Вітась, — але гэта ў ідэале. А ў сённяшнім канкрэтным жыцці я іншага шляху, акрамя паступовай, крок за крокам, мэтанакіраванай выхаваўчай, прапаганды-

сцкай працы не бачу. Розныя часы былі ў гісторыі. На нашую долю выпаў змрок. Што ж, паспрабуем крыху асвятліць яго, але не паходняй са свайго цела, а паходняй сэрца і душы...

На Стаха зноў наплылі думкі пра тое, што яму давядзецца пакінуць гэты свет, гэтае жыццё, так нічога і не зрабіўшы. «Эх, каб быў час, каб быў час...» — падумаў ён. Каб быў час, ён бы больш не сядзеў склаўшы рукі. «Паходня з цела» — гучыць прыгожа, але гэта не той шлях, хоць і дапамагаў ён у крытычныя моманты некаторым народам. Тым жа чэхам... Стах ішоў і амаль не слухаў разважанні Вітася пра тое, што ва ўсе часы, пры любых уладах, сапраўдныя творцы былі ў апазіцыі да іх, і таму жылі ў галечы і голадзе калі не адносна іншых, дык адносна сваіх заслугаў перад грамадствам дакладна; пра тое, што пашанцавала ім са Стахам на жонак, якія разумеюць іх і не гоняць зарабляць на хлеб і адзежыну «камерцыяй», як іншыя, і церпяць іх «усяночныя», якія не даюць у сям'ю цяпер ні капейкі і наўрад ці дадуць нешта ў бліжэйшай будучыні...

* * *

Нядзеля, у якую ўвечары Стаху трэба будзе ісці на могілкі, набліжалася, здавалася, якраз так, як і неабходна было: ні хутка, ні марудна. Карціна была ўжо амаль скончанаю. Вось толькі могілкі чамусьці ў Стаха не выходзілі так, як хацелася. Асабліва той куточак, дзе была ягоная магіла. У пятніцу ўвечары Стах вырашыў пайсці ў скверык з надзеяй убачыць там яе зноў. Ці хоць бы знайсці тое месца, дзе «павінна» яна быць. Узяў з сабою насоўку з пяском, жменю

якога зачарпнуў тады са сваёй магілы, каб цяперака па ім зарыентавацца пры патрэбе.

На той самай лаўцы ён прасядзеў больш за гадзіну — пакуль не сцямнела. Аднак нічога ў скверыку не змянілася: тыя ж сабакаводы, тыя ж маладыя маці з дзецьмі ў вазках вакол. І ніякіх могілак — нават у мроіве, нават бакавым зрокам не відаць. Стах прыблізна ведаў, дзе «знаходзіцца» бачаная ім ягоная магіла, але там рос клён. Тоўсты і стары, як і ўсе дрэвы ў скверыку. Пад шапаткім, лёгкім лісцём каля яго чарнела звычайная зямля, а не жоўты пясочак, які быў у хусцінцы Стаха. Ён наогул не разумеў цяпер, дзе мог набраць гэтага пяску ў скверыку ў той вечар, бо свежых раскопаў паблізу нідзе не было відаць. І гэты пясок ніадкуль зноў і зноў пацвярджаў тое, што сустрэча з незнаёмцам была на яве, а не ў сне...

Стах сядзеў і думаў: а як бы ён жыў, калі б даўно ведаў дзень сваёй смерці? Што змяніў бы ў жыцці, што не? Прыгадаў маленства, гайдараўскую казку пра чароўны гарачы камень, якая яго ўразіла некалі. І сугучна ёй падумаў, што, пэўна, таксама нічога не змяніў бы ў сваім жыцці, калі б выдалася такая мажлівасць. Чаму? Ды таму, што не толькі ён, а і ўсе людзі ад пачатку ведаюць, што памруць. Рана ці позна. Заўтра ці праз сто гадоў... Дык чаму ж яны не жывуць так, каб не шкадаваць потым пра «без мэты пражытыя гады», пра няздзейсненыя мары і задумы, пра памылкі і грахі? Чаму рэлігія не акцэнтуе ўвагу на гэтым, а ўсё больш пра рай ды пекла? Выбар небагаты... «Паколькі нам не дадзена ведаць, калі прыйдзе наш апошні дзень на зямлі, але мы ведаем, што ён абавязкова прыйдзе, што ім можа стаць нават наш заўтрашні дзень, дык чаму ж мы не рыхтуемся да таго, чаму ж мы не жывем кожны новы дзень,

як апошні? — думаў Стах і сам сабе пярэчыў: — А можа, гэтае «няведанне», гэты самападман і ёсць найвышэйшая справядлівасць, найбольшае шчасце для людзей?..»

Час ішоў, скверык заставаўся скверыкам, не змяняўся. Стаху ён падабаўся якраз такім: ціхім, вечаровым. Ён здаваўся цяпер утульным, нейкім сваім — дамашнім. Менчукі, што жывуць паблізу яго, на былой Нямецкай слабодцы, дзе і цяпер вуліцы маюць, хай і падсучасненыя бальшавікамі, «рэвалюцыянізаваныя», але нямецкія назвы: Розы Люксембург, Карла Лібкнехта, Клары Цэткін ды іншых, любяць яго сціплую прыгажосць, а ён адказвае дабрынёю на дабрыню, дабрынёю на зло, і, пэўна, з-за гэтае светлае аўры яго ніхто і не падазрае, што некалі тут былі могілкі. Былі... Некалі... І Стах бачыў іх. Бачыў... Але сёння скверык так і застаўся скверыкам, стаіўшы сваю таямніцу ў сабе.

Урэшце Стах перапыніў травожныя думкі, вярнуўся ў жыццё і, высыпаўшы жоўты пясочак з хусцінкі пад лаўку, пайшоў са скверыка дамоў. Як і мінулы раз, горад яшчэ жыў — не драмаў нават. На прыпынку, паўз які Стаху трэба было ісці, гучна гаманілі трое мужчынаў. Не гаманілі, а зацята спрачаліся, зразумеў Стах, калі падыйшоў бліжэй. Ён толькі зараз заўважыў іншых чакальнікаў аўтобуса, што збіліся ў напружаны гурт на другім краі пляцоўкі, за невялікай паветкай. Вопытнаму воку адразу было відаць, што між трох мужчынаў наспявае бойка. Ужо можна было разабраць асобныя словы, і Стах прыслухаўся.

— Харэ, хлопцы, харэ, я ж нічога... — казаў высокі, хударлявы мужчына. «Беларус», — падумаў пра яго Стах, зірнуўшы на двух іншых невысокіх і чарнявых, па ўсім — азербайджанцаў.

— Харрэ... — перакрывіў адзін з іх беларуса, — Бей его, Али, бей... — і першым, каленам, ударыў беларуса ў пахвіну.

Мужчына застагнаў, сагнуўся напалам, схапіўся рукамі за балючае месца, «азербайджанцы» наляцелі на яго, павалілі і сталі біць нагамі, цаляючы ў твар. Заверашчалі жанчыны. «Азербайджанцы», нібы спалохаўшыся шуму, крыку, кінулі біць мужчыну і адышліся, нешта па-свойму гергечучы, крыху ўбок. Мужчына падняўся, выцер крысом кашулі кроў і бруд з твару, дастаў насоўку, прыклаў да разбітых, крывавячых вуснаў і сказаў, звяртаючыся да ўсіх:

— Што ж вы стаіце, беларусы! Двое чарнажопых б'юць мяне ні за што — і ніхто не заступіцца! Панаехалі, сукі, сюды і хочуць свае воўчыя законы ўстанавіць! Але не на таго нарваліся! Я пакажу вам, хто тут гаспадар! — і кінуўся да «азербайджанцаў». Тыя зноў павалілі яго на зямлю, аднак гэтым разам не так удала. Падаючы, ён учапіўся ў Алі і пацягнуў за сабою. Яны качаліся па зямлі, а другі «азербайджанец» бегаў вакол і, як толькі беларус аказваўся зверху, па-жаночы кідаўся на яго і біў, хапаўся за вушы, валасы, ірваў іх са злом, аж пена з рота ляцела...

Людзі на прыпынку з затоеным жахам назіралі за бойкай. Маўчалі жанчыны. Не было бачна і каб нехта з мужчынаў і хлопцаў, што стаялі тут, адгукнуўся на заклік і гатовы быў кінуцца на дапамогу свайму. І тады Стах не ўцерпеў. У любы іншы час ён, пэўна, моўчкі прайшоў бы міма (хай таўкуцца, п'яніцы, супакоіў бы сябе), бо куды яму, слабаку худому, лезці ў бойку... А тут, ці не таму, што развітаўся ўжо са сваім жыццём, што не баяўся за яго, не вытрываў, ірвануўся да «азербайджанца» з крыкам:

— Адыдзі, падла!

«Азербайджанец», які не чакаў такога павароту, пачаў адступаць назад маленькімі крокамі, гледзячы дзіка расплюшчанымі чорнымі гузікамі вачэй проста ў вочы Стаху. Стах убачыў, як шырока раскрываюцца ад частага і глыбокага дыхання яго ноздры, як сціскаюцца ў злосці тонкія вусны, як напялася тоўстая мускулістая шыя; убачыў няголеныя, нібы брудныя, пашчэнкі і брудны каўнер кашулі, — і стаў гэты чужы чалавек яму яшчэ больш агідным. Стах прыдушыў у сабе пачуццё шкадавання, што расло ў ім да гэтага чалавека, вымушанага ехаць за трыдзевяць земляў шукаць «шчасця», сцяў пальцы ў кулакі, і ў вісках затахкалі малаточкі сэрца — у ім прачнуўся даўно, з дзяцінства, не трывожаны інстынкт воя, абаронцы... Ён і не заўважыў, як Алі вызваліўся ад таго мужчыны і стаў падкрадацца ззаду. Стах ні разу не паспеў не тое, каб ударыць, а нават замахнуцца на чалавека, які стаў яму ворагам, як Алі схапіў яго з-за спіны за шыю і паваліў. Ачуўся Стах ужо на асфальце з прыстаўленым да горла лязом нажа. Халодным, калюча-вострым, страшным...

— Что, тоже захотел крови нашей? — запыхана прашаптаў блізка, на вуха, Алі. — Так мы твою посмотрим...

«Канец, — падумаў Стах, — вось як яно бывае. Так проста ўсё. Як і не жыў...» Але тут пачуліся кароткія, рэзкія свісткі і тупат ног. Нехта, мусіць, збегаў у недалёкую міліцэйскую школу і паклікаў дзяжурных.

— Живи, — хуценька прамовіў Алі, — но помни: мы пришли к вас надолго. Будем встретимся, — адпіхнуў, як нежывога, ад сябе Стаха і кінуўся наўцёкі.

Потым ужо Стах нават пашкадаваў, што з’явілася тая міліцыя. Бо складанне пратакола ў аддзяленні,

апытанне сведак, высвятленне асобаў пацярпелых (Стаха і мужчыны, які, на шчасце, быў цвярозым) — заняло амаль тры гадзіны. «Чорных» жа і след прастыў. І відаць было, што робяць усё міліцыянты дзеля прыкліку, бо шукаць «азербайджанцаў» ніхто не будзе, толькі на аддзеле павісне яшчэ адна нераскрытая справа. Таму, у рэшце рэшт, уся злосць дзяжурнага сяржанціка скіравалася на Стаха і збітага мужчыну, быццам яны ва ўсім былі вінаватыя: лезеце абы-куды, прыгод шукаеце на сваю... Словам, час, такі каштоўны цяпер для Стаха час, — некалькі гадзінаў — быў страчаны незваротна. Добра яшчэ, што ісці ад міліцэйскага пастарунка дадому было блізка, бо адпусцілі іх далёка за поўнач. Мужчына вінавата паціснуў Стаху руку, уздыхнуў цяжка і пайшоў. Калі б не «пратакол», Стах не ведаў бы нават, як яго завуць.

* * *

Усхваляваная жонка сустрэла Стаха на парозе:

— Дзе ты так доўга быў? Хоць бы патэлефанаваў. Я з Вітасем гаварыла. Ён дома. Таксама спалохаўся за цябе. Тэлефануй — чакае. А я на варыўню — падагрэю паесці і адтуль пачую, што было, дзе быў...

Стах набраў нумар Вітася.

— Жывы, курылка, — адгукнуўся той адразу, — а то напалохаў мяне сваёю магілаю, дык я не ведаў, што і думаць. Ледзь жонцы тваёй не набалбатаў абы-чаго з нецейкі. Ну, расказвай...

Стах коратка, урыўкамі, каб хутчэй ды каб не вярэдзіць душу, распавёў пра бойку на прыпынку, пра прыём у міліцыі.

— Ты заўсёды ўлезеш, куды не трэба, — крыкнула жонка з варыўні.

— Так ужо і лез я куды...

— Добра ўсё, што добра заканчваецца, — рэзюмаваў Вітась. — Ну, дык я думаю, сёння не гуляем?

— Не да гуляў, пасля такіх гуляў... Ды і праца стаіць. Але, прабач, не да жартаў мне цяпер, таму і не «ўрубіўся» адразу: якія гулі ў дзве гадзіны ночы...

— Тады да заўтра.

— Да заўтра... Да сёння...

* * *

Стах яшчэ працаваў, не клаўся спаць, хоць і развіднела даўно, калі пачуўся званок у дзверы. Прыехала сястра. Па дарозе з Ліды ў Жлобін абмінуць у сталіцы брата — грэх. Стах быў страшэнна рады гэтай сустрэчы. Усю раніцу яны прасядзелі на варыўні то за кубачкам кавы, то за шклянкаю гарбаты. Засмучаны Стах быў толькі адным: увесь тыдзень ён мітусіўся, нешта рабіў, збі-раў-ся паміраць, а пра маці і бацьку так ні разу і не прыгадаў. «Якія мы, людзі, усё ж эгаісты, — не пра ўсіх, а пра сябе падумаў Стах, — замыкаемся ў сваім цесненькім свеце і пра блізкіх прыгадваем толькі тады, калі яны самі нагадваюць пра сваё існаванне. Танненькае ж і дробязнае, але сваё засціла нам вочы, і мы не бачым за ім нічога, апроч саміх сябе...» Забыўся ён, зусім забыўся пра бацькоў, пра тую далёкую палескую вёсачку, дзе нарадзіўся і дзе цяпер жывуць бацькі. Хвараюць, кажа сястра. Вядома, гады лятуць. «Быў бы час, — падумаў Стах, — кінуў бы ўсё і сёння ж паляцеў да іх...» Быў бы час... Але... часу заставалася ўсё менш і менш...

Сястры таксама было не да гасцявання. Дома з малымі дзецьмі застаўся муж, і яна відочна хвалявалася, за ранак некалькі разоў у размове ўспомніла яго: «Як там мой Вася?..» А дванаццатай Стах павёз сястру на вакзал. Пасадзіў на цягнік, выйшаў з тунэля, і не паспеў нават агледзецца, як да яго падскочыла цыганка: «Дай, красавец, руку — пагадаю! Усю праўду скажу...» Стах механічна, абыякава, працягнуў ёй руку. Пасля нервовага вечара, бяссоннай ночы і турботнай раніцы быў ён нібы ў трансе, у нейкай прастрацыі. І таму, як сказаў бы Сырэц, перастаў адэкватна рэагаваць на навакольнае жыццё. Цыганка — шырокая ў клубах, тлустая, ажно бліскучая баба — схапіла руку, зірнула ў яе і адразу пачала гаварыць, што жыць будзе «маладой» доўга і шчасліва... Стах пачуў гэтыя словы і крыва ўсміхнуўся: адзін ён ведаў, што заўтра памрэ, — груба, рэзка вырваў руку ў цыганкі і, не слухаючы ейныя выкрыкі ды маты ўслед, пайшоў да прыпынка.

* * *

Да наступнай — апошняй — раніцы Стах праседзеў каля карціны. Нічога не маляваў, не дамалёўваў, не падмалёўваў. Застыў у думках. Вядома, калі б быў час, ён многае змяніў бы ў ёй. Нават не змяніў бы, а перапісаў нанова. Каб узмацніць, каб удакладніць. Ён цяпер яскрава бачыў хібы карціны. Ён бачыў толькі іх. І ён ведаў, як іх пазбавіцца. І чым больш ён узіраўся ў гэтыя постаці і твары, у гэтыя дамы і дрэвы, тым больш яму не падабалася тое, што ён зрабіў. Першапачатковая назва карціны была «Зыход», але цяпер ён лічыў, што атрымаўся ў яго не зыход, а нешта іншае. Бо зыход — гэта заўсёды боль,

гэта нервы, гэта разрыў па-жывому, гэта крык, гэта трывога, гэта немагчымасць штосьці змяніць, гэта безнадзейнасць... Зыход рэдка пакідае спадзеў, дае супакой. Больш дакладна, ніколі не пакідае і не дае. Карціна ж, пры ўсёй сваёй змрочнасці, дыхала такою надзеяй, выпраменьвала такую дабрыню і спакой, такую ўпэўненасць, што будучыня ў нас не проста ёсць — яна светлая і шчасная, што назваць карціну трэба было неяк інакш. Скажам, так — без прэтэнзіяў на арыгінальнасць: «Супакой», ці лепш — «Чаканне». У гэтым слове ёсць і трывога, і надзея, і прадчуванне... як і ў карціне. Ды, па-сутнасці, і сапраўды: усё нашае жыццё — чаканне. У кожнага сваё чаканне. Якое, падкажа карціна, скончыцца добра, слаўна... Ці не, можа, скарыстаць дзеля назвы нейкае моднае слоўка тыпу «Ілюзія» альбо «Настальгія», у якім так дарэчы пераклікаецца і мінулае, і сучаснасць, і будучыня. Ці шызануць нечым абстрактна-авангардна-адцягнута-незразумелым: «Жыць ведаючы», альбо «Шчасце быць...», ці лепш — «аКРАЙчык» і апошняе «к» перакрэсліць і паверх яго надпісаць «й»...

Урэшце Стах спыніўся на назве «Чаканне».

Пры дзённым асвятленні ён яшчэ раз агледзеў сваё «Чаканне», сёе-тое адным-двума ўзмахамі-мазкамі, лёгкімі і амаль непрыкметнымі, дадаў. Выправіў тое, што не падабалася, хірургічна дакладна, быццам ягонай рукою вадзіла Боская рука. Увечары пакрыў карціну лакам, падумаў, што файную раму ёй падбярэ і жонка. Склаў акуратна пэндзлі, фарбы, прыбраў у майстэрні. Не таму, што надта любіў парадак, а проста да сустрэчы яшчэ заставаўся час і сядзець склаўшы рукі было невыносна. Хацеў напісаць нейкую цыдулку жонцы, ды перадумаў. Што пісаць: развітвацца з жыццём, прасіць прабачэння, паказаць сваё «герой-

ства» — ведаў пра смерць і свядома ішоў на сустрэчу з ёю? Смешна, цынічна...

Вечарэла, сонца хавалася за дамамі і дрэвамі, калі Стах выйшаў з дому. Крочыў няспешна, павольна проста ў скверык і думаў: «Дзіўная рэч: вось іду я паміраць. Іду, як ні ў чым не бывала, як на звычайны шпацыр. Але ж — на смерць. Сам. Як на плаху, як да непазбежнага, як пад прымусам, бязвольна, нават не паспрабаваўшы нешта змяніць. Іду, нібы жывёліна бяздумная, неразумная. Як загіпнатызаваны, як запраграмаваны. Як зомбі...» — параўнанні накручваліся ў ягонай галаве, але яны не ўзрушвалі, не ўзбуджалі яго, не здымалі тло абыякавасці, што межавала з упэўненасцю: нічога не здарыцца, усё застанецца па-старому. Чалавек нават у самых безвыходных сітуацыях, бывае, чапляецца за саламіну надзеі і — выплывае... Стах не думаў пра гэта, ён раптам падумаў пра іншае: «Як гэта так: выпадкова сустрэў нейкага чалавека і адразу паверыў яму, паверыў нейкаму пяску ў кішэні, нейкім байкам пра аўтобус і ні разу — ні разу! — за ўвесь тыдзень усур'ёз не засумняваўся ў тым, што прадказанае незнаёмцам збудзецца. Збудзецца сёння, цяпер, праз колькі дзясяткаў хвілінаў. Паверыў і ўсё...»

Стах ішоў і разважаў — ішоў і разважаў спакойна. Не таму, што зміры́ўся і здаўся: няхай будзе, што будзе; і не таму, што быў моцна стомлены і нявыспаны; і не таму, што прадчуванне блізкасці смерці ў яго не было, не жыло ні ў душы, ні ў сэрцы. Спакойна яму было найперш ад таго, што скончыў ён нарэшце працу, якой аддаў паўгода жыцця. Дзіўна, але цяпер, здалёк, ён быў задаволены сабою, задаволены зробленым і ўпершыню, бадай, мог сказаць сабе: «Ай ды Стах,

ай ды малайчына!» Ён ведаў, ён бачыў, ён разумеў, што пры ўсіх сумлівах твор атрымаўся выключны, непадобны ні на адзін з тых, што захоўваюцца зараз у музеях ды прыватных зборах калі не свету, дык... Еўропы дакладна. Стома і разняволенасць шчасліва расплываліся па ягоным целе. Стома, разняволенасць, абыякавасць, супакой... і толькі там, недзе глыбока, пачынала ўжо нараджацца і мацнець думка: а колькі б мог ён зрабіць яшчэ ў гэтай, па-сутнасці, адкрытай ім манеры, у гэтым стылі, калі б быў у яго час, калі б было ў яго жыццё, якім бы даражыў ён цяпер зусім па-іншаму... Бо ішоў ён усё-ткі на смерць, дакладней — па смерць. Толькі думка тая зноў успыхнула без шкадавання, а так, як бы між іншым.

Стах прыйшоў у скверык, сеў на тую самую лаўку. Нічога вакол не змянілася: тыя ж сабакі з іх гаспадарамі, тыя ж сім-па-тыч-ныя маці з імпартнымі вазкамі. Хіба восень стала яшчэ бліжэй: дрэвы зусім аблыселі і пакрылі зямлю пад сабою тоўстаю, трапяткою яшчэ, коўдраю лісця. А ў астатнім — быццам і не было гэтага, такога доўгага і такога кароткага, тыдня, які ўспамінаўся тлумна, сцята, нібы адзін бясконцы дзень. Стах не памятаў нават, быў у гэтыя дні дождж ці ўвесь тыдзень свяціла сонца — сонца запозненага бабінага лета...

Цямнела хутка. Цені зліваліся ў шэра-бэзавы паўзмрок, які падсвечваўся знізу жаўцінёю лісця. Прыгожа...

Незнаёмец, той самы каржакаваты, моцны яшчэ мужчына, з'явіўся хвілінаў праз дзесяць з таго боку, з якога Стах яго не чакаў.

— Можна прысесці каля вас, малады чалавек? — спытаў ён і сеў побач. Лаўка скрыпнула пад ім, прымяты плашч зашамацеў, — што, не чакалі?

Стах падумаў, што і сапраўды ў іншага ад такога раптоўнага ўзнікнення мог бы і сардэчны прыступ здарыцца. Ён жа быў цяпер спакойны, суперспакойны і абыякавы да сваёй будучыні, таму нават не схамянуўся, не скалануўся.

— Чаму ж, чакаў, — адказаў Стах ціха, апатычна, але з гэтымі першымі словамі нібы жыццё да яго вярнулася, з'явіўся нейкі мандраж і вусны, здаецца, задрыжэлі ў хваляванні.

— Ну як праца? Бачыў, бачыў — дарабілі. Цудоўна. Цудоўна. Не думаў я, не спадзяваўся, шчыра прызнацца, што ўсё закончыцца гэтак добра, што ўсе нашыя ўмовы будуць выкананыя.

— Якія ўмовы? Мы ж, здаецца, ні пра што не дамаўляліся, апроч таго, што сёння я прыйду сюды. І то, гэта была не ўмова, а хутчэй просьба-загад.

— Гэта я так, пра сваё...

Стах чамусьці раззлаваўся на гэтага чалавека: прыйшоў, дык рабі сваю справу, а не лезь зноў з размовамі, роспытамі ды каментарамі. Карціну ён бачыў...

— Але я гляджу, вы незадаволены... Няўжо працай, няўжо карцінай? Ох ужо гэты вечны сумлеў мастака! Колькі творцаў з-за яго знішчыла свае лепшыя творы, колькі іх за тое патрапіла ў пекла...

— Мая незадаволенасць засталася там, а я ўжо тут...

— Я вось што папрашу, малады чалавек, калі ласка, нічога не змяняйце ў сваёй карціне. Абяцайце мне. Добра? (Стах маўчаў, не разумеючы, пра што ідзе размова.) Пакіньце такою, якая яна ёсць. Забудзьце пра яе, лічыце, што яе няма. Не перарабляйце, каб не сапсаваць. Памятаеце: не нашкодзь! «Чаканне» (І назву ведае, падумаў Стах) — ужо ёсць як факт, як

з'ява, існуе ў вечнасці, але хай бы засталася і людзям, і вам. Хай... У вас, я ведаю, шмат цікавых задумаў, шмат вабных ідэяў, дык працуйце над імі, развівайце свой стыль далей, а «Чаканне» — не чапайце, забудзьце. Абяцаеце?

— Я забыў пра ўсё ідучы сюды. Я так думаю — мяне ўжо няма. Няма там, я — тут. Дык пра якія змены, пра якую працу, пра якія новыя творы ды свой стыль вы гаворыце? Гэта ж немажліва...

— Э не, прабач, ты памыляешся, — зноў, як і ў мінулы раз, незнаёмец раптам рэзка перайшоў на «ты». Гэта было так нечакана, што Стах ажно страпянуўся, — даслухай спачатку. У мінулы раз я табе наўмысна не сказаў, што на слупку на тваёй магіле нейкі п'яны пісака не тую, не правільную дату смерці вывеў... Ты і сапраўды бачыў сваю магілу, але дата там, дакладней — год смерці, зусім не твой, а хутчэй за ўсё год нараджэння таго пісакі п'янага... Так што час у цябе ёсць. Будзе.

Стах маўчаў, не здзіўляўся і не пытаў нічога, а мужчына гаварыў далей:

— Я хацеў толькі аднога: каб дарабіў ты сваю карціну як мага хутчэй. Інакш праца магла б зацягнуцца надоўга, мажліва на гады, а мажліва, ты ніколі б не скончыў яе ці нават знішчыў... А гэта — цяпер ты сам разумееш — пераломны твой твор. Пасля яго ты моцна змяніўся. Ты вернешся цяпер дахаты зусім іншым чалавекам і мастаком. Мастаком!..

Стах сядзеў, «пераварваў» пачутае, і ў ім расло расчараванне, быццам яго моцна падманулі. Ён развітаўся з тым сваім жыццём і яно здавалася яму цяпер далёкім і чужым. Ён настолькі ўсур'ёз, аказваецца, успрыняў «канец» яго, што «працяг» быццам бы і не быў патрэбны. Бо тое, што было да сёння, — ужо

не ягонае, а тое, што будзе далей, — яшчэ не ягонае. І вяртацца яму давядзецца туды, куды, па-шчырасці, чамусьці вяртацца не хочацца... Чаму? Што было ў ягоным жыцці дагэтуль? Праца, сям'я, беднасць... Што будзе цяпер? Беднасць, сям'я, праца... І, па вялікім рахунку, усё роўна, калі перапыняць, перарываць гэты ланцужок: у трыццаць гадоў, у шэсцьдзясят альбо ў сто... Дык, можа, чым раней, тым лепш? Толькі людзі, якія не задумваюцца над сваім жыццём, чапляюцца за яго...

Незнаёмец між тым падняўся, расправіў крысо свайго доўгага дажджавіка, зірнуў яшчэ раз на Стаха і прамовіў:

— Будзем развітвацца. Бывай, хлопец. Не забывай нашую размову. Бывай...

— Пачакайце! Хто вы? — спытаў Стах, потым крыкнуў: — Хто вы? — але голас ягоны патануў у вечаровай цішы скверыка, як у ваце, не адгукнуўся нават рэхам. І толькі нейкі запознены сабакавод спыніў свой спалоханы позірк на ім, а потым прыспешыў крок — пацягнуў за сабою сабаку, які азірнуўся на Стаха не менш здзіўлена, чым гаспадар...

*2002–1995*

## ПУЦІНА

Матыльком ніколі
Яму ўжо не стаць.
Дарэмна дрыжыць
Вусень на восеньскім ветры.
*Басё*

на Шыкатане, на беразе Ціхага акіяна, на краі свету, не думаецца пра прыгажосць і бясконцасць прасторы, якая называецца планетаю Зямля, не робіцца зразумелай твая нікчэмнасць (быў такі сахалінскі кампазітар з беларускім прозвішчам Нікчэмны, які, кажуць, напісаў знакамітую некалі песню са словамі «На востраве нармальнае надвор'е...») ды дробнасць перад магутнымі сіламі прыроды і самою прыродаю ўвогуле, а прыходзіць момант, калі пачынае здавацца, што перад табою проста дэкарацыя

акіяна ці шырокі экран кінатэатра і, калі пратканіненую паперу прабіць — за ёю будзе проста цемра, якая ёсць нішто, пачатак пачаткаў ці канец канцоў, альбо пачатак канца ці канец пачатку; якая знішчае ўвогуле ўяўленне пра час і прастору і ўсялякі пачатак адначасова робіцца канцом, а канец — пачаткам, і ўсё сціскаецца ў кропку, і гэтая кропка — ты, адзінокі, за-

быты ўсімі, пакінуты настолькі, што, здаецца, узмахнуў бы ў роспачы крыллем і ўзняўся ў неба, узляцеў бы так высока, што востраў увачавідкі

ператворыцца ў зярнятка, якое зусім лёгка падхапіць двума пальцамі, кінуць у рот, пажаваць і выплюнуць куды-небудзь далёка за Японскія астравы, дзе цяплей і скура цямнее, дзе славяне з беларусаў робяцца чорнымі, бы мурыны, і толькі непляскатыя насы і некучаравыя галовы выдаюць іх за нетамтэйшых: за Міклуха-Маклаяў, а не Пятніцаў, але лёгкасць праходзіць, вецер думак супакойваецца і шум мора, які натуральны працей пачуць з ракавінкі, чымсьці на беразе акіяна, кожным сваім

працяжна-напружаным «ш-ш-ша-а-а...» вяртае цябе ў абалонку твайго цела, і страх, які быў пасяліўся ў табе, выпетрываецца, і ўжо не здаецца, што за той вунь сопкаю сядзіць і цікуе за табою мядзведзь, для якога ты толькі здабыча, што сама прыйшла, і найгалоўны страх — адступае: нічога не страшна, нішто не страшна, нават тое, што было страшна ў дзіцячых снах, і самая смерць падаецца адно пераходам у іншую якасць — больш высокую, звышкультурную ступень развіцця: быў вусенем — стаў матыльком;

і не цікава нават: ці бачыць вусень матылька, не цікава, ці разумее вусень, што матылёк — гэта ягоная крылатая будучыня, што *ён* народжаны поўзаць, каб потым лётаць, цікава толькі: ці хоць бачыць увогуле; бо тут, на беразе Ціхага акіяна, далёка ад дома, ад родных магілаў, *ён* пачынае ўзірацца ў неба і шукаць вакол сябе сваіх дзядоў, прадзедаў, бабуляў і прабабуляў, якіх даўно няма сярод жывых, і *ён* не ведае — дзе яны сёння, хто яны цяпер, але *яму* думаецца, што яны прыляцелі б, каб пабачыць *яго*,

і ў цяжкую хвіліну одуму быць побач; *ён* узіраецца ў неба, аднак не бачыць іх: *ён* яшчэ вусень, *яму* не дадзена, але ці бачаць яны *яго*? ці існуюць увогуле яны? яны, як і *ён* — былі нечыімі ўнукамі, яны сталі потым — чыімісьці бацькамі, а ці дадзена *яму* быць камусьці бацькам? ці не перарвецца распачаты і працягнуты імі ланцужок на *ім*, бо *ён* адзіны сын у сваіх бацькоў (дочкі — *ягоныя* сёстры — не ў лік: яны не захоўваюць і не перадаюць прозвішча), і ці мае *ён* права на смерць... нават у адчаі, нават на краі

свету, як бы прыгожа гэта ні выглядала: менавіта на краі свету стаць з вусеня матыльком... ці мае? не, нават у роспачы... не мае... і прыклад з матылькамі зусім няўдалы, бо вусені не памнажаюцца, а памнажаюць вусеняў матылькі, якія не адразу становяцца матылькамі, а праходзяць праз стадыю вусеняў (ага, значыць, кокан — труна, ці труна = кокан...), а мы закончаныя — дастворацыя Богам — да канца, нам няма на што спадзявацца, апроч надзеі на тое, што не можа тут, на Зямлі, корань наш заканчвацца,

што для кагосьці ёсць недзе матыльковы рай, а для кагосьці — вусеневае пекла... ну, вось, *ён* вярнуўся да таго, з чаго пачаў, а значыць, і зямля перад *ім* не заканчваецца, а пачынаецца, і так у любой кропцы, дзе б *ён* ні стаяў, і зад-перад (пачатак-канец) мяняюцца ў залежнасці ад таго, куды *ён* павернецца: Амерыка цяпер недзе наперадзе, а Расія, і далей — Беларусь, недзе ззаду, аднак вось *ён* зараз азірнецца — і ўсё зменіцца, пойдзе да паселішча, што стаіць у сотні метраў ад акіяна, і Амерыка будзе ззаду,

а Расія з Беларуссю перад *ім*... гэта ніякім чынам не пацвярджае ісціну, што ўсё адносна, гэта канстатуе факт, што ўсё адносна: нашае жыццё (па сутнасці, уся-

го толькі *водбліск маланкі*!) адносна матылькoвага — бясконца доўгае ды імгненна кароткае адносна часу палёту святла ад любое зоркі (толькі не ад Сонца) да Зямлі: зоркі тае ўвогуле можа ўжо не быць там, адкуль ідзе ейнае святло, а мы яе яшчэ бачым, яна памерла там, дзе жыла, але яшчэ свеціць нам тут, аднак і гэтае святло не вечнае, бо ўсё, што мае пачатак

(а пачатак мае усё), не вечнае, бо калі ёсць у чагосьці пачатак, значыць, ёсць і канец: нават у кола, нават у круга; так, канец і пачатак часам сустракаюцца і ўтвараюць кола (будыйскае *Кола Жыцця*?), якое нехта хацеў бы бачыць спіраллю, аднак усялякая спіраль імкнецца ў свой пачатак, каб замкнуць кола, і тады пачатак робіцца пачаткам у кожнай кропцы паверхні кола, спіралі, шара — Зямнога шара; у любой кропцы, але тут, на краі зямлі, гэты пачатак-канец больш наглядны, чым у палескім лесе, балоце, альбо нават

на беразе рачулкі з інтымнай назвай Піна, Лань, Пціч, Ліпа ці іншай камбінацыі з чатырох літараў, бо там прастора замыкаецца, хай сабе і на даляглядзе, а тут — адкрытая наскрозь, навылёт, ажно да Амерыкі, дзе *ён* ні разу не быў і наўрад ці пабудзе, бо са сваёй палескай вёскі *ён* пайшоў не ў той бок (хоць зямля і круглая) і дабраўся толькі да Сахаліна, да Курылаў, да Шыкатана, што само па сабе дасягненне не меншае, чым падарожжа ў другі бок пачатку-канца, аднак ганарыцца няма чым, бо і тут *ён* чужы,

і там будзе чужым і непатрэбным нікому, апроч жменькі людзей, якім зададзена апекаваць *яго:* тут — каб не ўбачыў чаго лішняга, там — каб не расказаў чаго лішняга, каб не паведаміў буржуінам вялікі сакрэт — ваенную таямніцу (на Сахаліне яе ніхто і не хавае, нават ракеты, скіраваныя на Японскія

астравы, стаяць адкрыта, і са спадарожнікаў, ды што там — з пралятаючых самалётаў, пэўна, бачна іх, як раскладзеныя на стале відэльцы; а на Кунашыры замест ракетаў стаяць знятыя з караблёў

вялізныя гарматы, і рулі іх нацэленыя на Хакайда — смешна гэта ў атамны век, што пачаўся якраз з Японіі...), якая там нікому не патрэбная, а патрэбны ім толькі *ён*, бо калі *ён* недзе нешта ўбачыць, а потым недзе нешта скажа, адныя *яго* «завярбуюць» і атрымаюць званні ды ўзнагароды, а другія «разаблачаць» і атрымаюць тое самае, а *ён* нічога не атрымае, бо не любіць, калі *яго* скарыстоўваюць, і таму: *ён* нічога не бачыць, таварыш падпалкоўнік, нічога не чуе і нічога нікому не скажа (а здымаў гарматы,

скіраваныя на Хакайда, выключна як экзотыку, як турыст, а не як разведчык, не як заходні шпіён, хоць Беларусь і далёка на Захадзе, і не трэба палохаць ні кар'ераю, ні нават смерцю, бо *ён* нічога не баіцца і да ўсяго гатовы) — *ён* бачыць цяпер толькі акіян, які на даляглядзе не зліваецца з небам, а ўтварае роўную лінію падзелу між цёмна-сінім і светла-блакітным, і гэтая лінія і ёсць для *яго* сёння мяжа між небам і зямлёю (акіянам), між гэтым светам і тым, між Расіяй і Амерыкай, між пеклам і пеклам,

бо раю на гэтай планеце для чалавека няма ўвогуле, аднак трэба жыць — не зважаючы на падпалкоўнікаў ці каланэляў — і вымятаць, выганяць з сябе думкі пра канец... пра смерць... не думаць: пайду ў акіян і не вярнуся, знікну ў хвалях без следу, расстану (і што каму тым дакажу?)... а жыць, не зважаючы на служакаў-служкаў (*ён* ім трэба, а не яны *яму*), і шукаць у гэтым жыцці добрае, лепшае, яшчэ лепшае — рай...

зрэшты, што яго шукаць, вунь ён — рай: у даліне, дзе стаіць дзясятак доўгіх, як сцірты,

казармаў — баракаў-інтэрнатаў (на адным з іх нейкі жартаўнік так і напісаў: «paradis»), у якія звезлі з усяго СССР прастытутак (ці проста жанчынаў лёгкіх паводзінаў, ці проста няшчасных жанчынаў, якія не тым давалі альбо не змаглі тым даць...), каб не лезлі ў Маскву ды Ленінград да замежнікаў; упершыню паспрабавалі тое зрабіць падчас маскоўскай Алімпіяды-80, спадабалася — бясплатная працоўная сіла! — і зноў, потым зноў і зноў прывезлі жанчынаў падчас пуціны на Сахалін, на Курылы,

каб не прастойвалі кансервавыя заводы, што даюць краіне дзве трэці бляшанак усяго СССР: гарбушу ды сайру ў алеі — у спецбуфеты, а івасі ды мойву ва ўласным соку — у звычайныя крамы, хоць і там, і там яны — дэфіцыт, а тут — еш не хачу, ды няма апетыту, няма жадання, верне ад іх, мо ад таго, што бачыш, у якіх умовах яны робяцца, а мо таму, што ёсць сум і няма мужчынаў, а ў большасці тых, што жывуць на востраве ад рыбнага харчу гаспадарка толькі свеціцца, ды не грэе... шчасце *ягонае*,

што *ён* ведаў, куды едзе, а сябар — Уладзя — патрапіў перад *ім* сюды ў камандзіроўку з Паўднёва-Сахалінска непадрыхтаваны, і ў першую ж раніцу прачнуўся ў бараку голы, побач з высокім, як вулкан Цяця, жаночым задам, і здзівіўся: жывы... дапамагло, што напіўся і адключыўся: пашкадавалі «сердабольныя»: «маладой ісчо»... пашкадавалі... гэтае «ісчо», якое з часоў землячкі-Кацярыны ратавала расейскіх мужчынаў, спатрэбілася і беларусу; *ён* жа ведаў, куды едзе, і таму ўзяў з сабою не толькі веды

пра жанчынаў з баракаў, але і дзесяць (для поўнага ліку, ды і болей у саквояж не лезла) пляшак «Жыгулёўскага» і два кіло чырвоных памідораў — сябар сказаў, што гэта самыя вялікія далікатэсы на сахалінскіх Курылах (астравы маюць яшчэ і мясцовую назву: «краіна вечназялёных памідораў»), хоць на самай справе яны, Курылы — японскія, бо, было, стаяў *ён* увечары на краі Кунашыра, глядзеў на Хакайда (восем *км* па вадзе — усяго *два ры* — хіба то адлегласць для вока і для душы?), бачыў,

як павольна паўзе па скарынцы вострава ланцужок-вужака асветленых вокнаў электрычкі, і думаў, што японцу не трэба было выпраўляцца за трыдзевяць мораў і тры акіяны, каб адкрыць «исконно руские земли», выйшаў ён у двор па малой патрэбе, агледзеўся ў прыемную хвіліну волі, калі няма чаго больш рабіць, апроч як любавацца наваколлем, і — о, нечаканасць! — адкрыў Курылы яшчэ за тысячу гадоў да існавання Кутузава-Галянішчава, Рымскага-Корсакава, братоў Карскіх, а тым болей Галаўніна

з Карсакавым ды Невяльскім, якія шукалі не экзотыкі, не краю свету і не новых земляў імперыі, а простага чалавечага шчасця... і не думалі, што «адкрылі» гора — турму, катаргу для кагосьці, для братоў-славянаў; не, гэтыя астравы сталі не проста турмою, бо з турмы можна ўцячы ў звычайнае жыццё, адсюль — не ўцячэш, не ўцёкшы з жыцця... як у царскія часы, так і сёння... і «начныя матылькі» з усяго СССР ад безвыходнасці ўсё часцей і часцей пачыналі абіраць такое выйсце: апранаць на сябе кукалку-труну,

каб хоць матыльком выпырхнуць на волю, асабліва «падсаджаныя» на кайф ад мілавання з любым мужчынам, абы мужчынам, і нават не з мужчынам, а з

тым, што робіць мужчыну мужчынам, бо нават самага плюгавага і непатрэбнага там, на «вялікай зямлі», тут самай найпрыгожай прыгажуні не купіць сабе ні за якія грошы... востраў «начных матылькоў», а паіншаму — Шыкатан, мае мыс з назовам Край свету, і на той Край свету *ён* і пайшоў у першы свой дзень «на экскурсію» — сустрэць заход (узыход) сонца,

які тут найпрыгажэйшы на Зямлі — з адзінаю японкаю, што была цяпер на ўсіх Курыльскіх астравах, японкаю паходжаннем з Масквы, куды яе продкі прыехалі гадоў сто таму з Кіота, каб навучыць рускіх выразаць з дрэва «исконно русские» нацыянальныя сувеніры — «матрёшки», прыжыліся, пабылі «японскімі шпіёнамі» ў 30-х, а потым і ў 40-х, але пакінулі ўсё ж семя, якое ў 80-я, па прычыне, пэўна, гейшавага мінулага прабабуляў, стала самай высокааплатнай прастытуткай сталіцы СССР, але і гэта

не ўратавала яе ад высылкі ледзь не да каранёў свайго роду, да амаль Радзімы: на самую блізкую ад Японіі савецкую, «исконно русскую» глебу (тут гэтая «исконность» падкрэслівалася настойліва і нахабна на кожным кроку шыльдамі і шыльдачкамі); *ён* мог толькі здагадвацца: хто яна і чым займаецца на «вялікай зямлі», дакладней, чым зарабляла раней на жыццё, аднак на той момант *яго* гэта цікавіла менш за ўсё, *ён* бачыў перад сабою амаль дасканалае жаночае стварэнне, найпрыгажэйшую жанчыну (дзяўчыну яшчэ,

можна сказаць, бо японскія жанчыны хай і хутка старэюць, але да таго доўга трымаюць сваё дзіцячае аблічча), у іншых варунках недаступную *яму*, нават за вялікія грошы, а тут адданую служку са страхам у вачах, што *ён* можа знікнуць за любою скалою, за

кожнай сопкай гэтаксама нечакана, як з'явіўся ў ейным жыцці... цікава: а каго яна бачыла ў *ім*? думаецца, у апошнюю чаргу «заходняга» ці «сталічнага» журналіста, якім быў насамсправе, але і не кліента, і тым больш не патэнцыйнага каханага (мужа — ха-ха!),

проста ёй трэба быў нехта, і гэтым «нехта» ў гэты час і ў гэтым месцы якраз і апынуўся *ён* — у яе не было выбару, а *ён* мог выбіраць з тысячаў, мог, але толькі да таго моманту, як убачыў яе — пасля і ў *яго* ўжо выбару не было; *ён* згадвае яе зноў і зноў, хацеў бы апісаць, ды не можа: найпрасцей было б працытаваць каго з японцаў, што пісалі ў хоку ды танка пра сваіх жанчынаў нешта кшталту — стройная, як *сакура*(?), свежая, як *лілея*(!), пяшчотная, як *персік*(...), і ўсё гэта было б праўдай (зрэшты, не — японскія паэты

ніколі так не пісалі, яны ў сваіх параўнаннях былі больш канкрэтнымі і карэктнымі; каб падрэсліць прыгажосць, казалі: «у яе воблік *бадысатвы*», альбо: «яна мела ўсе т*рыццаць дзве адрозныя прыкметы Буды*», альбо параўноўвалі з эталонам прыгажосці паэткай *Камаці*, а не нейкімі там сакурамі ды персікамі — і чытачы іх разумелі...), бо побач з *ім* быў цуд — уважлівы, удзячны, клапатлівы, адданы, мілы, ласкавы, пяшчотны, спакуслівы, умела-сарамлівы... словаў ні адной мовы не хопіць: ап'яняльны, трапяткі,

гарэзны, нястрымны, свавольны, шалёны, адчайны, дагаджальны, шчыры... няма словаў... ёсць толькі глыбокае неба над імі, вялікае, як Акіян, ёсць толькі акіян перад імі, вялізны, як Неба, як Каханне, што засцілае вочы, засціць думкі, сціскае зямную прастору нат не да маленькага вострава, не да аднаго чалавека, што цяпер побач, а да ягоных вачэй, у якіх зліваюцца

блакіт неба з сінечай акіяна, да вуснаў, то гаваркіх, бы акіян, то адчайна маўклівых, бы неба, і ўжо забытыя клопаты, што прыехалі з *ім*

на гэты гожы востраў і якія паспеў набыць *ён* тут (ох, падпалкоўнік-падпалкоўнік у цывільным... зрэшты, досыць пра падпалкоўніка, для якога *ён* проста свежы чалавек і прычына вылучыцца, выслужыцца — на гэтым варта забыцца пра яго і пра тыя страхі, што засталіся пасля размовы з ім, і на тое жаданне, што прывяло *яго* да акіяна: пайсці і не вярнуцца... бо *ён* потым з'ехаў, і падпалкоўніка больш не было ў *ягоным* жыцці, як і *яго* — нават у падпалкоўнікавай справаздачы...), забытыя планы і намеры,

забытае тое — ранейшае — жыццё, ёсць толькі неба, толькі акіян, толькі аддана-замілаваны позірк, гнутка-паслухмяны стан... крык кырляў, стогн бакланаў... ёсць вецер — настырны, халодны — тут, на краі свету, разагнаны да касмічнай хуткасці, марскі вецер заўсёды такі — няўрымслівы, напорыста-нахабны, мускуліста-дужы, а *ён* заўважыў яго толькі цяпер, калі сонца ўжо нізка сцелецца над вадою, і ў апошнім святле ягоным жоўта-чырвоным нявінная ўсмешка часовае сяброўкі-японкі падалася *яму* не такой

і нявіннай, а гуллівая адданасць не такой і адданай, а мілы тварык — хітрым, і *ён* ужо не гаспадар, а раб... але падалося тое толькі на адную хвілю, на адное імгненне — адзін погляд, адзін рух не цела — вачэй, і ўсё знікла, усе гукі, апроч «мілій... мірій... далягой... («л» і «р» блыталіся) і — працяжна-хуценька — моі-моімой... (адкуль у яе ўзяўся акцэнт?) — і ў вачах толькі вочы — шырока расплюшчаныя, а таму вялізна-круг-

лыя, яшчэ нядаўна вузкія, бы шчыліны, вочы: прагныя, мяккія, бліскучыя, неспатольныя, скнарныя...

(*«ойран»*, — міжволі прашаптаў ён, начытаны Акутагавы, яна не зразумела), і ў зрэнках ейных — толькі *ён*, *ён*, *ён*, *ён*... зноў вяртанне ў холад ветру і крыкі чаек... потым назад у цяпло туману... вецер... туман... вецер... на ўсім белым свеце... і ў пасёлку вакол казармаў-баракаў-«абшчагаў» — да іх яны вярнуліся спатоленыя познім вечарам (забыўшы і пра заход, і пра ўзыход сонца) незаўважна хутка, быццам перанесліся сюды з Краю свету ад Стоўбчатага мысу (Аргану) на кіліме-самалёце, раскінутым пад нагамі,

кароткае расстанне, што пакідала надзею: «да заўтра — да заўтра...», — і *ён* зноў адзін, ідзе да свайго прыстанку, трымае ў руках букецік-*ікебана*, з сабраных па дарозе суровых кветачак, і адчувае плячыма дзясяткі хранічна-галодных лісіных, ваўчыных, тыгрыных позіркаў, уладальніцы якіх гатовыя накінуцца на *яго*, разарваць на часткі: такога ў *яго* ніколі не было: ні да, ні пасля (а вы можаце ўявіць сабе гэта?), раптам знаходзіць забыты ў сваёй далоні Танін (так-так, маскоўскую японку звалі банальна — Таня, і добра,

што не *Эма*...) кулончык, што адшпіліўся там, на Краі свету, і ў апошнюю хвілю ўпаў на траву ля *ягонае* рукі: *ён* заціснуў кулончык на час і забыўся, вярнуўся да дзвярэй барака, каб аддаць, і пачуў: «ну як карэспандэнцік?», а ў адказ салодка-рускае: «ох и нае... я, девки, ох и нае...», пацягванне ў густой цішы да хрусту ў касцях і зайздрослівыя ўздыхі... усё, «заўтра» ў іх не было... больш яны не бачыліся з гейшаю: *ён* не любіць, калі *яго* скарыстоўваюць... і «кветка кахання» для *яго* завяла, і «рай» для *яго* паблякнуў,

бо і сапраўды — паводле ўсіх традыцыяў, і ўсходніх, і заходніх, рай — месца для абраных, для чыстых душою ды целам, а гэтыя баракі былі не першаю прыступкаю да раю *Буды Аміда*, а, хутчэй, першаю прыступкаю да пекла, мяркуючы па тым, што там адбывалася... кулончык жа той быў утоплены *ім* з адплываючага цеплахода «Марыя Ульянава» на мяжы шыкатанскай бухты і Ціхага акіяна... больш яны не бачыліся яшчэ і таму, што пра гэты вяж на Край свету даведаліся *ягоныя* новыя сябры-армяне

і настойліва параілі нават не падыходзіць да тых баракаў, а не тое што з некім «сябраваць»... ага, стоп, далей нельга ісці, пакуль не распавядзецца тут, як пазнаёміўся *ён* з гэтымі гарачымі хлопцамі, і не прагучыць прызнанне ў любові да горнае краіны Арменіі, дзе *ён* не быў ні разу, але палюбіў і любіць яе пасля кароткай дружбы з трыма братамі, што жылі ў той час і працавалі ўрачамі на краі свету, на востраве Шыкатан; з першым з іх, малодшым Вартанам, *ён* пазнаёміўся на цеплаходзе «Надзежда Крупская»,

на якім плыў (ішоў!) з Карсакава на Кунашыр, але штарміла і Кунашыр не прымаў, бо не меў бухты, і іх высадзілі на Шыкатане (так, на Шыкатан *яго* закінула воляю *аднога з сямі няшчасцяў* — шторму), такім чынам, яны плылі на цеплаходзе, і іхнія каюты былі побач, пасажыраў няшмат — можна палічыць па пальцах — і *ён* адразу вылучыў сярод іх для сябе аднога, такога ж, як і *ён*, маладога, але чарнявага хлопца, з якім яны пад вечар і пазнаёміліся; цеплаход быў стары, трафейны, і пасля вячэры, калі пасажыры

і вольныя ад вахтаў з каманды сабраліся на «культурную» праграму ў паўкруглай, пэўна — кают-

кампаніі, адзін з афіцэраў, што спяваў пад гітару меладычныя — турысцкія — песні пра мора, Сахалін ды Курылы (запомніўся прыгожы радок, хоць і дужа прасавецкі: Ітуруп стаіць у будзёнаўцы вулкана...), між іншым расказаў, амаль па сакрэце, шчыра, як ля вогнішча, пра тое, што раней гэты цеплаход называўся «Адольф Гітлер» (і ёсць яшчэ месцейкі, дзе можна знайсці надпісы па-нямецку, асабліва

ў машыннай зале), належаў Германіі, аднак пасля вайны, па Перамозе, яго з Балтыкі адагналі падалей, на Далёкі Усход, і ён (як яшчэ два такія ж караблі з жаночымі імёнамі) вось ужо трыццаць гадоў з гакам прасуе Ціхі акіян ад Уладзівастока да Камчаткі і назад з заходам на населеныя Курыльскія астравы ды Сахалін; цеплаход і цяпер уражвае сваёй велічнасцю, асабліва на рэйдзе, побач з рыбацкімі эмэрэскамі, ды і ўнутры таксама, а даць бы яму рамонт, знішчыць абшарпанасць савецка-адвечную, надраіць медзь

ды нікель, кілімаў накласці, якія некалі, пэўна ж, ляжалі паўсюль, — і ўявіць цяжка тую прыгажосць... дарэчы, пра прыгажосць: дзіўна, але тут, на караблі, працавалі вельмі прыгожыя людзі: і маракі (той вусаценькі спевачок у каютэ-кампаніі быў падобны да «ад’ютанта яго правасхадзіцельства» Саломіна з фільма і адначасна да Лерманатава з партрэтаў у школьных падручніках), і абслуга, і афіцэры — як на падбор, не кажучы ўжо пра матросаў-волатаў, а афіцыянтачкі ў рэстарацыі... ды нават

дзяўчаткі-прыбіральшчыцы — такія, што ўпрыгожылі б лепшыя панелі Масквы, ды што там — найзнакамітыя бардэлі Еўропы і Амерыкі альбо, у крайнім выпадку, не горшыя подыумы Парыжа...

асабліва адная, што прыбірала якраз у *ягонай* каюце... а, трэба сказаць, плыў *ён* у першым класе і, паколькі пасажыраў было ўвогуле мала, адзін у двухмясцовай каюце; чаму *ён* згадаў пра бардэлі: як яна паглядзела на *яго* — хіба на позірк той можна забыцца? — калі нагіналася, падмятаючы падлогу,

вымятаючы нешта з-пад лаўкі-ложка (як бы падкідвалі клубы такія — міжволі падумалася?), была яна трошкі вышэй сярэдняга росту — не зусім мадэльная — і даволі худая: якраз такая, якія *яму* падабаліся, пры такой фігурцы яна магла б быць і не прыгожаю, аднак вабнаю і жаданаю, але ж яна была прыгожаю... прыгажуняю... сэрца сціскалася, калі вочы гладзілі яе, і думка міжволі пульсавала: колькі ж ты каштуеш? аказалася, такса звычайная — дзесяць рублёў за раз, незалежна ад таго, колькі доўжыўся працэс:

трыццаць секундаў ці трыццаць хвілінаў, пра гэта *яму* грубавата-лёгка сказаў той самы армянін Вартан, у якога яна, можа, і расчараваная *ягонай* нясмеласцю, падмятала падлогу ўслед за *ягонай* каютай і з якім у той вечар *ён* разгаварыўся ў кают-кампаніі, куды пайшоў разбавіць шум (сум) пасляштормавага калыхання (казалі — гэта ў акіяне самы небяспечны час, бо карабель на доўгіх, затухаючых хвалях можа разламаць напалам, бы запалку), і, дадаў Вартан, дзяўчына была не толькі незабыўна-прыгожай, але і,

што рэдка бывае, чуйна-трапяткой, імгненна-загаральнай, не грубай, калі нават балюча, а слабай і ўсёдаравальнай, як у жыцці, а не на працы... але няхай цеплаход плыве, лейтэнанцік спявае, а нам варта вярнуцца на Шыкатан, дзе *ён* з братамі-армянамі гуляе ў футбол — два на два — браты паважаюць *яго* за менскае «Дынама», леташняга чэмпіёна СССР і

сёлетняга яшчэ лідара, за «Песняроў», *ён* паважае іх (за «Арарат»-каманду, за «Арарат»-каньяк, за Арарат-гару... за тое, што лёс *ягонага* народа і іхняга

дужа падобны ў сваёй трагічнасці ды нягодах, што зыходзілі ад суседзяў...), бо бачыць, што гэта ўважлівыя, прыстойна выхаваныя, інтэлігентныя людзі... гуляюць браты ў футбол добра, лепш за *яго*, пакрыкваюць-падахвочваюць, калі мяч у *ягоных* нагах: «давай, Гурыновіч!», «Гоцманаў, пас!», «Алейнікаў, бі! бі!», «бараніся, Зыгмантовіч», але *ён* «слабае звяно», і *ягоная* «каманда» прайграе... потым лазня, а пасля яны разам п'юць прывезены *ім* далікатэс — сахалінскае, не дужа добрае, кіславатае піва з агульнасавецкім

назовам «Жыгулёўскае»; хлопцы смакуюць і дзівяцца: як *ён* здагадаўся ўзяць яго сюды, чуюць пра сябра Уладзю і зноў раяць сцерагчыся баракаў, а калі карціць, калі няймецца — дык можна пазнаёміцца з файнаю (класнаю — сказалі яны) дзеўчынай, тут жа ёсць (*ён* ведае гэта, чаму і ехаў — але пра тое пазней) не толькі прастытуткі, тут базуецца на час пуціны паўтара дзясятка будатрадаў, у асноўным з Уладзівастока, але ёсць і з Хабараўска, і Благавешчанска, па адным з Паўднёва-Сахалінска

ды Кіева — самыя блізкія тут *ягоныя* «землякі», бо еўрапейцы; дзяўчаты-студэнтачкі прыйшлі адразу, нібыта пад вакном чакалі — чатыры на чатырох: тры пастаянныя ды іх сяброўка; «смялей, — шапнуў Вартан, — праверана, мінаў няма, яшчэ дзяўчынка — пераканайся...», але, *ён* быў дужа стомленым — пераплывам ад Карсакава сюды, нядаўнім шчырым футболам, а галоўнае — учарашняй японкаю, *ён* хацеў спаць, і нішто *яго* не цікавіла, тым болей дзяўчо, якое назвалася Надзяю з Уладзівастока;

*ён* лёг спаць у суседнім пакоі з той самаю Надзяю, каб толькі не пакрыўдзіць яе: не апусціць у вачах сяброўак, бо адзінае, што ў яе было, — маладосць, астатняе — пасля цеплаходных прыгажуняў ды японачкі — звычайнае; расейская дзяўчына, з расейскім тварам, прычым усе рысы крыху буйнаватыя: і нос, і вусны, і пашчэнкі, да таго ж з дзіцячымі «канапушкамі» па шчоках, словам, дзяўчо, якіх шмат, аднак — *ён* не хацеў яе крыўдзіць, яны леглі разам, *ён* спаў, а яна нешта рабіла (і адкуль ведала?),

яна станавілася жанчынаю, бо не працавала, адключалася — спала — у *яго* толькі галава, якую напаўняў суцэльны туман і запомненае цеплаходнае пакачванне зліваласся з рытмізаваным пагойдваннем ложка, але — што такое армянска-далёкаўсходняе яны елі падчас вячэры, які-такі дадатак у ежу быў падсыпаны? жэньшэнь? выцінка з рагоў марала? штосьці іншае, што замяняла тады слынную цяпер «віягру» — *ён* не ведае, гэта так і засталося для *яго* таямніцаю, толькі Надзя-цнатліўка, (у апошнім,

праўда, *ён* не змог пераканацца) не спала да раніцы: *ён* прачынаўся, лежачы на спіне, і бачыў яе перад сабою, *ён* засынаў і прачынаўся зноў — яна працягвала рабіць тое ж, з чаго пачала: маладосць, і ёй было цікава, ёй было трэба, а ў *яго* вочы зліпаліся, *ён* спаў, і ранкам толькі прыгадаў, які нязручна вузкі быў ложак і як кепска было ляжаць на спіне без падушкі пад вагою... эх, дзяўчо-дзяўчо, даруй, што *ён* так бяздарна прыняў дар тваёй нявіннасці; зрэшты, Уладзівасток — партовы горад, і там усе дзяўчаты

запатрабаваныя (глядзяць зялёнымі вачыма, як незанятае таксі), а *ён* паверыў першаму сустрэчнаму

армяніну пра тое, што дзяўчо нявіннае (і не праверыў), а яно ўсю ноч такое вычварала: дзе, скажы, так навучылася губляць нявіннасць? бо з *яго* памочнік быў ніякі: *ён* толькі аддаў ёй у арэнду тое адзінае, што заставалася пасля ўсіх перажыванняў ды стомаў баяздольным — і то выключна (*ён* перакананы) пад уздзеяннем нейкіх армянскіх сродкаў, што адключаюць адныя рэцэптары і вымушаюць працаваць

іншыя... *ён* яшчэ памятае, што пачуцці былі абвостраныя, і *ён* увесь час нешта сніў, звязанае з тым, што адбывалася, але не з той дзяўчынаю, не з Надзяю, а з нейкімі іншымі, даўно жаданымі *ім* і зусім невядомымі, але салодкімі... з астатняга ж *ён* памятае, што на Шыкатане прабыў тры дні, і так скончыўся другі, а ў трэці — серадольшага брата Вартана, з якім *ён* гуляў у адной камандзе і які быў галоўным урачом будатрадаўскай зоны (так называлася кіраўніцтва ўсіх будатрадаў, якія варта было б тут назваць

рыбатрадамі ці пуц*і*наатрадамі, бо нічога яны не будавалі, а працавалі на канвееры рыбзавода), парэзаў нехта з мясцовых (калі так можна назваць тых, хто аднойчы прыехаў на Шыкатан і вось ужо каторы год заставаўся зімаваць на востраве пасля сканчэння пуціны), парэзаў неглыбока і няшмат — левую руку, якой бараніўся, да косці, прарваў скуру на жываце і твары, але выпацкаў у кроў кашулю ды джынсы страшна; старэйшы брат, які працаваў на Шыкатане ў бальніцы галоўурачом, наклаў касметычныя швы

на руку і твар і сказаў па-руску, каб і *ён* зразумеў: «да свадбы зажыв'ёт...», ляпнуў брата па ляжцы, гергетануў нешта па-свойму... а *ён* і з-за гэтага ў тым ліку ледзь не спазніўся на тутэйшы «аўтобус» — карабель-

чык, які ходзіць раз на тыдзень паміж Шыкатанам ды Кунашырам, звычайна без раскладу, і адчальвае неспадзявана: *яму* сказалі, што крыху аціхла мора, і, мажліва, цеплаходзік пойдзе сёння ўвечары; *ён* занёс на караблік свае рэчы, пасядзеў трохі; капітан задумліва зірнуў на акіян за ўтульнай

шыкатанскай бухтай і няўпэўнена прамовіў: «можа, і не пойдзем... што табе тут калывацца, пагуляй на развітанне... перад выхадам — я дам знак...», капітан аказаўся земляком, беларусам, і *ён* паверыў яму, пайшоў гуляць па востраве; пастаяў яшчэ каля помніка рыбакам ці рыбаку — славутым помнікам, бо адзіным тут (мясцовы скульптар зляпіў рыбака непрапарцыянальна каржакаватым з рознай даўжыні рукамі, і гэта лічылася за файную адметнасць, якую паказвалі з мілым адкрыццём усім), над помнікам

па сопцы блукалі «горныя» каровы — звычайныя каровы, якія, нібы козы, лазілі па круталобых пагорках, мяняючы між каменне траву на малако; падышоў да аднаго з кансервавых заводаў — на прычале каля яго выгружалі івасі і сайру, сайра ляжала нерухома — бліскуча-белая, плоская, як лёзы нажоў, а івасі яшчэ скакалі, падалі на пуза, выгіналі свае чорныя спіны і спрабавалі плысці па драўляным насціле, і вочы іх былі поўныя слёз... *ён* забрыў у цэх, дзе з гэтых сайраў ды івасі, а яшчэ гарбушаў

рабілі кансервы, і прайшоў па ўсім цыкле — ад разразання на кавалкі, укладвання ў бляшанкі да прыгатавання ў спецыяльных тэрмапечах, пры тэмпературы 400 градусаў (злавіўшы *ягоны* гідлівы позірк на рукавах у карычневай сукравіцы, *яму* радасна паведамілі, што ўсе мікробы ды зараза пры гэтым

гінуць), потым убачыў афішу, якая клікала ў клуб на сустрэчу з сахалінскімі паэтамі, што прыехалі сюды з агітвыступам; паэты выходзілі па чарзе — іх аб'яўлялі як салідных знакамітасцяў — чыталі нейкую

парнаграфію, у сэнсе — абракадабру, у сэнсе — графаманію, з ахмадулінскім падвываннем, з яўтушэнкаўскай манатоннасцю, адзін умудрыўся нават чытаць пад гітару, назваўшыся бардам, але зала была поўная і ўдзячная; дарэчы, кветак не неслі і нешта не відаць было нават, каб нехта ў зале трымаў якія-небудзь вяргіні ці настурцыі з гладыёлусамі (хрызантэмамі), увогуле на востраве ўдзячныя слухачы паэтам кветак не дарылі, толькі па-вучнёўску зладжана пляскалі ў ладкі, а на галёрках уголас абмяркоўвалі

іх мажлівыя мужчынскія якасці, бо на сцэне, сярод паэтаў, былі адныя мужчыны (колькі іх прачнецца заўтра ў халодным поце прыціснутымі да сцяны чыімсьці задам-гарою?), а ў зале — выключна жанчыны: «я б гэтаму віхлястаму дала, — казала, не слухаючы вершы, танклява-худая кабеціна ў кухвайцы — нейкі мясцовы лідар ці з-за добра падвешанага языка, ці з-за доўгіх рук з мужчынскімі кулакамі, якія цяжка ляжалі на прыполе, — гля, які шнобель, да душы дастане...», «яны, паэты, яб...чыя, — адгукалася

з другога краю іншая лідарка — мажная, як Людміла Зыкіна, і ўсе паварочвалі да яе галаву, забываючы пра сцэну, — мяне адзін усю н...», — заўважыла *яго* пры ўваходзе, ацаніла позіркам навылёт, і *ён* не стрываў, сышоў, бо ўжо цямнела на востраве; на прычале пры бухце бачны здалёку мерна папыхваў трубою цеплаходзік, што меўся везці *яго* на Кунашыр, мірна, спакойна папыхваў, і *ён* пайшоў у барак да Надзі; яна

спала на другім паверсе нараў пры самым уваходзе, напалову накрытая шэрай у сінія палосы

коўдрай (грудак у яе ляжачай зусім не было, як у хлопчыка), і ў сне сваім была прыгажэйшай, чым у жыцці; Надзя адчула *ягоную* прысутнасць, расплюшчыла вочы і сарамліва захуталася; яны пайшлі гуляць па пасёлку, а дакладней — шукаць месца, дзе можна было б прыхінуцца, схавацца ад чужога вока, бо дужа гэтага хацелася абаім; адышліся даволі далёка і толькі пачалі, як раптам загаласіў на ўвесь востраў цеплаходзік — *ён* зірнуў на гадзіннік: роўна дзесяць — час пазначае, падумаў, а Надзька не давала

галавы падняць і адумацца; цеплаходзік раз-пораз выкрыкваў адзіную літару, якую мог вымавіць: «у-у-у», то коратка, то працяжна, то заклікальна-пагрозліва, то ўмольна-стомлена: «у-у-у», «у-у-у», «у-у-у» — нешта здарылася, падумаў *ён*, а потым *яго* шандарахнула: гэта ж зямляк *яму* знак дае — адыходзім... адплыве зараз, а там усе рэчы, і пашпарт... калі яны прыбеглі да прычала, матросы ўжо «аддалі канцы», сцягнулі трап, і *яму* давялося проста з берага скакаць на палубу; капітан ківаў галавою з рубкі, маўляў, ай-я-яй!

Надзька плакала на беразе — шчокі яе блішчэлі разоркамі пад цьмяным святлом ліхтара, а *ён* падумаў: ну хто я табе — што ты плачаш? — нават адрас не ўзяў і не даў... цеплаходзік адыходзіў задам у цемру мора, нібыта прабачаючыся за *яго*, а на беразе заставалася дзяўчо, якое, можа, *яго* і кахала, якое *яго*, пэўна, шкадавала, альбо шкадавала расставання з *ім* на гэты момант, стаяла адна-адзіная: самотная птушка з апушчаным крыллем (а праважаюць цеплаходы — зусім не так як цягнікі...), а *ён* радаваўся,

што паспеў на «рэйс», і сцінаўся ад думкі, што мог не паспець... фігурка драбнела, *ён* падняў руку, стоячы на асветленым носе карабля, бо раптам агаломшыла думка, што гэтага мілага (шчырага) чалавечка, што падзяліўся з ім цяплом, *ён* больш ніколі ў жыцці не ўбачыць: на Шыкатане, пры моцным жаданні, яшчэ, мажліва, калі-небудзь і зможа пабыць, а з ёю — ніколі... караблік абмінуў скалу, выйшаў у адкрыты акіян, і *ён* шпурлянуў у блізкую ваду бязважкі кулончык гейшы і пабрыў уніз, у цеснае памяшканне, як ні дзіўна,

амаль запоўненае шчаслівымі пасажырамі (вырваліся!), што сядзелі шчыльна, як у турэмным ізалятары на нарах, заклапочана-сонныя; нехта спытаў: «колькі будзем плыць?», хтосьці адказаў: «калі ўсё добра — гадзінаў тры...», «дык пасплю...», «ага, калі нутро тваё не выверне...», цеплаходзік забіраў ад берага ўсё глыбей і глыбей у адкрыты акіян, і яго ўжо заўважна кідала на хвалях — гушкала, бы на вялізных арэлях, — позіркі людзей, непрывыклых да «балтанкі», мутнелі і блукалі па шэрых сценах у жаданні

зачапіцца хоць за што-небудзь, скулы сціскаліся, твары суравелі, у напоўненым целамі пакойчыку з невысокай столлю рабілася душна... *ён* не ведае, як на іншых, а на *яго* ціснула замкнёная прастора гэтае цёмнае, цьмяна-шэрае каюткі, напоўненай затхлым пахам поту людзей, *яму* яна здавалася мячыкам, які гайдаецца на хвалях, і яны ў гэтым мячыку — бязвольныя, і няма ў іх мажлівасці паўплываць неяк, каб плыў ён хутчэй, і плыў да мэты, прычым у любы момант гэты мячык можа лопнуць,

і яны высыплюцца з яго ў халодную восеньскую ваду, у яшчэ большую цемру ды холад (недзе ж і ця-

пер, у гэты час там плаваюць людзі... жах!..), *ён* ужо меў вопыт плавання на прыблізна такім жа маленькім карабліку, які матросы любоўна называлі «эмэрэска»: скарочана ад — «малы рыбалавецкі сейнер»; яны выйшлі тады з невельскага порта пад вечар і адразу трапілі ў шторм, невялікі — 3–4 балы — але гэтага хапіла, каб праз пару гадзінаў укласці *яго* ў ложак: узбунтавалася нутро, загула, стала вялізнаю,

бы шар зямны, галава (куды там арэлі ў парку Чалюскінцаў...), *ён* паспеў яшчэ выйсці на начную палубу: «эмэрэска» моўчкі — рухавік спынены — стаяла над знойдзеным лётчыкамі ўдзень і пацверджаным эхалотам гадзіну таму касяком івасі, гарэлі ўсе лямпы, каб прывабіць рыбу, і *ён* дзівіўся: якое прыгожае мора! такое бачыў хіба на карцінах Айвазоўскага: хвалі, як намаляваныя густымі алейнымі фарбамі — цёмна-зялёныя — тугія, рэзаць можна, здаецца, стаў бы на іх і пайшоў, нібы па барханах; кырлі гойдаюцца

на хвалях паважна, быццам паплаўкі, лёгка ўзлятаюць і знікаюць у цемры, а потым каменем падаюць уніз і вынырваюць з серабрыста-чорнымі рыбінамі ў дзюбах — гэта вакол сейнера са святлом пачалі збірацца івасі і самыя дапытлівыя ды цікаўныя з іх — «разведчыкі» — «змейкаю» набліжаюцца да паверхні, пачынаюць вынырваць-выскокваць... рыбакі падрыхтавалі і скінулі на ваду плоцік з моцнаю лямпаю, патушылі ўсе агні на сваім сейнеры, плоцік павольна адплываў у цемру... *ён* згадвае тое мора:

*яму* здавалася яно тады і страшным і прыгожым адначасова (як і цяпер), страшным увогуле, але нястрашным у прынцыпе — пакуль пад нагамі ў *яго* была палуба карабля, хай і хісткая, хай і імкнулася яна

выслізнуць з-пад ног, скінуць *яго* з сябе, як наравісты конь неспрактыкаванага вершніка, але ж не скідвала; замкнутая шчыльнай цемрай прастора таксама не палохала сваёй бяскрайнасцю і нябачнасцю цвёрдага берага, і тады зусім не думалася, што пад нагамі цяпер кіламетры глыбіні... *яго* знайшоў між пасажыраў

капітан-беларус, аддаў саквояж з рэчамі, паўшчуваў: «дзе ты быў? гудок асіп цябе клікаць... каб не зямеля — пакінулі б...», «а колькі яшчэ плыць? нутро бунтуе...» «хутка дойдзем... на рэйдзе вас выкінем і назад... у Паўднёва-Курыльску няма бухты, каб схавацца, порта няма», а *ён* падумаў: якое гэта шчасце для «абарыгенаў», калі прыходзіць карабель... з чым гэта параўнаць на «вялікай зямлі»? на мацерыку, хай сабе і ў самай глухой вёсачцы, куды раз на тыдзень заязджае рэйсавы аўтобус, альбо не заязджае

ніколі — і там не адчуваецца гэтак адрэзанасць ад усяго свету; прыход цеплахода на востраў можна будзе хіба параўнаць з радасцю каланістаў па набліжэнні зоркалёта дзе-небудзь на Марсе ці... якім-небудзь Альдэбаране праз сотню-другую гадоў, але не з нейкаю іншаю падзеяю сёння на зямлі... людзям, якія жывуць не на далёкім востраве, не дадзена зразумець радасць чаканае сустрэчы і горыч расстання... і адзінота ў глухой палескай вёсачцы, хай і адрэзанай ад цывілізаванага свету рачулкаю без мосту,

без броду альбо непраходным балотам, непараўнальная з адзінотаю на востраве пасярод бязмежнага акіяна... і як *ён* мог адважыцца на такое падарожжа? што *яго* паклікала? адкуль у *яго*, жыхара краіны, якая сталага выхаду да мора і марацка-рыбацкіх традыцыяў, можна лічыць, не мела, цяга да нязведанага і жаданне спазнаць нешта новае? чаму не было гэтага

ў *ягоных* суайчыннікаў, якія ніколі не нападалі на чужыя землі, не імкнуліся захапіць іх, а толькі абаранялі сваё, толькі абараняліся, і, адбіўшыся

ад ворага, наладжвалі Пагоню, прымацоўвалі тарчу да варотаў варожае сталіцы, але не захоплівалі яе, не далучалі чужыя землі да сваіх, а вярталіся дамоў... чаму? потым, значна пазней, у Швецыі, *ён* зразумеў розніцу паміж шведамі — вечнымі варагамі, якія шукалі сабе шчасця на землях за морам, і беларусамі, якія адно сядзелі дома... розніцу тую, дакладней імкненне шведаў спазнаць, адкрыць — заваяваць — іншыя краі, гісторыкі тлумачаць так: Швецыя на той час была перанаселеная і не магла пракарміць усіх,

вось бацькі, пакідаючы спадчыну старэйшаму сыну, і выпраўлялі малодшых з дому, а тыя, не знаходзячы прытулку на радзіме, плылі за мора... праз гэтую праблему (недахопу ўрадлівай зямлі!) прайшлі ўсе народы ў пэўны час, але ж беларусы не ішлі некуды, а сядзелі ў сваіх балотах... во-во, якраз у прыродзе, у тым, што нас акаляе, і ёсць розніца між беларусамі ды шведамі; спачатку, у Швецыі, *ён* здзівіўся: наколькі тут падобныя да беларускіх людзі і падобны ландшафт: тыя ж бярозкі ды хвойкі, узгоркі

ды раўніны, але аснова якая? — у беларусаў пясочак, балота, а ў шведаў — скала... ці трэба далей тлумачыць пра стрыжань народа, пра мяккасць беларусаў — славутую талерантнасць, — якая імкнецца хоць бы захаваць тое, што маеш, і пра імкненне шведаў да новага... аднак Швецыя далёка, а зусім побач цяпер Японія — менш за паўсотні кіламетраў па вадзе — і таму, так і хочацца сказаць, што, як гэта ні парадаксальна гучыць, найбольш блізкі па менталітэце да беларусаў народ — японцы, зрэшты, дакладней

будзе гучаць, што беларусы з усіх славянаў ці еўрапейцаў найбольш блізкія да японцаў, з тою толькі розніцаю, што японцам — як і беларусы, кансерватарам па натуры — пашанцавала жыць і развівацца ў герметычным свеце — на асобным востраве, дзякуючы чаму яны змаглі захаваць сваё, захаваць сябе, свае традыцыі, і далося ім гэта лягчэй, чым беларусам, бо беларусы маюць вакол сябе настырных суседзяў; а таму японцы ёсць тое, кім маглі б стаць беларусы, каб жылі на асобным востраве, а беларусы,

ёсць тое, кім маглі б стаць на мацерыку японцы, калі б мелі такіх суседзяў, якіх маюць беларусы... а да Японіі *яму* цяпер так блізка, што, здаецца, руку працягнеш у цемру — і намацаеш скалу, японскую будыніну на беразе, твар японца, што выйшаў папаліць люльку (цыгарэту) перад сном і пазірае ў бок Курылаў... японцы — паўднёвыя людзі, і іх цягнула яшчэ далей на поўдзень, і ў гэтым была іх памылка: яны не пайшлі адразу — не чакаючы расейцаў — на поўнач, бо ім да пары да часу хапала свайго,

а пра будучыню яны не думалі, як і беларусы... і што *яго*, дурня, пацягнула на гэтыя Курылы, чаго *ён* не бачыў на тым Кунашыры? які ён Кунашыр насамсправе?.. тлум, святло адзінкавых берагавых ліхтароў на тлустых — сіня-чорных, а пад святлом зялёных — хвалях (ноч, тры гадзіны ночы — *час Тыгра*), яны выгружаюцца з цеплаходзіка на платформу (так называецца штосьці кшталту парома з буксірам), якая сустрэла іх за сотню метраў ад берага; *ён* прыгадаў старажытную мудрасць, спачатку прыдуманую

*ім* самім, а потым вычытаную ў кагосьці з класікаў, якая сведчыць: адзінае, што належыць нам на гэтай

зямлі, гэта не нейкія рэчы, а толькі нашыя думкі, з якімі мы прыходзім сюды, якія нараджаем і множым тут і з якімі паміраем, і таму дастаў свой любімы сцізорык і падараваў яго капітану-земляку — то быў знакаміты швейцарскі дарагі ножык з больш чым дваццаццю «прадметамі», у тым ліку і нажнічкамі, якімі *ён* параіў капітану падстрыгаць свае «мулявінскія» вусы... а потым і *яго* падхапіла і панесла на сабе

ўсеагульная ўзрушанасць, узбуджанасць, радасная мітусня тых, хто сустракаў, што прыйшла на змену стоме і тупой абыякавасці прыбылых; на беразе раптам усе «прачнуліся» і некуды пабеглі, пачалі караскацца па крутой сцяжыне проста ў неба, на высокі ўзгорак перад вачыма, *ён* пачуў: «у гасцініцу... месцаў усім не хопіць...», пабег таксама, пашкробся ўслед за іншымі на гару, уляцеў у двухпавярховы драўляны будыначак з непрыкрытай бельмаватай лямпачкай над уваходам — адзіная пляма святла ў гэты час на востраве; адміністратарка хутка прыняла-рассяліла ўсіх —

каго на ложак, каго на раскладушку, а апошніх проста на падлогу: тут так прынята — тут усе свае, тут іншыя патрабаванні да ўласна «гасціннасці»; *ён* адразу прылёг, *яму* невыносна хочацца спаць, вочы зліпаюцца... і *ён* засынае, закалыханы акіянам: ложак гойдаецца пад *ім*, нібыта *ён* яшчэ плыве, камяк сліны стаіць у горле, галава мутная-мутная... і прачынаецца ранкам у тым жа гармідары: нагу няма куды паставіць ад целаў, прачынаецца гэткі ж сонны, нявыспаны... сонца свеціць проста ў вокны і знаходзіцца якраз

на ўзроўні вокнаў: такога ў Беларусі не ўбачыш; сонца вялізнае, чырвонае, як на японскім сцягу, ужо гарачае, але яшчэ не сляпучае, пакой поўны мужчы-

наў — нехта прачнуўся і лыпае неўразумела, як і *ён*, нехта яшчэ храпе ва ўсю моц, у пакоі душна, млосна, бы ў парылцы, Ён уяўляе, які тут смурод стаіць для свежага чалавека з вуліцы, і моўчкі, ціхенька, як між магілаў — толькі б не наступіць, прабіраецца да дзвярэй, *яго* яшчэ трохі кідае ўбакі — рэшткі «качкі», нібыта ідзе *ён* не па цвёрдай зямлі, а па палубе,

і ўявіць сабе, што гэта не востраў, а проста вялізны карабель — той самы каўчэг — зусім не цяжка, бо ў вакне, як у ілюмінатары, пад сонцам толькі мора да самага небасхілу, хвалі, хвалі, хвалі набягаюць, луской аграмаднага дракона блішчаць, мкнуцца да вострава, адважна кідаюцца на бераг, каб размыць яго, змыць і запанаваць аднаасобна... *ён* пераканаўся, што гэта рэальна, калі выйшаў з гатэля і прайшоўся па Паўднёва-Курыльску: на краі «горада», паблізу знакамітага «Чортавага пальца» *ён* убачыў акіян адразу

з двух бакоў, і раздзяляла ваду ад вады палоска зямлі менш за кіламетр (здаецца, яшчэ трошкі — і суша размыецца, тады Кунашыр ператворыцца ў два астраўкі), і гэта ў самым цэнтры ці не самага вялікага курыльскага вострава, побач з дамамі... не, гэта не дамы, гэта драўляныя двух- і аднапавярховыя баракі: усё тут казала пра іх часовасць, пра тое, што прысутнасць гэтых людзей тут — часовая, што не жыць сюды яны прыехалі, не абжываць і абжывацца, а зарабіць грошай і з’ехаць на мацярык... дарэчы,

гэтая часовасць рускіх, якая тут адчуваецца асабліва, ёсць ці не галоўная іхняя рыса і, адпаведна, галоўная бяда: яны паўсюль адчуваюць сябе часовымі, яны нідзе не гаспадары, нават у сябе дома, яны ўсюды прыезджыя і заўсёды паглядаюць на суседа, які жыве

лепш, не з думкаю зрабіць гэтак у сябе, а адабраць ды падзяліць... аднак, нягледзячы на блізкасць акіяну, Кунашыр не здаваўся маленькім востравам, ды ён і не быў маленькім, жыццё тут ішло хутчэй, чым на Шыкатане, людзей было значна больш і, галоўнае,

такіх, што завербаваліся і жылі да пенсіі больш-менш стала; Кунашыр і быў мэтаю *ягонае* вандроўкі, бо тут меўся саўгас, пра які ў «Савецкім Сахаліне» не пісалі ўжо гадоў дзесяць, а таму, паблукаўшы трохі па востраве, *ён* пайшоў да канторы (дырэкцыі!) саўгаса... але... але....... але........... *ён* спыніўся, бо зусім збіўся на бытапісальніцтва, і забыўся на мэту сваю, зусім стаў журналістам (і забыўся пра мэту сваю), чукчам стаў, які спявае пра тое, што бачыць (і забыўся пра мэту сваю), аднак жа чукча пра мэту не забывае: спявае

ды патроху едзе туды, куды яму трэба... а *ён* («куды ж мне плыць?») — *ён* прыплыў на Кунашыр, дзе некалі — у саракавыя гады — ледзь не загінуў падчас цунамі і вывяржэння вулкана дзядзька Валодзя — брат мамы; дзядзька вярнуўся дамоў, у Беларусь, інвалідам, але і года не пабыў у галоднай, спаленай немцамі і яшчэ неадбудаванай вёсцы — забраў яго назад Сахалін, абжыўся ён там, сястру і брата малодшых пераманіў і ўтварыў на востраве калонію *ягонай* радзіны... тут, на Кунашыры,

на самым поўдні яго, куды *ён* абавязкова з’ездзіць, крыху пазней, у пяцідзясятых, служыў Васіль Быкаў, тады яшчэ нават не пачынаючы пісьменнік, а проста лейтэнант Савецкай Арміі, які, дарэчы, так і не напісаў ні радка пра Кунашыр, пра Курылы (толькі згадаў іх у сваіх успамінах «Доўгая дарога дадому», затое шмат напісаў пра партызанаў, дзе ні

дня не быў...) — пэўна, у кожнага так: цяжка пісаць пра тое, што добра ведаеш, і лёгка пра тое, чаго зусім не ведаеш... мажліва, *ягоныя* землякі праз дзясяткі

гадоў наладзяць сюды паломніцтва, як цяперака робяць гэта японцы: падыходзяць яны да сваіх былых котлішчаў — пазнаюць іх: нічога, амаль нічога не змянілася за сорак (ужо шэсцьдзясят) гадоў савецка-расейскага панавання, хіба толькі хаты (*«фанзы»* — на кітайскі манер называюць іх тут) пастарэлі, пашарэлі, спарахнелі ад часу, але яшчэ трымаюцца, стаяць, і ў іх жывуць людзі — часовыя, заўсёды часовыя людзі, якія і дошкі не прыбілі, каб падтрымаць дамок, бо не іх ён, а нічый: дзяржаўная кватэра; плачуць

японцы на родных селішчах, толькі зямля гэтая ўжо не іхняя і няма надзеі, што іхняю будзе, можна толькі радавацца, што жывымі засталіся, не згнілі недзе пасля вайны ў лагерах, што не звядзецца іхні род, і, можа, некалі ўсё ж вернецца сюды (хай не як гаспадар, а спачатку як проста ўласнік-камерсант, але — вернецца)... расейцам жа няма куды вяртацца, бо ўсюды ў іх такая ж радзіма, яны ўсюды, дзе былі — ёсць, і ўсюды, дзе ёсць — гаспадары, хоць такімі сябе не адчуваюць, а толькі лічаць, бо ўсё

засціць ім іхняя часовасць усюды... адзінае, што змаглі яны прыўнесці на гэты востраў — сацыялізм ды наглядную агітацыю... і тут, непадалёку ад саўгаснай канторы стаіць лозунг — вялізнымі літарамі напісана лесвічкай пад «маякоўскага»: «пятилетний план нам отчизною дан, чтобы уровень жизни нашей повысить, с честью выполнить этот план — от любого из нас зависит!»; «повысить — зави-сит» — рыфма, і сапраўды,

вартая Маякоўскага (мажліва, зрэшты, гэта таксама паэтавая агітка з вокнаў РОСТу, якую *ён* проста

не ведае...), а ўвогуле, каля канторы ўсё як на мацерыку, як і ў Беларусі: шчыт з сацабавязацельствамі (надаіць, атрымаць, павысіць...) і перадавікі глядзяць з партрэтаў гэтаксама бадзёра, з вымучанымі ўсмешкамі: «распространенье наше по планете, особенно заметно вдалеке...»; калі *ён* ехаў на Сахалін, сябар Сашка, аднакурснік-фотажурналіст, папрасіў: там Японія пад бокам, апаратуры іхняй, мусіць, поўна, напішы, калі ўбачыш, я грошы дашлю...», па сваёй наіўнасці ў першы ж выходны *ён* пайшоў у мясцовую

краму са шматабяцальнай шыльдай: «авто мото вело фото» (там жа *ён* пачуў працяг назвы: «...бля гребля и охота») — крама была пустою: нават фіксаж — дэфіцыт... за пяць месяцаў на Сахаліне *ён* шмат чаго пабачыў (у тым ліку і самую Японію на адлегласці выцягнутай рукі, разганіся добра — і пераскочыш...), не бачыў толькі новых японскіх рэчаў (хіба што выкінутыя прыбоем на бераг «японскія» кавалкі сеткі, паплаўкі, прыгожыя пляшачкі, стракатыя абгорткі ды проста карабельнае смецце...), цётка *ягоная*,

узнагароджаная за "самаадданую і ўдарную" працу турыстычнаю пуцёўкаю, з Паўднёва-Сахалінска лятала ў Японію праз Маскву, хоць тут — плыць пару гадзінаў, і рэчы з Японіі на Сахалін, відаць, таксама ішлі праз Маскву і асядалі там, асядалі, асядалі... так і не пабачыў *ён* тады ні на Сахаліне, ні на Курылах ніводнае ўласнаяпонскае рэчы, затое бачыў (і еў) хойніцкую салянку, бярозаўскую тушонку, рагачоўскую згушчонку (страшнейшы дэфіцыт на Беларусі), адзінае, што *ён* убачыў японскае

на Курылах — гэта набор рознакаліберных, разнаколерных, разнаформных пляшачак (з-пад лекаў, парфумы, напояў), сабраных любоўна жаночаю рукою сакратаркі, пэўна ж, на ўзбярэжжы, і выстаўленых на вакне ў канторы саўгаса заместа вазонаў альбо кактусаў, а яшчэ адную пазнаку блізкае Японіі *ён* пабачыў увечары, калі пайшоў у госці да земляка — другога сакратара райкама партыі (якому, уласна, і вёз памідоры ды піва), і той уключыў тэлевізар — па ім ішло дзясятак японскіх праграмаў і толькі

адная савецкая (а на поўдні, у дзесяці кіламетрах ад Хакайда — у Галаўніно і Дубасекава, увогуле ніводнае савецкае, бо сопка перакрывала адзіную спадарожнікавую праграму), і глядзеў *ён* разам з партсакратаром ніколі раней не бачаныя баевікі з забароненым тады ў СССР каратэ: такія скачкі, удары — божа ж мой! — ды яшчэ ў колеры, хай і кепскім... карацей, растляваў *яго* даўно растлелы сакратар райкама родам з Віцебшчыны... але — зайшоў *ён* у кантору, дырэктар, як заўсёды, заняты: планёрка,

о, гэтае салодкае слова «планёрка»! дробных вясковых начальнікаў узроўню дырэктара саўгаса, яно заўсёды натхняла на крык і гвалт (асабліва — сялектарная!), бо надавала ім значнасці, бо пацвярджала «ісціну»: без іх ні адныя вілы гною не будуць выкінутыя з хлява, ні адно зярнятка не ўпадзе ў глебу... быў у *яго* на Сахаліне адзін удзел у такой вось планёрцы, *ён* зайшоў у кантору, дырэктар кіўнуў *яму* галавою: сядай; што *ён* чужы — дырэктар, вядома, ведаў, але падумаў, што *ён* на працу прыехаў уладкоўвацца —

якраз чакалі ветурача, і працягваў яшчэ больш строга, каб пакрасавацца, ну, *ён* і пачуў усю праўду

пра саўгас: пра два дзясяткі здохлых учора ад бяскорміцы цялятаў, пра тоны ўгарэлага (сапрэлага), бо ў пару не забранага з лугу сена і г. д., дырэктар, калі даведаўся, што *ён* журналіст і прыехаў па «крытыку», за галаву схапіўся, за сэрца, за задніцу... і потым тры дні паказваў *яму* «крытыку» ў мясцовым леспрамгасе, у недалёкім рыбгасе, урэшце паказаў узведзены год таму сярод лесу пасёлак: дзясяткі чатыры

трох-пяціпавярховых будынкаў, пабудаваных цалкам, з вокнамі, дзвярыма, але не заселеных, бо жыць у іх было немагчыма: не падвялі каналізацыю і цяпер пад гатовыя не падвядзеш, не падлезеш... (па сваёй наіўнасці, *ён* і напісаў так, як ёсць, артыкул той нарабіў шуму, не адзін вялікі начальнік зляцеў, па цяперашнім часе і забіць *яго* за тое маглі, а тады — праехалі...); але — якая метафара атрымліваецца... гэты пасёлак пасярод Сахалінскае тайгі, узведзены на дзяржаўныя грошы як дапамога

пацярпелым ад нядаўна прашумелага над востравам тайфуну «Філіпс» (рэйкі, пакручаныя неўтаймоўнай сілай, яшчэ помнікамі ляжалі ўздоўж чыгункі) — метафара на ўсю савецкую краіну («пацёмкінскія вёскі» будаваліся не ўсур'ёз, а каб толькі «пыл пусціць» у вочы — а гэта навошта?) — дзе пераблыталі «базіс» і «надбудову», дзе «свядомасць» вызначала «быццё» (хоць было наадварот), дзе «вернасць і адданасць» ідэалам замянялі прафесіяналізм і адукацыю, дзе цэлая краіна «ад Буга да Курылаў» будавалася

не дзеля таго, каб у ёй жыць, не для сябе, а «для будучых пакаленняў» (мы адпакутавалі, дык мо дзеці нашыя хоць пажывуць, як людзі), што будуць жыць пры камунізме; уся краіна — шостая частка

планеты Зямля — была такою (ці не таму так лёгка развалілася?), яны з сябрам пераканаліся ў гэтым, калі праехалі потым на цягніку ад Уладзівастока да Менска і ўсюды бачылі рэзрух (тады гэта называлася безгаспадарчасць) ды голад (так, ужо на пачатку васьмідзясятых, ад ваколіцаў Масквы па ўсёй

Сібіры ажно да Сахаліна прадукты былі па талонах і картках — як хутка забываецца кепскае!!!), п'янства ды крымінал; дзяржава-зона з зэкаўскімі «правіламі», дзяржава-сметнік, па якім з краю ў край у пошуках, дзе лепш (каму ў СССР жыць добра?), блукаюць бамжы-грамадзяне і над якім гучаць «бравурныя» маршы і заклінанні чарговага «вождя» пра тое, як «эх, хорошо в стране советской жить!!!», у што зэкам ды бамжам верыцца да слёз шчасця ў чырвоных ад горкіх слёз вачах — і гэта ўжо не метафара,

а чыстая праўда... а той дырэктар — здрэйфіў па сваёй маладосці: быў ён не намнога старэйшы за журналіста, і знайшоў у *ім* удзячнага слухача — тры дні дырэктар амаль не змаўкаў, усё хацеў здавацца лепшым, чым ёсць (а ён і быў лепшым!), і распавёў *яму* столькі цікавых рэчаў, што хапіла б на дзесяць раманаў; дырэктар скончыў Благавешчанскі сельгасінстытут, добра граў на гітары і быў, адчувалася, там душою факультэта — пры гэтым неўтаймаваным, неўтаймоўным выдумшчыкам і рызыкантам,

жыццё на Амуры, які быў мяжою з Кітаем (тады і там ворагам нумар адзін), пакідала месца і сур'ёзнаму, і жарту (чаго варты іх «музычны налёт» на суседскі памежны гарадок Хэйхэ: падабралі на сінтэзатары гук бамбардзіроўшчыкаў і накіравалі ўзмацняльнікі на Кітай — перапалоху было...), і што яго толькі з

прыгажуняю жонкаю занесла ў глухамань і па сахалінскіх мерках — у саўгас «Зара» за Паранайскам?.. але Сахалін Сахалінам, а на Курылы *ён* прыехаў не «крытыку» шукаць і не нерваваць

людзей: «хай хоць са стратамі, ды працуюць, час займаюць, прысутнасць пазначаюць», — сказаў *яму* загадчык аддзела, а тут і сапраўды агульнасавецкая сельская гаспадарка працавала на страты, дагэтуль незразумела: чаму на Кунашыры садзілі бульбу, жыта, як недзе пад Менскам, і чаму не было ніводнай цяпліцы?.. *ён* і сказаў спацела-збялеламу курыльскаму дырэктару (які на планёрцы таксама паўтарыў сітуацыю: выдаў апошнія «навіны», якія ў сельскай гаспадарцы заўсёды кепскія), адразу, што прыехаў,

каб пісаць пра іх штодзённы подзвіг; супакоіў, аднак дырэктар усё ніяк не мог устаць з-за стала і не мог спыніцца пагладжваць сваю змакрэлую лысіну... «ёмаць, — сказаў ён нарэшце, — дык ты журналіст, а я думаў, нехта з новых пагранцоў па гражданцы прыйшоў дапамогі якой прасіць... ну, нічога, мы табе знойдзем і герояў, і подзвігі... тут і беларусы ў нас ёсць, беларусачкі... напішы пра передавую свінарку Галіну Сцепанцову — ардэнаносец, панімаеш, залаты чалавек... давай правяду на ферму, яна якраз там —

возьмеш, так сказаць, жывы матэрыял...»; свінаферма была недалёка — адзін нядоўгі драўляны хлеў, перабудаваны з нейкай японскай будыніны, і паколькі з японскай, дык яўна не з царквы, як было прынята на мацерыку адсюль і аж да Беларусі, дырэктар крутнуўся, зрабіў за *ягонаю* спінай нейкі знак свінарцы — *ён* зразумеў тое па ейным на момант разгубленым твары — і знік, а яны засталіся ўдвух

з Галінай Сцепанцовай, у хляве, у якім было парна і пахла... Беларуссю... Галіна Сцепанцова працавала

адна — даглядала дзясяткі тры-чатыры свіней; яна дарабіла нешта пачатае і запрасіла сесці на буйную, каленістую, як бамбук, жоўтую салому (адкуль тут такая салома? ці не з мацерыка? няўжо на самалёце везлі?), пакуль яна працавала, *ён* назіраў за ёю, і *яму* падалося, што ад гэтае жанчыны, апранутай у старую, пацертую, але акуратна зацыраваную кухвайку, ішла нейкая незвычайная энергія (нібыта як ад маці — добрая, пяшчотная, ласкавая...) — што агортвала *яго*, ахінала і нават затуманьвала (мо то было цяпло хлява?)

і супакойвала; хаця не, супакойвала адныя пачуцці і абуджала іншыя... «і не дзіва», — падумаў *ён*, гледзячы на дасканалы тварык трыццацігадовай жанчыны, якая ласкава чухала за вухам маладзенькага подсвінка і прыгаворвала: «Ёська, Ёська...» (згадалася: не называйце свіней чалавечымі імёнамі, называйце — Васька, Мішка...), жанчына нагнулася... не, гэта і сапраўды атмасфера ў хляве была нейкая ненармальная, якая рабіла прыгожае прыгажэйшым: зрэшты, не — жанчына і праўда была гожаю,

а тут, на востраве, у гэтым свінарніку, і ўвогуле красуняю... бо хто ж мог падумаць, што тут можна сустрэць такую прыгажосць... фігура была зграбнаю, само сабою, але бачыў *ён* толькі твар, пасмачку ўзмакрэлых валасоў, што выбілася з-пад хусткі, жанчына адкінула яе тым імклівым рухам, якім могуць рабіць гэта толькі вясковыя какеткі, і ўважліва, смела, з выклікам угледзелася ў *яго*... яе нікольві не ўсхвалявала, што *ён* журналіст, але яе праняло наскрозь, калі яна даведалася, што *ён* з Беларусі,

яна страсянулася, вочы яе шырока расплюшчыліся, бы ад болю, быццам нехта ўкалоў яе проста ў сэрца... «Госпадзі...» — шапнула яна міжволі і пахарашэла яшчэ больш... «Госпадзі...» — і спахмурнела раптоўна, нібы ў хляве выключылі святло... зямляк... зямляк... а яе на гэты востраў прывёз муж сем гадоў таму, прывёз і кінуў — знайшоў сабе бабу на Сахаліне, і яна, з двума маленькімі, засталася адна, і цяпер ні выехаць адсюль, ні тут жыць... яны размаўлялі, *ён* пытаўся, яна адказвала, але *ён* бачыў,

як свяціліся ейныя вочы незвычайнай радасцю, і ўдзячнасцю, і жаданнем аддаць нечаканаму земляку ўсё, што ёсць у яе, за радасць сустрэчы, за згадку пра родны край... а вакол... вакол блізкія драўляныя сцены, жоўтая салома — залатая, пахкая... у яе, вядома, ёсць мужчына — магчыма, той самы дырэктар, звычайная справа: такія кіраўнічкі-пеўні ніводнай спадніцы ў сваім маёнтку не прапускаюць, а можа — рыбак, які часта ад'язджае на некалькі тыдняў, а то і месяцаў у мора, вось і цяпер яго няма побач,

а жанчыны дзеля таго і створаныя, каб верна чакаць і аддана здраджваць: чакаць і здраджваць... чакаць і здраджваць... (а мужчыны — прыходзіць і сыходзіць, прыходзіць і сыходзіць...) «і адкуль тут столькі саломы?» — паспеў падумаць *ён*, ныраючы ў яміну свядомасці, «о...» — шаптала жанчына, разглядваючы і гладзячы яго... а *ён* падумаў, што гэта і ёсць чыстая жаночая павага, бо бачыла яна шмат... гладзіла і гладзіла, нібыта забыўшы пра *яго* самога, і ўсё паўтарала: «зямляк... зямляк... землячок...»,

пацалавала... яна была файнаю, дужа файнаю, і зусім яшчэ не старою, хай і на дзясятак гадоў старэй-

шаю за *яго*, па гадох — на дзесяць, а па жыццёвым вопыце і па перажытым — яна была *яму* бабуляю, і *ён* адчуў тое... *ён* бачыў перад сабою, пад сабою яе твар, слёзы ў вачах, шчасце, страсць сапраўдную, нічым не прыхмараную, не прыхаваную, самую што ні на ёсць шчырую любоў да *яго*, так, любоў, а не каханне, любоў, як да ўпадабанай рэчы, да любімай цацкі, каханне — гэта іншае, тут была любоў,

былі любошчы, але нават не сэкс, бо яна аддзячвала *яму* за тое, што *ён* ёсць, што *ён* тут, нічога за гэта не патрабуючы, дзячыла тым адзіным, што мела... а *ён*? што рабіў *ён*? на што спакусіўся? — няма апраўдання; дарэчы, *ён* потым так пра яе нічога і не напісаў, бо *яму* ўвесь час перашкаджалі пісаць ейныя вочы, што пазіралі на *яго* з чыстага аркуша паперы... дзе яна цяпер — тая беларусачка, якая потым падзялілася апошняю мараю ў сваім жыцці: вярнуцца дамоў, на Случчыну; ці вярнулася? ці паспела да развалу Саюза?

тады, у шчырым — неастылым — запале *яму* хацелася дапамагчы ёй — душу аддаць — а праз дзень... праз два ўсё забылася, прытушылася іншымі ўражаннямі, ды і што *ён* мог — студэнцік-зямлячок: хіба толькі падзяліцца цяплом ды спагадаю; *ён* напісаў тады нарыс пра даярку-армянку, пра якую згадваецца толькі, што яна армянка і што гутарылі яны ў яе дужа бедным, але да зіхаты чыстым доме, за сталом без абруса; хата не дзялілася на пакоі і ў ёй спрэс стаялі ложкі — сям’я была па-армянску вялікаю: сямёра

ці васьмёра дзяцей, якія якраз прыйшлі са школы, аднак не мітусіліся вакол, пакуль яны гутарылі, *ён* іх увогуле не бачыў і не чуў, хоць яны былі ў тым самым адзіным пакоі, у якім не было ні тэлевізара,

ні лядоўні, ні нават радыё... першабытна-абшчынны лад, натуральная гаспадарка... звалі армянку, здаецца, Сіртуш, і яна недалюблівала тую беларуску за вольныя паводзіны, а *яго* ўспрымала і прымала толькі як карэспандэнта, якому неахвотна, адназначна адказвала на пытанні: «так» альбо «не»; гутарка была

прыблізна такою: «колькі ў вас дзяцей?», «а?», «пяцёра?», «не!», «сямёра?», «не!», «васьмёра?», «так!»... але — даруйце, ці не занадта захапіўся *ён* «прыгодамі», якія, па-сутнасці, прыгодамі не з'яўляюцца ды і не былі — навошта *яго* раптам пацягнула на «шчырасць», якая на справе не шчырасць, а нібыта пахвальба, і месца ёй не павінна быць ні ў жыцці, ні ў лазні, а не тое што на паперы; можна дараваць яе хіба пры адной умове, што потым у тэксце яна не застанецца, бо вяртацца цяпер трэба ледзь не ў самы пачатак,

да тых развагаў пра «рай» на зямлі, якія павялі *яго* да казармаў-інтэрнатаў на Шыкатане, да таго, што на той момант было шчасцем, а на сённяшні розум — да прамой лініі спрошчаным доступам да нібыта забароненага і недзе на мацерыку сарамлівага... таго, што на зямлі дадзена чалавеку не столькі дзеля насалоды, колькі дзеля працягу роду, што падабаецца ўсім, але чаго трэба саромецца (ці рабіць выгляд, што саромеешся), ад чаго трэба адмаўляцца і што там, на астравах, набывае сваё першапачатковае значэнне,

бо там у чалавека адабранае ўсё і пакінутае дзеля атрымання шчасця толькі гэта — дадзенае яму Богам; так, Богам, а не д'яблам, бо калі ствараў Бог чалавека (мужчыну, а потым і жанчыну), дык ці толькі дзеля выканання фізіялагічных патрэбаў утвараў ён пэўныя органы; калі б толькі дзеля таго, дык ці трэба

было выдумляць гэткія складанасці і супрацьлеглыя рознасці, якія так заманліва падыходзяць адно да аднога, так проста спалучаюцца, спарваюцца? зрэшты, першыя людзі, мяркуючы па Бібліі, перадумалі Бога

і адразу прымянілі тыя органы па прызначэнні — каб атрымаць асалоду... ведаў, дакладна ведаў Бог, калі ляпіў іх, што з гэтага атрымаецца, а значыць справакаваў Адама з Еваю, і потым — у пакаранне! — выгнаў іх з раю, як бацькі высяляюць дзетак са сваіх кватэраў — цесна стала? і цяпер усё жыццё мы вымушаныя грашыць і каяцца, існаванне нашае завязваецца ў граху і жыццё праходзіць пад ягоным знакам, не важна, простыя мы людзі ці служкі гасподнія... да такой ступені грэшныя мы, што нават думкі

пра спарванне ёсць грэх, не кажучы пра справы, і не даруецца нам нашая маладосць і нявопытнасць, і не даруецца потымная сталасць ды «ўсёведанне», прынамсі шматведанне («ад многіх ведаў...»), і ўсё ёсць грэх, куды ні крутніся... толькі вось з гадамі згадваецца чамусьці не тое асноўнае, што было на астравах, а другаснае — і тады, і цяпер другаснае, — бо галоўным тады было адчуванне адзіноты і адарванасці ад Радзімы, ад роднае зямлі, ад каранёў, ад магілаў продкаў... не таму, што ўсё навокал было настолькі

чужым і непрымальным, нават, можа, і наадварот: усё навокал не дужа рознілася з тым, што было ў Менску ці Хойніках, але псіхалагічна, але разумова, але падсвядома ўсё было абсалютна іншым, чужародным, і накочвалася такая адзінота (якой няма, пэўна, і ў тых, хто сёння ў Фінляндыі ці ў Нарвегіі)... такі адчайны песімізм, што тут жыць не хацелася, «тут» пераходзіла ва «ўвогуле» і не ратавала нават незна-

ёмая, не стандартна сярэднееўрапейская, прырода, надварот, яна падкрэслівала чужоту ўсяго

навакольнага, і чым бліжэй было вяртанне дамоў, тым больш хацелася яго і тым павольней ішлі дні, гадзіны, хвіліны... не сказаць, што гэтак, як салдат чакае «дэмбелю», не, *яму* тут падабалася, тут было яшчэ шмат новага, яшчэ болей нязведанага — нават жанчыны тут былі іншымі, не таму, што быццам бы больш даступнымі, але і таму таксама (а мо гэта *ён* сам быў тут іншым: больш простым, больш адкрытым, больш шчырым, бо ведаў, што хутка з'едзе адсюль назаўсёды і ніколі не сустрэнецца з гэтымі людзьмі,

каб пасаромецца за свае ўчынкі)... але была там не толькі адзінота на беразе акіяна з думкаю пайсці ў яго і не вярнуцца, была і поўная адзінота ўдвух з сябрам у міліцэйскім лецішчы — таемным доме адпачынку сахалінскага міліцэйскага начальства, гэтакай паляўніча-рыбалоўскай дачкі з лазенкаю на беразе вузенька-тонкае рачулкі, што праз трыццаць-сорак метраў упадае ў Аніўскі заліў, дзе не было калі думаць пра адзіноту; сюды прывёз іх з сябрам Уладзем *ягоны* дзядзька, падпалкоўнік міліцыі,

начальнік абласнога крымінальнага вышуку: доўгі час ён абяцаў узяць іх з сабою на паляванне, але ўсё не выпадала, і нарэшце пасярод тыдня проста адвёз на гэтае лецішча і, пакідаючы, сказаў, што прыедзе праз двое сутак, а пакуль — пажывіце адныя, адпачніце ад тлуму... што яшчэ трэба? рамантыка! да бліжэйшага жытла (пасёлка Таранай) кіламетраў пяцьдзясят, тут памежная зона і недзе — невядома дзе між сопак — ёсць толькі пагранзастава, а людзям сяліцца забаронена; прывёз дзядзька іх сюды

на міліцэйскім «газіку» пад вечар, дарога не запомнілася, адное хіба: чым далей яны ехалі на поўдзень па мысе Крыльён у бок таго самага «праліва Лаперуза» — француза, які думаў, што заплыў на край свету, а сёння апынулася — на край Расіі, і адкуль, з крутога беражка «каменьчыкі» ў акіян, як спяваецца ў песенцы Нікчэмнага, кідаць могуць хіба памежнікі... дык вось, чым далей на поўдзень яны ехалі, тым вышэйшымі рабіліся зараснікі бамбуку: каля Паўднёва-Сахалінска ён па пояс і сцелецца як трава,

як асака на Палессі, а тут, ля лецішча, у рост чалавека і вышэй, і нагадвае палескія балотныя чаратовыя нерушы, толькі на Палессі кожная чарацінка стаіць сама па сабе і не дужа супраціўляецца, калі ідзеш, можа нават няўзнак зламацца, а бамбук сплятаецца дружнаю сцяною, шчытна, шчыльна (як на касьбе ці на сяўбе...), і праз яго не прадрацца, жорстка-з'яднанае цела ягонае нат вялізным нажом кшталту мачэтэ з аднаго разу не прасячэш, і хадзіць тут можна толькі па кімсьці (вядома ж, жывёламі, а не людзьмі)

пратаптанымі сцежкамі; зрэшты, што казаць бясколерна: «жывёламі» — кім пратаптанымі, робіцца зразумелым з назвы — «мядзведжымі сцежкамі»; так, тут жывуць мядзведзі, і дзядзька *ягоны*, ад'язджаючы, шчыра папярэдзіў іх пра гэта і на развітанне распавёў пра самую апошнюю — месяц таму — сваю сустрэчу з мядзведзем тут на лецішчы: ён прыехаў на рыбалку, а ў іх тут ёсць спецыяльна прывезеная — за 50 км! — кучка гною, каб дажджавыя чарвякі пладзіліся (бо паспрабуй знайдзі іх у бамбукавых зарасцях),

дык вось, сядзіць дзядзька ля гною, чарвякоў выбірае, каб буйнейшыя, чырванейшыя, жвавейшыя, і рап-

там чуе, што ззаду нібыта нехта сапе і чмокае губамі, а ён прыехаў адзін і хто гэта можа быць такі некультурны — не ведае, але адразу страх прыкінуўся: дрыготка па целе пайшла і валасы пад шапкай падымацца сталі; азіраецца асцярожненька, так і ёсць: мядзведзь стаіць на задніх лапах і на яго па-чалавечы пазірае, а вочкі маленькія, глыбокія, вострыя — наскрозь працінаюць, праколваюць і са спіны навылёт выходзяць,

дзядзька за пісталет схапіўся і ўсю абойму ў паветра выпусціў з нецейкі, здуру; мядзведзь не варухнуўся, як аглух — во вытрымка! — сядзіць дзядзька на пятай кропцы пасярод гною і курком клацае, а мядзведзь уважліва так, па-чалавечы проста, паглядзеў на яго, павярнуўся і пайшоў, як гаспадар, павольна перабіраючы лапамі, у бамбук па сваёй сцежцы... дзядзька расказваў пра тое, яны рагаталі, пакуль не павёў ён іх да той самай знакамітай кучкі гною за лецішчам і не паказаў тую самую сцежку,

па якой вярнуўся ў сопкі мядзведзь... але калі завязалася размова пра мядзведзяў, дык трэба вярнуцца на Курылы, на Кунашыр, дзе *ён* пазнаёміўся са знакамітым «медзвяжатнікам», так медзвяжатнікам, толькі без двукосся, бо не тым, пра каго можна падумаць у двукоссі — ніякіх банкаў з сейфамі, апроч, пэўна, хранічна пустога раённага, на Кунашыры няма, а медзвяжатнікам сапраўдным — паляўнічым на мядзведзяў, лік здабычы якога даўно пераваліў не за сорак — магічная лічба! — а за сто; імя ў яго

было звычайнае — Іван, а знешне ён быў сам як мядзведзь: гара-чалавек, за два метры ростам, шырокі ў плячах, і калі можна сказаць пра двухметровага чалавека, што каржакаваты, дык Іван якраз і быў

каржакаватым, магутным і сярод іншых людзей выглядаў, як дуб у бярэзніку... гэта па-палеску, а на востраве, з ягонай прыгнутай, прычасанай вятрамі ніжэй да зямлі расліннасцю (хоць і там ёсць немалы «Бранскі лес»), яго і параўнаць няма з чым... Іван жыў адзін, бы мядзведзь, у сваёй хаціне — бярлозе (?) —

у ніжняй, бліжэйшай да акіяна, частцы Паўднёва-Курыльска, дзе за пару месяцаў да *ягонага* прыезду беларусы здымалі ці не тры тыдні пару хвілінаў для фільма «Белыя Росы» (памятаеце, перад пачатковымі тытрамі малодшы сын на Курылах згадвае пра Беларусь і надумвае вяртацца, а тут землятрус і хацінка іхняя развальваецца), і народ у гарадку яшчэ жыў мройлівымі згадкамі пра тое, як пілі — не прасыхалі — кіношнікі (кебеніматаграфісты) з Менска; зрэшты, казаць «жыў адзін» у Іванавай сітуацыі было

не зусім праўдаю, бо ў яго ўвесь час гасцілі нейкія людзі — паляўнічыя, географы, заолагі, геолагі, прычым у асноўным з Масквы і Ленінграда, а адная геалагіня-вулканограф з Піцера — Ларыса — і ўвогуле жыла ў Івана штогод па сезону, а гэта шэсць-восем месяцаў запар, і была фактычна яму жонкаю, хоць там, у Піцеры (а яна толькі так называла свой горад і крыўдавала на іншую назву), мела сям'ю; Іван, не даваў ёй ніякіх надзеяў, проста прывык да ейнае прысутнасці, ставіўся да яе з любоўю, як да любое іншае рэчы

ў доме — да стала, ложка, але меншай, чымсьці да стрэльбы, адзінай каштоўнасці тут... яна ж Івана кахала безнадзейна, і ехала штогод сюды не на працу нейкую геалагічную, не ў экспедыцыю па вывучэнні дзейнасці вулкана Цяця і тэрмакрыніцаў-гейзераў, як гэта называлася, а да Івана выключна і, пэўна, кахала

не столькі яго, колькі ягоную дрымучую мужчынскую сілу, вартасці якой Іван сам не разумеў, як не разумее яе мядзведзь (бо жыў, як жывецца, і іншага жыцця не ведаў, і пра іншае не думаў)...

хату Іванаву бярлогай можна было назваць і ўнутры, бо была яна неўпарадкаванай, усё там захоўвала на сабе пазнаку хаатычнасці і тым мела нейкі своеасаблівы шарм, мо таму, што была вялікай сама па сабе (як для вострава, дзе захавалася японскае імкненне да дробнасці, картоннасці — па-руску рубленая, вялізная, хутчэй — паморская, архангельская), а яшчэ таму, што ўсярэдзіне хата не мела ніякіх перагародак — на амерыканскі манер — проста адзін вялізны пакой метраў восем на дзесяць з печчу —

рускай ці лепш галандскай — у куце злева ад увахода, чым нагадала *яму*, калі першы раз прыйшоў, беларускія хаты з аднаго пакойчыка, пастаўленыя наспех жаночымі талокамі, адразу пасля вайны, у якіх і па сёння жывуць бабулькі-ўдовы, з адной толькі важнай акалічнасцю: тыя хаткі дужа маленькія — лесу дзяржава пашкадавала, сілаў не было без мужчынаў-мужоў большую скласці... і стаяць гэтыя хаткі і цяпер за яблынямі ды грушамі ў глыбіні садоў, бы лазенкі, непрыкметныя, шэрыя, як самі бабулькі, і амаль

палову такой хаты займае печ (ці не таму слова «хата» тут яшчэ і сінонім слову «пакой»?)... аднак галоўнае, што надавала Іванавай будыніне ўражанне прасторнасці і велічы, — гэта тое, што яна не мела столі: былі бэлькі, але столі не было, і калі, седзячы ў хаце, падняць галаву, дык дах здаецца высокім-высокім і хата-пакой пашыраецца, сцены расступаюцца, і ты ўжо сядзіш не ў замкнутай прасторы, а на волі-воль-

най, і тут цёпла, утульна, у печы пастрэльвае дрывамі агеньчык, адбіваецца сваімі промнямі-языкамі на супрацьлеглай сцяне, а на вуліцы гудзе-завывае

халодны вецер, і хвалі ўпарта, настырна-аднастайна і з моцай, у якой адчуваецца злосць, б'юць і б'юць у бераг... і калі ўявіць сябе на вуліцы, адразу дрыготка прабягае па спіне, халодная, колкая, як марскі вожык, а тут добра, на стале прынесеная *ім* пляшка «Сталічнай», хлеб, акуратна, па-піцерску тонка, накроены Ларысай, і кавалкі нейкага мяса, хочацца думаць, што «медзвяжаціны», хаця, пэўна, то звычайная — банальная — цяляціна... ціхі, густы бас гаспадара — *ён* папрасіў яго распавесці пра свае паляўнічыя прыгоды,

а той, відаць прывыклы за жыццё да такіх просьбаў, не стаў аднеквацца (а мо і самому было прыемна), аднак распавядаў не адразу, а нейк між іншым, паступова, так натуральна, нязмушана, што ажно сэрца *ягонае* ёкнула ад правільнасці таго, што адбываецца; заслухалася, прысела побач нават Ларыса, хоць байкі тыя яна, мусіць, чула ў соты раз, заслухалася, залюбавалася Іванам, як жонка з гонарам глядзіць на мужа ды яшчэ перад чужым чалавекам, а Іван не выпіў шклянку гарэлкі залпам, як, здавалася,

належала, як *яму* чакалася, а па-інтэлігенцку адпіў менш за палову і паставіў на стол... адна з тых Іванавых гісторыяў *яму* запомнілася назаўсёды — ці не пра саракавога мядзведзя, які ў той дзень не стаў Іванавым саракавым, а трыццаць дзявятым сябравым, так, сябравым, бо на Курылах на мядзведзя па адным не ходзяць, спецыфіка такая: трэба ўдвох — бамбук даволі высокі, вышэй за чалавечы (і мядзведжы) рост,

уверсе пераплятаецца, утвараючы тунэль, ісці трэба па гэтым «мядзведжым тунэлі» пакуль не выйдзеш

на адкрытую прастору: да рачулкі ці да нейкае палянкі на вяршыні сопкі, а ў самім тунэлі ў любы момант можаш сутыкнуцца нос у нос з гаспадаром сцежкі, што выйшаў на паляванне і чакае не цябе, а алянё якое... сцежкі-тунэлі ўвесь час разбягаюцца ў бакі адгалінаваннямі, і па любым з іх да цябе ў тыл можа зайсці мішка і пакласці лапу на плячо: «прывітанне!», а таму паляваць трэба ўдвох і брысці спіна да спіны, каб адзін глядзеў уперад, а другі — назад, са стрэльбай нагатове; задняму цяжка пхацца

спінай уперад, адстае ён, бывае, асабліва калі наперадзе прагал мільгне, тым больш, што, да прыкладу, блукаюць яны гэтак гадзінаў восем ад святла, увесь час напагатове, чакаючы небяспекі з-за кожнага павароту, з кожнага завулка, з кожнага атожылка, і спіны ўзмакрэлі-склеіліся, і вочы пачырванелі ад напружання... вось і тым разам ішлі яны з сябрам спіна да спіны, як браты сіямскія, — наперадзе паказаўся прагал: там рэчка, ведалі яны, бо сцежкі гэтыя сто разоў ходжаныя, справа і злева больш

тунэляў няма, і сябар адстаў ад яго, каб хапануць-з'есці жменю кісленькага лімонніку ці салодзенькага кішмішу (з якога, дарэчы, новазеландскі ці нейчы іншы мічурын пазней плод пад назовам *ківі* выштукарыў, у дзясяткі разоў павялічыўшы, і ім цяпер у нашых крамах здзівіць можна хіба новазеландца) — малады яшчэ, прысмакаў хочацца, а Іван выйшаў да рэчкі... што там за рэчка! — ручай метры два-тры ў шырыню, у якім між сухіх зверху камянёў цурчыць, прабіваецца да акіяна вада; рэчкай ручай гэты бывае толькі

падчас веснавое паводкі ці тайфунаў з ласкавымі жаночымі імёнамі, што праносяцца тут мінімум раз на год — тады не стой на ягоным шляху: змые ручай-рака, з ног саб'е і панясе, бы саламіну... тут, пры прагале, праўда, рачулка трохі шырэйшая — метраў пяць-сем і багацейшая на ваду, вырашыў Іван твар спацелы і забрыдзелы ад поту ў дробных ранках змыць (у лесе хочаш не хочаш падрапаешся-парэжашся — аб гостры бамбукаў ліст, аб колкі элеутэракок, драплівы лімоннік...): скінуў пляцак, стрэльбу каля яго паклаў,

плечы расправіў і ўвайшоў у ваду — добр-а-а! — крок наперад да незамутненае вадзіцы, яшчэ крок — і дайшоў амаль да другога берага; гарбушы між ног плывуць, з гарбылямі-самцамі труцца, асмялелі, цесна ад іх у вадзе, зачэрпнуць няма як, здаецца, і прывык да такога, а тут загледзеўся — прыгожая рыба, мкнецца, прэцца наперад да свайго канца, абы нашчадкаў пакінуць... асцярожная, калі небяспеку чуе, нахабная, калі баяцца перастае, таўчэцца між ног, як парасяты, што да карыта лезуць — смешна, пацешна, —

карціна звыклая для курыльца, і не заўважаецца яна часам, асабліва калі прыйшоў ты не рыбкі зла-віць, а з іншаю мэтай: рыба — гэта ж не праблема, у любы час можна пайсці па яе на рэчку, як па ваду ў калодзеж... і тут Івана як стралой між плеч праняла — інтуіцыя называецца! — падалося яму раптам, што нехта жывы глядзіць на яго: у спіну... і не сябар гэта, недзе адсталы... Іван павольна выцягнуў доўгія рукі з вады, разагнуўся няспешна, павярнуў шыю — так і ёсць, мядзведзь аграмадны стаіць на беразе каля

ягонага пляцака ва ўвесь свой рост, і стрэльба ў яго між лапаў-ног на зямлі ляжыць, як цацачная...

і не мядзведзь гэта, а што страшней — мядзведзіца... Іван павярнуўся тварам да яе, глядзіць вочы ў вочы, і падзяляе іх метраў пяць-шэсць голае вады; мядзведзіца, якая, відаць, ішла да рачулкі, каб рыбкаю паласавацца, з цікаўнасцю разглядае невядомага звера, што стаў на ейным шляху, і, пэўна ж, таксама думае: што рабіць? стаялі яны гэтак доўга-доўга — Івану сцягнулася: мо хвіліну, ці болей, і столькі думак,

як ратавацца, пранеслася ў Іванавай галаве, што і не злічыць (мусіць, гэта няпраўда, што чалавек і такія моманты ўсё сваё жыццё прыгадвае, прынамсі, у мяне такога не было, казаў Іван, можа, таму, што паміраць я не збіраўся), і ніводная думка ратавальнай не была: безвыходная сітуацыя — адступаць назад, дык спатыкнешся на камень і ўпадзеш — капец тады, спінай павярнуцца і пайсці — слабасць сваю паказаць... няма выйсця... толькі торгнешся, мядзведзіца зрушыцца, кінецца і задушыць у сваіх абдоймах...

а сябар усё не йдзе й не йдзе... глядзеў-глядзеў Іван то на стрэльбу ў нагах мядзведзіцы, то на яе самую, нерухомую, застылую, прыйшоў трохі ў сябе, супакоіўся і вырашыў крыкам сваім грозным мядзведзіцу спужнуць, прагнаць... «набраў я ў грудзі паветра і гаркнуў на ўсю моц, — сказаў Іван, — гаркнуў, і тады толькі зразумеў, што памылку зрабіў, бо між гэтых сопак ды бамбуку згубіўся мой крык магутны, піск мышыны выйшаў, а не роў мядзведжы: паказаў тым самым я мядзведзіцы сваю слабасць, і пайшла

яна на мяне»... Івану пашанцавала: на ягоным беразе рачулкі расла каржакаватая хваіна — невысокая, але даволі тоўстая ў камлі, крок-другі — і Іван за ёй, а мядзведзіха ўжо смярдзюча дыхае ў твар... так яны

і хадзілі вакол дрэва па крузе, бы гуляючы, хто каго перахітрыць, і ловячы наперад кожны мажлівы рух суперніка, пакуль не прыйшоў Іванаў сябар і адным стрэлам не паклаў мядзведзіцу, і так блізка была яна, што апырскала сваёю крывёю рукі Іванавы, і так роспачна, ужо забітая, глядзела яму ў вочы,

асядаючы пад дрэва, што хочаш не хочаш падумаеш: «а звяры таксама мыслі маюць»... Іван так вобразна расказваў пра гэты выпадак, што *ён*, здаецца, не слухаў яго, а фільм глядзеў, і то не сябар Іванаў выйшаў да рэчкі, а *ён*, і як *яму* стрэліць было, каб Івана не параніць, і мядзведзіцу з аднаго разу забіць ды прылаўчыўся нейк — ба-бах!.. яны яшчэ доўга сядзелі ў той вечар, Іван гаманіў, распавядаў пра свае прыгоды, а *ён* лавіў кожнае слоўка, гарэлка ў пляшцы пілася патроху і не канчалася, *яму* ісці

ў свой гатэльны пакойчык не хацелася, але *ён* раптам убачыў вочы Ларысы: яны настойліва выганялі *яго* — упарта казалі: та-бе па-ра іс-ці, хлоп-ча... яна ўвесь дзень чакала вечара, яна дачакалася яго, але яна губляла свой вечар — ноч надышла, а *ён* адбірае, спальвае на размовы такі дарагі час, калі Іван належыць толькі ёй, і гэтага часу так мала: усяго ноч — лічаныя гадзіны... *ён* уявіў сабе Ларысу побач з гэтым волатам, пад... і адвярнуў вочы: яна была, між іншым, зусім худзенькай і дробненькай (хоць косць

і была ў яе шырокаю), яна па жыцці і побач з сярэдняга росту мужчынам выглядала б кволай: метр шэсцьдзясят росту — дзяўчо дый годзе, змучанае Іванам, змардаванае (але як хочацца ёй гэтай пакуты...), яна была старэйшай за Івана гадоў на дзесяць, а мо і пятнаццаць, ёй было за пяцьдзясят па ўсім, хоць вы-

глядала яна маладзейшай, асабліва цяпер, у агністай пажадзе, у паўзмроку вялізнай Іванавай хаты (адныя вочы на твары, адныя вочы!), якую асвятляла стомленая, напаўсляпая лямпачка на шэсцьдзясят ват,

што адзінока вісела на дроце пад сярэдняй бэлькай, і таму ў куце ля стала, дзе яны сядзелі, было карычнева-цьмяна, а што рабілася ў куце насупраць, там, дзе печ, і на печы, увогуле разгледзець было немажліва: там начавала ноч... шэрыя сцены, шэрая мэбля, шэрая вопратка, шэрыя коўдры ўцягвалі, убіралі ў сябе святло, тапілі яго, паланілі, забівалі, не выпускалі, і ў паўцемры Ларыса падавалася *яму* то бабай Ягой, ад якой трэба ўцякаць, то дзяўчом-аднагодкаю, якой нясцерпна хочацца, якую хочацца...

прырода патрабуе... *ён* не ўяўляў, што з ёю будзе рабіць гэты гігант ці яна з ім... даруйце, але ўявіце сабе тую сітуацыю, яе вочы, што блішчаць юрам, зразумейце, чаму *ён* пра тое думаў, гледзячы на яе, хоць і разумеў, што лішні тут, што замінае ім, аднак... вырашыў застацца, каб... не, гэта пачынаецца пераказ *ягонага* сну, які не даваў спакою *яму* ўсю тую ноч на панцырным ложку Паўднёва-Курыльскага гатэля — ох, сон-сон, як жывы, як рэальнасць памятаецца той сон *яму*, а тады *ён* устаў пад умольна-няўмольным

позіркам, развітаўся (Ларыса запрасіла *яго* заўтра схадзіць пакупацца ў гарачых лячэбных крыніцах, якім цаны няма і якія «прыватызавалі» памежнікі, *ён* не адмовіўся і не пашкадаваў потым — благадаць: вакол шэрань белая, над вадою пара туманіцца, а ў вадзе — цяплынь ды лёгкі смурод серавадародны п'яніць...) і зрабіў крок з парога хаты ў поўную цемру вострава; на вуліцы агледзеўся і ўбачыў, як арыенцір,

пляму святла той адзінай лямпачкі, што гарэла каля ўвахода ў гатэль, памкнуўся пабегчы, але наткнуўся

на нешта кшталту невысокага плота, потым зачапіўся за штосьці, упаў... і пайшоў асцярожна, абмацваючы перад сабою дашчаны насціл і, зрэдку аступаючыся ў гразь каля яго (*ён* бываў у расейскіх гарадах і вёсках на поўначы і сустракаў там якраз такія вось збітыя з дошак ходнікі, і таму падумаў, што гэтыя ходнікі — дарожкі між гразі — ці не адзінае, што прыўнеслі свайго на Курылы расейцы...), ступаў і баяўся толькі, што можа згубіць насціл і забрысці некуды ў сопкі, а то і ў акіян...

аднак — час вяртацца на міліцэйскае лецішча, у надвячорак, дзе яны з сябрам Уладзем пакінулі ў перадпакоі хаціны, каля невысокае, па пояс, грубкі-печы з кружкамі зверху, якую на Палессі лічаць (і называюць) украінскаю, свае пляцакі; дасталі з іх вудкі-донкі, накапалі, азіраючыся і прыслухоўваючыся да мерных уздыхаў акіяна і пошуму ветру ў блізкім бамбуку, тых самых гноевых чарвякоў і вырашылі, пакуль яшчэ светла, парыбаліць у акіяне, як іх вучыў дзядзька, — злавіць якую камбалу ці палтуса,

альбо горшай справай івасі, сардзіну ці краснапёрку... уласна рыба іх не цікавіла, іх цікавіў працэс (ха! — так і просіцца параўнанне з наведнікамі «дамоў пад чырвонымі ліхтарамі», якіх не цікавіць, што за жанчына будзе іх абслугоўваць, а цікавіць «уласна працэс»)... акіян якраз ажываў, ачуньваў, супакойваўся пасля нядаўняга шторму, бераг быў завалены гурбамі свежавыкінутай шэра-сіняй марской травы, жоўта-зялёнай склізотаю марской капусты, кавалкамі, цэлымі дошкамі і ствaламі мытага абясскуранага дрэва,

карабельным смеццем, абрыўкамі тралаў, аранжавымі і белымі пенапластавымі паплаўкамі ў выглядзе шароў, пласцінаў (кажуць, у Японіі гэта цэлы бізнес: збіраць выкінутае акіянам на бераг дабро — так, гэта толькі ў Расеі яно смецце — і здаваць на перапрацоўку)... але гэта ўсё крыху паводдаль, а метраў пяць берага ля самае вады, які аблізвалі цяпер затухаючыя хвалі, былі чыстымі, пясчанымі, роўнымі і цвёрдымі нібы заасфальтаванымі (мясцовыя шафёры скарыстоўваюць у часы адліву бераг як найлепшую дарогу,

каб на грузавіку ці легкавіку хутчэй праскочыць ад пасёлка да пасёлка), ага, хвалі ўжо затухалі, але былі яшчэ даволі высокімі, а ўдалечы і ўвогуле — мелі метры тры ў вышыню і неслі на сваіх вяршыньках характэрныя белыя бурунчыкі-баранчыкі, што сведчыла пра іх моц, аднак у бераг яны ўжо не білі, а плаўна і настойліва накатваліся ўсёй сваёю даўжынёю, прычым не пад прамым вуглом, а коса, як любяць наразаць каўбасу ў менскіх рэстарацыях... яны кідалі свае донкі з цяжкімі свінцова-алавянымі грузіламі далёка ў ваду:

наколькі хапала лёскі — дурнота сухапутная, думаецца цяпер пра тую іхнюю спробу рыбалкі, але тады ўсё было на поўным сур’ёзе: яны кідалі донкі ў акіян з надзеяй на добрую здабычу, а акіян, гуляючы, выплюхваў іх на бераг... прайшла мо гадзіна, сцямнела, пакуль яны адышлі ад азарту і зразумелі, што акіян здзекуецца з іх, «ну, па-апошнім разе», — сказаў Уладзя, і *ён* пачаў круціць над галавою свінцовы груз, кінуў і... сэрца зайшлося ад болю: адзін з кручкоў донкі пранізаў халодны, змерзлы ўказальны палец,

упіўся глыбока, да косці, і дастаць яго было немажліва: сядзеў намёртва, як урос... яны вярнуліся да

лецішча, селі на ганку, сябар дастаў нож, і *ён* пачаў выразаць кручок; нож, як заўсёды, быў тупы, скура не рэзалася, мяса рыпела пад ім і не паддавалася, а кроў сачылася хутка, і з-за яе таксама не было нічога відаць, тым болей што тут, каля лецішча, пад дрэвамі, было зусім цёмна, значна цямней, чымсьці на беразе акіяна; *ён* паклаў палец на калена і не гледзячы, а толькі сцінаючыся ад вострага болю, пілаваў

яго ўздоўж цэўка кручка, каб дабрацца да бародкі і выслабаніць палец... што яшчэ было кепска: кручок прабіў палец правай рукі і пілаваць трэба было нязручнай для *яго*, няўмелай левай рукою, сябар парываўся дапамагчы, але *ён* не дазваляў: калі робіш сам, здаецца, не так балюча, і сябар стаяў побач, назіраў, падціскаючы вусны, за *ягонай* экзекуцыяй... нарэшце, *ён* вырваў кручок з пальца, адышоў на крок ад лужынкі сваёй крыві на зямлі і палячыў палец — прадэзынфіцыраваў — народным сродкам,

як вучыў *яго* бацька, як рабіў не раз у дзяцінстве, як робяць усе на Палессі — тым болей, што ўвесь час, пакуль *ён* чыкільгікаў тупым нажом, *яму* вельмі хацелася гэта зрабіць; абліў сваёй вадкасцю і кавалак бінту, які падаў сябар, моцна абкруціў, заціснуў палец, каб кроў супакоілася і перастала сачыцца... можна было б перадыхнуць і рыхтавацца да начлегу, але найперш трэба было паесці, бо яны раптам адчулі апроч стомы моцны голад і згадалі, што ад палуднавання ў Паўднёва-Сахалінску смачным цётчыным баршчом

яны гадзінаў восем ужо нічога не елі, сябар чыркнуў запалкаю, і яны ўвайшлі ў цемру перадпакоя, дзе пакінулі пляцакі з харчам і цёплымі рэчамі, а варта сказаць, набралі яны з сабою — не шкадуючы гро-

шай — сахалінскіх прысмакаў (і пры талонна-карткавай сістэме журналістам на востраве, як «ідэалагічным падручным партыі», жылося някепска) і перад уваходам у перадпакой у кожнага, прынамсі ў *яго* дакладна, прамільгнула-згадалася каўтком сліны вяндлінка-грудзінка, набытая ў краме на выездзе з Аніва,

маскоўская сыравяленая каўбаска, узятая ў рэдакцыйным буфеце, добра правэнджаная спінка кеты — тлустая, па пальцах, па барадзе цячэ і крапае, крапае лой на сурвэтку, на падлогу... а да ўсяго сальца бел-чырвона-белае, гурочкі, памідоры, часнычок, цыбулька, востранькія карэйскія прысмакі ў цэлафанавых пакеціках: капустка-чумча, чарамша (якую робяць тут з першых парасткаў папараці, што расце на востраве, а не з маладога часныку, як у Беларусі), праперчаная морквачка... мроі іхнія шуганула страшэнны грукат

і жахлівы піск у перадпакоі, калі туды зазірнула святло запалкі — нібыта яны заспелі там знянацку ды перапалохалі мядзведзя, не менш... яны знямелі ў адчайным страху, бо дагэтуль былі ўпэўненыя, што ў лецішчы нікога няма... з некалі белае, а цяпер закопчанае ў мурына, грубкі, што была вышынёю ў метр, з суцэльнае цемры, пазіралі на іх, гарэлі чырвона-жоўтымі вуглямі, вялізныя вочы — пераліваліся ў святле запалкі толькі дзве кропкі вачэй і больш нічога не відаць... «ай!», — крыкнуў сябар, гэта дагарэла

і апякла пальцы запалка — стала цёмна і яны выскачылі ў двор... «што гэта было?» — недаўменна, бязмоўна пыталіся яны адзін у аднаго і маўчалі, не знаходзячы адказу... ну, прынамсі, не мядзведзь, мядзведзя б яны і ў цемры разлічылі, разгледзелі б, то

было нешта невялікае, бо зусім блізка адна ад адное стаялі кропкі вачэй, толькі дужа агрэсіўнае і ад таго не менш страшнае... але раз маленькае, то *ён* ўзяў у рукі турысцкую сякерку (куды ж у лес без сякеркі ехаць), а сябар у адную руку той самы нож,

якім *ён* палец свой крэмзаў, а ў другую — скручаную з «Савецкага Сахаліна» паходню — газета гарэла лепш і дольш, чымсьці запалка, вядома, і яны рушылі ў перадпакой; цяпер за дзвярыма пачулася шабуршэнне, тупат шматлікіх ножак, грукат дробных скачкоў: «гуп-гуп-гуп», дзверы расчыніліся — на грубцы, на тым самым месцы, блішчэлі тыя ж самыя жоўта-чырвоныя вочы, а за імі вымалёўваліся абрысы здаравеннага пацука — добры кот, не меней; ад ног ягоных звісаў уніз і губляўся недзе ў цемры доўгі, як электрычны шнур,

хвост; пацук глядзеў на няпрошаных гасцей і не варушыўся: гаспадаром тут, каралём быў ён — гэта неаспрэчна, і прымаў ён іх на сваім троне — печцы-грубцы, каля якой і стаялі пляцакі... стаялі? не, цяпер яны абвісла ляжалі: былі поўненькімі, дутымі, як мячыкі, калі пакідалі іх тут, а цяпер відочна пустымі... сябар махнуў паходняю, тыцнуў агнём у бок караля і той паважна, па-царску павольна, грацыёзна скочыў у цемру, бліснуўшы сытым крутым бокам — нібыта завіс на хвілю ў паветры — і знік у другім пакоі,

толькі чутно было, як цокаюць ягоныя кіпцюрыкі па падлозе... сябар заціснуў паходню ў дзвярах, і яны апусціліся да пляцакоў; якое расчараванне чакала іх: усё, што можна было з’есці — было з’едзенае, акуратна, культурна, знікла нават пратлушчаная папера — і вяндлінка, і каўбаска, і рыбка, і хлеб, і карэйская капустка з дзіўным назовам чумча — смярдзючая, нераўнуючы як дзярмо, на пах, але прыемная на смак...

усё было з'едзена... асобнаю горкаю ляжалі абгорткі цукерак — роўненькаю такою, зграбненькаю, нават

гожа-эстэтнаю горачкаю (чалавек не склаў бы так) — цукеркі ж былі з’едзеныя усе да адной... пляцакі былі вызваленыя ад усяго ядомага, як праамячанае возера калгаса «Шлях Леніна» на Віцебшчыне ад усяго жывога... ні крыхі таго, што можна было б пажаваць, пагрызці — усё знайшлі пацукі... да каліва... і голад яшчэ мацней засмактаў пад лыжачкай, і сліна ўжо не глыталася, горла перасохла... але голад голадам, а наперадзе ноч, і хто яго ведае: ці хапіла іхніх прысмакаў усім гэтым пацукам, каб наесціся,

ці мо збегліся пачвары на пір з усіх ваколіцаў — галодныя — і цяпер толькі і чакаюць, калі яны з сябрам заснуць, каб накінуцца, перагрызці горла і напіцца крыві... *ён* згадаў чамусьці сярэднявечнае азіяцкае (кітайска-японскае ці японска-кітайскае) пакаранне: пацукоў некалькі дзён не кармілі, трымалі ў клетцы, а потым гэтую клетку прыстаўлялі да голага цела чалавека, да жывата, адчынялі дзверцы — і галодныя пацукі, каб вырвацца на волю, прагрызалі жывот і па глотцы, праз рот вылазілі... але *ён* не стаў

расказваць Уладзю пра гэта: страху і без таго хапала, да ўсяго, выявілася, што яны, заняўшыся рыбалкаю, не нарыхтавалі на ноч дроваў і паліць грубку не было чым, ісці ж цяпер у цемру шукаць паліва — не адважваліся: лепш хай сабе і з пацукамі, але сядзець пад дахам... і яшчэ адная праблема акрэслілася праз момант: электрычнасці, такога звыклага ім і паўсядзённага здабытку цывілізацыі, тут, за пяцьдзясят кіламетраў ад жылля, вядома ж, не было, але не было і газавай лямпы, не ўзялі яны з сабою, бо не ведалі і ніхто

не папярэдзіў, свечак... «Савецкі Сахалін» з *ягоным* апошнім артыкулам пра небывалы на востраве ўраджай агуркоў дагараў, запалкі чыркаць — таксама надоўга не хопіць, а сядзець у цемры — б-р-р! — сярод пацучынага царства (а пацукі ў цішы смялеюць!..) яшчэ невыносней... і тут *ён* убачыў на грубцы кансерваваю бляшанку — ёмістую, з-пад тушонкі, зазірнуў у яе — бляшанка паслужыла камусьці падсвечнікам, і на дне яе ляжаў ладны недагарак свечкі і ледзь не палову займаў застылы воск, што сцёк сюды не з аднае

згарэлае свечкі; яны ўздыхнулі з палёгкай: недагарак (лёс, Бог) даваў ім хоць нейкую перадышку... запалілі свечку і агледзеліся: сям-там з кутоў на іх пазіралі, не клепаючы, дзірачкі вачэй — галодных(?!), бясконцагалодных пацукоў — не менш галодныя былі цяпер і яны, і калі б злавілі якога пацука і калі б было вогнішча, дык засмажылі б «дзічыну» і з'елі... фу... брыдота... абыдземся... абыдземся... але наперадзе цэлая ноч і класціся спаць страшна, а спаць хочацца; стома вымушала іх калі не прылегчы,

дык прысесці... яны зазірнулі ў другі — вялікі — пакой, там стаяла ўздоўж сцяны тры ложкі — засланыя, мяккія, яны так і запрашалі іх у свае нетры; ды які там сон... а свечка дагарае, ужо растапіла воск пад сабою, і, адбіваючыся ў лужынцы нібы ў люстэрку, гарыць кончык нітачкі, як лампадка... Ягонае вока ўпала на горку цукеркавых абгортак, і бліснула здагадка: трэба абмакнуць паперкі ў расталы на дне бляшанкі воск, а потым туга скруціць іх — атрымаюцца новыя свечкі... яны так і зрабілі: прапітвавалі наскрозь паперкі

воскам, скручвалі іх у палачкі і складвалі на печы, каб застывалі; паспрабавалі падпаліць, і — о, цуд! —

свечкі гарэлі, праўда з шыпеннем і патрэскваннем, пастрэльваннем, але гарэлі і асвятлялі пакойчык так, што можна было б нават чытаць; такім чынам, у іх з'явіўся занятак: паліць свечкі па чарзе адну за адной, а згаралі яны даволі хутка, і ляпіць з расталага воску новыя, паліць і ляпіць... аднак усё некалі заканчваецца, растала і горка паперак, вымакаўся і перапаліўся амаль увесь воск, а да позняга восеньскага ранку

яшчэ далёка, зрэшты, пакуль займаліся справай, крыху прывыклі да пацукоў, што сноўдалі па цёмных кутох; не тое каб пацукі пачалі здавацца хатнімі коткамі, але ўжо не такімі і страшнымі, хоць па-ранейшаму брыдкімі і гнюснымі; папера скончылася, воск згарэў, а да світанку яшчэ — гадзінаў тры-чатыры, і сон бярэ сваё: вочы зліпаюцца, сядзець наўколенцах ля свечак нязручна, ногі стаміліся, закляклі, нямеюць... вочы прывыклі да цемры, ложкі бачацца ў пакоі: чаму б не легчы? спаць не будзем,

паляжым толькі... вырашылі, прылеглі — і пацукі, здаецца, супакоіліся, чутно толькі, як на вуліцы дробны дожджык імжыць і з даху раз-пораз кропелькі зрываюцца, падаюць — ну, нібыта нехта пад вакном асцярожненька ходзіць: туп, туп... а можа, то і не дождж крапае, а нехта і сапраўды пад вокнамі ходзіць і зазірае ў іх... мо мядзведзь! — вядома, ён: каму ж яшчэ хадзіць тут; і вушы ператвараюцца ў вочы, слых дамалёўвае ў мозгу карціну, як пад вакном тупае мядзведзь на задніх лапах і зыркае ў шыбы: ці ёсць там хто;

добра, што свечкі дапалілі, цёмна, і пах дыму перабівае пах... чалавечыны... не... до... давай расказваць showказкі, а то заснём і пацукі на нас цёпленькіх накінуцца... яшчэ гадзіна прайшла... не, давай спаць па чарзе:

ты спі, а я пакаравулю... і на гэтым усё — прачнуліся ранкам: сонца нахабна паглядае з акіяна проста ў вакно, і ці не яно іх разбудзіла, а можа, і голад падняў, бо адразу ж невыносна захацелася есці, а з усіх мажлівых харчоў у іх засталася толькі соль, не з'елі яе пацукі; выйшлі з лецішча, на сонца прыжмурыліся, сарвалі

па лісточку, па травінцы, пажавалі — ні смаку, ні наедку — выплюнулі зялёную сліну; падышлі да рэчкі, а там рыбы — аж кішыць: гарбушай, бы падлогай, рака засланая: спіна да спіны, як паркет; ідзе рыба на нераст, выконваць сваё жыццёвае прызначэнне... вось яна — чэрпай, дадавай солі, гатуй і еш... кінуліся да вады, а — не: пужлівая рыбка, так проста, голымі рукамі яе не возьмеш: як толькі спусціліся яны да вады, здаецца, паменела гарбушаў: каля берага, дзе спыніліся, і зусім не відаць, затое насупраць вада ажно кіпіць;

трэба сказаць, што рачулка каля лецішча, на раўніне, была і сапраўды рачулкаю: тут яе вусце, абгінаючы лазню метраў праз пяцьдзясят, упадала ў акіян, і таму яна была шырокаю — метраў сем і глыбокаю — з рукамі: камянёў у цемры дна не відаць; учора, кідаючы донкі, яны заўважылі, што на беразе акіяна, даволі дзікім, бо людзей тут амаль не бывае, чаго толькі не валяецца, і асабліва шмат рыбацкіх прычындалаў; выйшлі на бераг, завалены пасля шторму даўгімі палосамі марской капусты, якая таксама ежа,

адарвалі дзеля смеху па кавалку, пажавалі — цвёрдая і пругкая, бы гума, і толькі хруст пяску на зубах, знайшлі кавалак сеткі, ячэйкі якога якраз падыходзілі пад памеры гарбушы ў рэчцы, прывязалі яго да палак, атрымалася снасць, якую на Палессі называюць падхватам, адышліся трохі далей, дзе вады па калена,

і палезлі ў сцюдзёную, ох і халодную раку, што кіпела рыбай, каб злавіць сабе сняданак; хвілінаў праз трыццаць зуб на зуб у іх не трапляў, і яны, нарэшце, зразумелі, што гэткім чынам застануцца не тое што

без абеду, але і без вячэры: рыба ў сетку не траплялася; гарбуша, што ідзе на нераст, рыбіна, вядома, нахабная, напорыстая, ніякія перашкоды яе не спыняюць, яна можа пераскочыць праз плаціну, праз вадаспад у некалькі метраў вышынёю, яна ўзбіраецца ў горы нават там, дзе на перакатах вады амаль няма: толькі голыя камяні — на пузе паўзе, без ног скача, а да мэты дабіраецца, але ж і пужлівая, асцярожная пры гэтым: не за сваё жыццё баіцца — ёй трэба зберагчы сябе дзеля нашчадкаў, дзеля працягу роду...

адным словам, гарбуша была вакол іх, яны былі ў гарбушы, аднак ніводнай рыбіны, як ні выхітрываліся, не злавілі, і тады, у адчаі, яны адкінулі сетку і пачалі лупіць па рыбіных спінах палкамі, каламі... пападзеш па яе спіне, а лепш па галаве, аглушыш, тут бы падхапіць ды на бераг, аднак — не: плынь моцная, зносіць... і яны скарысталі апошні варыянт: *ён* ішоў спераду і глушыў рыбу, а Уладзя ззаду стараўся падхапіць яе; не з першага разу, але яшчэ праз паўгадзіны валтузні ім удалося, нарэшце, здабыць дзвюх самак

з ікрою (ад гарбаносых самцоў самкі відочна адрозніваюцца сваёй прыгажосцю-грацыёзнасцю), як і хацелі — кілаграмаў па два-тры вагою, падхапілі іх за жабры і панеслі да лецішча (цяжкія, выслізгваюцца, хоць ты як дзіця на рукі бяры); першай справай успаролі жываты, дасталі ікру, засалілі, потым набралі ў рэчцы вады, прынеслі дроваў, падпалілі грубку і паставілі варыцца рыбны суп — з адное рыбы: ні

бульбіны, ні макароніны, ні нават цыбуліны ў іх не было... пакуль збіралі дровы, крэмзалі на кавалі

рыбу, ікра прасалілася і можна было яе есці... прасалілася — гэта моцна сказана, усё роўна соль была асобна, а ікра асобна, прычым яшчэ цёплая, жывая, аднак есці яе было немажліва не толькі таму, а найперш з-за таго, што не было ў іх ні скарынкі хлеба, і есці ікру, памазаную соллю, нават па голадзе не дужа прыемны занятак: у горла не йдзе, перастрае, не глытаецца — хоць пальцам піхай, у роце расце, як мама казала; пэўна, яны яшчэ не вельмі прагаладаліся і лепш пачакаць варанае рыбы ці супу, ці юшкі...

дачакаліся, далі крыху астыць, пакаштавалі — есці можна, але дужа галоднаму, бо без хлеба нязвычна, з'елі па кавалку варанае гарбушы і здаволіліся — голад не прагналі, толькі крыху прытупілі... што далей рабіць? не пойдзеш жа пешкам да бліжэйшага жытла за пяцьдзясят кіламетраў па хлеб, трэба дзядзьку чакаць, які абяцаў пад'ехаць заўтра... часу наперадзе — мора, акіян: увесь дзень ды яшчэ ноч з цяпер ужо дакладна агаладалымі пацукамі ў суседзях, але лепш ужо тут пераседзець, чым у голым лесе начаваць і потым

якраз на падыходзе да пасёлка дзядзьку перастрэць... а дзень выдаўся найцудоўным — радасным, сонечным, і яны пайшлі гуляць па беразе; быў адліў, акіян ужо супакоіўся, і па краі ягоным можна было шпацыраваць нібы па набярэжнай, але далёка ад лецішча не адышліся, не таму, што, як Рабінзон, убачылі раптам чалавечыя сляды, а таму, што праз паўкіламетра наткнуліся на двух вайскоўцаў (яны вырашылі — памежнікаў з нейкае заставы), якія мірна спалі пад дрэвам, паклаўшы галовы на аўтаматы...

«служба ў іх такая — радзіму абараняць...» — пажартаваў сябар, аднак далей яны не пайшлі: яшчэ прачнуцца ды пачнуць страляць без разбору, вярнуліся назад да лецішча; заспаныя «пагранцы» пад вечар прыйшлі да іх самі, пацікавіліся, хто ды адкуль, — памежная зона ўсё ж: адсюль усяго 70 кіламетраў да Хакайда, уплаў можна, пастаялі, папалілі і па сакрэце расказалі навіну: «ноччу нашыя карэйскі пасажырскі самалёт тут непадалёку завалілі — амаль у нейтральных водах — ледзь не ўцёк гад, "Боінг-747", з дзвюма ці трыма сотнямі

пасажыраў, разведчык натаўскі, над Камчаткаю, усім Сахалінам праляцеў... толькі пра тое ні гу-гу, мы вось ходзім, глядзім, ці ашметкі якія не выкінула, калі што цікавае ўбачыце — паведамце, застава тут недалёка: кіламетраў дзесяць па беразе»; яшчэ па цыгарэтцы ў сябра стрэльнулі, потым яшчэ па адной выцыганілі за вуха — на дарожку, і пайшлі, пабліскваючы на сонцы рулямі аўтаматаў; расповеду пра самалёт *ён* з Уладзем і паверылі, і не паверылі: неяк не надалі ўвагі таму, што гэтай ноччу,

калі яны змагаліся з пацукамі, са сном і голадам, недзе ў небе проста над іхнімі галовамі здарылася трагедыя... і толькі потым, у Паўднёва-Сахалінску, яны зразумелі значэнне таго, што адбылося: горад гуў, поўніўся чуткамі, людзі на працы, на вуліцах, у аўтобусах толькі пра тое і шапталіся: па мясцовай тэлевізіі спачатку назвалі гэта маною — «праіскамі імперыялістаў», а затым у маскоўскай «Правде» з'явілася нататачка пра збіты карэйскі самалёт, і давялося прызнаць, што было гэта, але «крушэнне пацярпеў»

не пасажырскі самалёт, а разведчык, начынены шпіёнскай апаратурай, які наўмысна «збіўся з курсу»

і праляцеў над самымі сакрэтнымі ваеннымі базамі, і яшчэ праз час пацвердзілі, што там былі пасажыры, аднак толькі як прыкрыццё... пазней, ужо на Курылах, *ён* паглядзеў выпускі навінаў японскага тэлебачання — паказвалі слёзы радні сотняў загінулых, з каментаром па-расейску: ведалі, што глядзяць на астравах, а яшчэ больш праўды расказаў ім з сябрам выпадковы спадарожнік на цеплаходзе (адным з тых самых —

«Марыя Ульянава», альбо «Герман Герынг»), калі яны плылі з Карсакава ва Уладзівасток; трэцім у іхняй каюце быў лётчык марской авіяцыі, які «ведаў усё», і ў якога, пасля пляшкі гарэлкі «за знаёмства», свярбеў язык — расказаць — каб падняць тым сваю значнасць; лётчык некалькі разоў пачынаў распавядаць, потым прыкладваў палец да вуснаў: «ціха-ціха-ціха...» — і замаўкаў, а ўвечары, прыйшоўшы з рэстарана і даведаўшыся, што хлопцы з Беларусі, сказаў: «а самалёт той карэйскі ваш зямляк збіў, я яго ведаю,

перажывае чалавек, нашыя праспалі самалёт, заўважылі толькі калі ён пасярод Сахаліна быў, а як ляцеў над Камчаткаю, зусім не бачылі, паднялі перахватчыкаў, а карэец ужо да нейтральных водаў падлятае, што рабіць? яшчэ пару хвілінаў і... не дастанеш яго, нашы — чаргу трасіруючымі каля носа, каб завярнуць — не зважае карэец, дадому мкне, тады ваш беларус каля вострава Манерон, за пасёлкам Праўда, і зрэзаў яго; цэлы месяц потым на тым месцы тралілі: ніводнага цэлага цела — рукі, асобныя пальцы,

адзенне, папера, цацкі дзіцячыя... абасраліся перад усім светам, а землячок ваш, калі даведаўся, што пад тры сотні людзей паклаў, ледзь з глуздоў не з’ехаў»... а на лецішчы ў той дзень яны на бераг акіяна больш

не пайшлі, не да таго было, дужа есці хацелася, а пайшлі ў лес ягадаў пашукаць, дакладней не ў лес, а ўздоўж дарогі, бо ў лес было страшна заходзіць: пяць крокаў — і можаш заблудзіцца ў мядзведжых сцежках сярод бамбуку ды гіганцкіх лапухоў незваротна, так ім здавалася; ягадаў не знайшлі, але нечакана,

разграбаючы лісце клапоўкі на схіле (ёсць такая цікавая далёкаўсходняя ягадка, якую не відаць з-пад цёмна-зялёнае, бы лакаванае, лістоты, а знайсці першую можна толькі наступіўшы на яе і пачуўшы рэзкі пах — таму і клапоўка), пачулі натужны гул «газіка», што ўспаўзаў на сопку, і сустрэлі... дзядзьку, які вырашыў прыехаць на дзень раней... і дзякуй Богу, бо яшчэ ноч яны тут не вытрымалі б; дзядзька тут жа падстрэліў баклана і зварыў шурпу; супец быў брыдкаватым, як на іх густ: мяса баклана

пахла рыбай і морам, было жорсткім, як кавалкі вяроўкі, але яны лавілі крупінкі і бульбінкі, на ўвесь рот кусалі хлеб і цыбулю і ўміналі шурпу за мілую душу... а потым, пакуль дзядзька паліў лазню ды мыўся, салодка спалі сытыя і стомленыя ўвесь вечар, які перайшоў у ноч... назаўтра дзядзька даў ім па стрэльбе, па свістку-манку, і яны пайшлі паляваць на рабчыкаў («копчыкаў» — пажартаваў сябар) па тых самых мядзведжых сцежках у зарасцях бамбуку, гіганцкіх агурэчніку, мядзведжай дудкі

ды лапухоў (казалі: гігантызм раслінаў — з'ява выключна сахалінская, якую вывучаць прыязджалі маскоўцы і якой месцічы ганарыліся, а *ён* потым пад Менскам сустрэў цэлыя плантацыі мядзведжае дудкі, што за нашых пару месяцаў лета вымахвала на тры і больш метраў у вышыню і ніхто не здзіўляўся гэта-

му...); дзядзька папярэдзіў: ні ў якім разе не страляць на гук, шум, голас, толькі па цэлі, якую бачыш, і добра зрабіў, бо на свіст іхняга манка з кустоўя выйшаў яшчэ адзін паляўнічы (і адкуль узяўся?) з такім жа

свістком: чужак свісь — і сябар свісь, чужак свісь — і сябар свісь, а *ён* трымаў на мушцы тое месца, адкуль ішоў свіст і ледзь стрымліваў сябе, каб не гахнуць на «голас» рабчыка-копчыка, і калі ўбачыў перад сабою не птушку, а твар чалавека са свістком, так і асеў, і сказаў сябру: «усё, паляўнічы з мяне на гэтым скончыўся»... *ён* вярнуўся да лецішча — дзядзька збіраўся вудзіць рыбу ў рачулцы і рыхтаваў прынаду: нарэзаў кавалачкаў капронавых панчохаў і закручваў у іх па тры-чатыры ікрынкі — атрымліваліся вузельчыкі,

якія нагадвалі гронкі ягады-марошкі; аказваецца, вакол гарбушаў падчас нерасту аціраецца драпежная рыба кумжа, якая палюе на ікрынкі — з'ядае іх на нерасцілішчах, і рыбакі скарыстоўваюць гэтую ахвоту кумжы да дармовага ласунка; аднак так проста ікрынку на кручок не пачэпіш: праб'еш, і выцячэ, як вока, толькі белая скурка застанецца, а ў капроне ікрынкі і відаць, і падчапіць за нітачку акурат можна... карацей, замест дзядзькі на рыбалку, як госць, выправіўся *ён*; рыбацкае шчасце, вядома, такое ж

няўлоўнае, як і паляўнічае, але бацька *ягоны* любіў казаць: «у рыбака голыя бак*а*, але дым не пусты...», так яно і здарылася: толькі закінуў *ён* вуду ў рачулку бліжэй да вусця, дзе шырэй, глыбей і рыбы не відаць у празрыстай (!) чарнаце, як леска напялася і пачала рэзаць ваду: нябачная кумжа адразу ж сквапна хапанула ікрынкі і паплыла далей, але ўжо на кручку; рыбіна падалася магутнаю і, адпаведна, вялізнаю... за

жыццё яна змагалася імпэтна, стралою кідалася ад берага да берага, ускаламуціла ваду

і распалохала ўсё і ўсіх вакол сябе; выцягнуць яе было няпроста найперш таму, што быў *ён* не дужа спрактыкаваным рыбаком і баяўся страціць свой першы ўлоў; урэшце на траве перад *ім* апынулася маленькая, сантыметраў за дваццаць, дужа ўпартая, вёрткая і неспадзявана прыгожая рыбінка, *ён* адышоўся метраў трыццаць і зноў закінуў вуду, ікрынкі не паспелі патануць, падсечка, і другая, крыху большая рыбінка ўжо б'ецца каля ног — выцягнулася зусім без напругі, проста дасталася з вады,

потым трэцяя, яшчэ драбнейшая за першую... расчараванне *ягонае* зняў дзядзька, які падышоў і шчыра здзівіўся: кумжа лічыцца ці не самай каштоўнай тут — самай чырвонай з чырвоных і самай паважанай з паважаных у рыбакоў, бо гарбушу — ідзі ды бяры голымі рукамі, а кумжа — рыба рэдкая, шляхетная... дзве-тры — ужо шчасце, а дзясятак — герой! дзядзька прашаптаў штосьці кшталту: «пачаткоўцам (дурням) шанцуе», а *ён* падумаў, што нарэшце Сахалін яго прыняў і аддзячыў за знаёмства, за прыезд і за любоў...

потым, пасля «абеду», а дзядзька з кумжы згатаваў файны (не тое слова — пальчыкі абліжаш!) «шашлык», яны паехалі на далекаватую водмель (быў адліў, акіян адступіўся ад берага, пакінуўшы мокрыя камяні, здалёку падобныя на спіны статка марскіх коцікаў на лежбішчы ля горада Невельска), каб назбіраць «морапрадуктаў»: ракавінак марскіх пятушкоў (пеўнікаў?), марскіх грабяшкоў (грабеньчыкаў?) і, вядома, крабаў; грабяшкоў ды пятушкоў (іх тут часцей трубачамі называюць) сабралася

па вядру хутка (якое ўсё ж багатае тут мора!..), а вось крабы былі «самаходныя»: яны не чакалі, як ракавінкі, калі іх падымуць, а разбягаліся, зашываліся ў шчыліны, плёскалі па лужынах вады, бараніліся клюшнямі, балюча шчыпаліся, ніяк не даваліся ў рукі, а браць трэба толькі за верх, за панцыр, дзе вочкі-перлінкі злосна бліскаюць... аднак і імі цэлафанавы пакет даволі хутка напоўніўся... вячэра была класная: якая ўсё ж смаката — марскія грабяшкі — куды там нашыя баравікі, хоць, калі трошкі схібіць,

калі падыграць сабе, дык і падобныя па смаку... спаць гэтым разам яны клаліся сытыя, і заснулі хутка пад пошум акіяну, пад пашкробванне пакінутых у пакеце на заўтрашні сняданак жывых крабаў, пад мерны храп дзядзькі, які заснуў раней за іх... і прачнуліся ад страшнага крыку — саскочылі з ложкаў не разумеючы, што адбылося: ці не галодныя пацукі накінуліся на дзядзьку? і загрызлі! сябар запаліў свечку — былі тут запасы, пра якія яны ў першы вечар не ведалі і не знайшлі — дзядзька сядзеў у ложку і трос

вялізнаю — апухлаю? — шматпальцавай рукою; не адразу, але ім дайшло, што гэта крабішча вісіць у яго на руцэ... ноччу крабы прарвалі цэлафан (ці пацукі прагрызлі, лезучы па ежу) і распачалі вайну з нахабамі пацукамі за авалоданне пакоем і ўсім лецішчам; дзядзька прачнуўся, пачуў шкрабаценне пад ложкам, апусціў туды руку, як дома да коткі, і краб цапнуў яго соннага... смех-смехам, аднак трэба ўжо развітвацца з лецішчам, бо час вяртацца ў пачатак, да вогнішча, што гарыць каля намёта, дзе чакае *яго*

смачная юшка, якую зварылі сябры браты-армяне, хоць *ён* не аматар юшкі, тым болей з марской рыбы,

(а дзе яе тут, на Шыкатане, рачную знойдзеш?), бо марская рыба і ўсе гэтыя морапрадукты: грабяшкі ды петушкі (трубачы), марскія агуркі (трапангі) ды капуста (ламінарыя), крабы ды кальмары — даўно абрыдлі і хочацца акунькоў ды плотачак, як на радзіме на Сяляве, і хочацца дамоў на Беларусь, у родную неўпарадкаваную Беларусь, бо менавіта там, на Сахаліне, калі ў адзін з выходных яны з сябрам

пайшлі да гары пад назовам пік Чэхава, прагучала: «а слабо ўвесь дзень адразмаўляць тут, на Сахаліне, толькі па-беларуску, слабо?», аказалася — не слабо, аказалася — можна; там, на Сахаліне, *ён* упершыню задумаўся над тым: хто *я* ёсць і што *я* ёсць без роднай мовы, бо да таго ганарыўся, што чыста-чыста, зусім без акцэнту, размаўляе па-расейску... менавіта адтуль, з Сахаліна, *ён* вярнуўся на Беларусь беларусам, бо іхняя спроба размаўляць па-беларуску не наткнулася на неразуменне і супрацьстаянне:

«гаварыце на нармальным языку», як дома, а наадварот, успрынялося натуральна: «а што такога: вунь побач з намі карэйцы жывуць і размаўляюць пасвойму, а далей — армяне і так хуценька балбочуць, што не зразумець нічога, але хай, няхай... а ёсць яшчэ каракі ці ніўхі, якім іх пісьменнік Уладзімір Сангі, што ў «Савецкім Сахаліне» спрабаваў працаваць, нядаўна буквар напісаў, каб мову вучылі, так што і вы гаварыце, гаварыце — прыгожая ў вас мова, хоць і смешная трохі нашаму вуху...» — і яны размаўлялі

і балдзелі, балдзелі і ўсведамлялі сябе іншымі, не чужымі, але іншымі... так, на Сахаліне, на беразе Ціхага акіяна, на краі свету, думаецца пра Беларусь, якая так далёка і заўсёды блізка: з табою, у табе... на

Сахаліне любяць Беларусь і беларусаў, бо яны знаходзяцца на другім краі канца, кола, а значыць побач... на Сахаліне — кожны чацвёрты беларус (прыехалі па вярбоўцы пасля Другой сусветнай вайны), праўда, ужо не па пашпарце, бо яго даўно запісалі расейцам (уся радня *ягоная*, а тым болей іхнія дзеці —

ужо расейцы...), а па сваёй геннай памяці... на Сахаліне *яму* не давалі забыцца, што *ён* беларус («Песняры» — культавы гурт!) і прымушалі — давалі сотні падставаў! — ганарыцца тым, што *ён* беларус... загадчык аддзела сельскай гаспадаркі газеты «Савецкі Сахалін», мардвін з-пад Разані, Фердаліс Ахатавіч, якога клікалі ўсе ласкава Сахатавіч, хацеў *яго*, як бульбаша, зрабіць галоўным на Сахаліне спецыялістам па вырошчванні бульбы на каменнай глебе вострава, і не столькі вырошчвання, бо сякая-такая

бульбачка там расла, колькі па ўборцы: ніяк не йшлі там камбайны, блыталі бульбу з каменнем і ламаліся бясконца... смешна... цяпер смешна, а тады было ўсё на поўным сур'ёзе; дарэчы, як і ўласна журналісцкая праца, які дурны *ён* быў, бо каму цікавая ды патрэбная тая праца, бясконцыя камандзіроўкі да перадавых жывёлаводаў, нарыхтоўшчыкаў кармоў (о, нарыхтоўка кармоў на тагачасным Сахаліне»... песня! кожны завод, кожны «калектыў» з'яўляецца шэфам саўгаса — а тут іх прыблізна па адным на раён —

і ўсё лета, «вахтавым метадам», змяняючыся па чарзе, «шэфы» дабываюць кармы на лугах, уздоўж дарог, у лесе для саўгаса, дзеля гэтага будуюць стацыянарныя лагеры, палаткавыя гарады, і колькі там людскіх трагедыяў ды шчасцяў нараджаецца!), гароднінаводаў... бо і цяпер, у гэтым тэксце, згадкі

толькі пра тое, што было па-за працай, пра тое, што не ўвайшло ў рэпартажы ды нарысы, крытычныя артыкулы ды фельетоны; але *ён* не застаўся на востраве, каб культываваць там «ісконна беларускую

бульбу» (даруй, даруй, Сахалін, даруй, востраў Скалы ля Чорнае рэчкі), не ўтрымаў *яго* там і любімы тады пісьменнік — Антон Паўлавіч Чэхаў, які, зрэшты, і сам пабыў на Сахаліне, як на экскурсіі, прыблізна столькі ж часу, колькі і *ён*; але ехаў туды *ён* не з-за Чэхава і не па чэхаўскіх слядах: пра падарожжа Чэхава на Сахалін *ён* падрабязна даведаўся толькі на Сахаліне, і напісаную Чэхавым кнігу пра востраў здабыў і прачытаў толькі на самім Сахаліне; кнігу гэтую чамусьці замоўчвалі: не выдавалі

і не рэкламавалі ў СССР, як іншыя рэчы класіка, і стараліся не ўключаць у зборы твораў; дагэтуль пра Сахалін чытаў *ён* хіба ў рамане Мікалая Задорнава, бацькі будучага савецка-расейскага гумарыста Міхаіла Задорнава, які славай сваёй пераплюнуў і зацьміў старэйшага... то быў расповед пра тое, як капітан Невяльской адкрываў за Татарскім пралівам праліў Невяльскога, каб даказаць, што Сахалін востраў, а не паўвостраў, і раман называўся гучна і запамінальна: «Вайна за акіян»; кніга Чэхава

была іншай, дакументальнай і зусім негераічнай, пачытаўшы, *ён* зразумеў, чаму расейцы стараліся не афішаваць яе, хоць там нібыта «бічаваўся і аблічаўся» царызм, што па тым часе не проста трэба, а неабходна было рабіць... «нібыта» — важнае слова, бо Чэхаў напісаў праўду не пра царызм, а пра расейцаў увогуле — заўсёды і ўсюды прыхадняў (Аўстралія — краіна катаржанаў сёння працвітае, бо вольная, а Сахалін...)

і прызнаваў (а тады, да прайгранае Японіі вайны 1904–1905 гадоў, гэта крамолаю не лічылася), і пра

першаснасць адкрыцця, даследавання і пасялення японцаў на поўдні Сахаліна і Курылах... тым не менш, на Сахаліне быў культ Чэхава: горад Чэхаў, вуліцы Чэхава (усюды, дзе толькі можна), кінатэатры ды тэатр імя Чэхава, пік Чэхава (культ роўны, калі не большы за культ Леніна), музеі Чэхава, у адным з якіх *ён* убачыў рэч, якая нібыта належала Чэхаву: дажджавік, і здзівіўся памерам яго: мяркуючы па здымках, па твары, *яму* заўсёды здавалася, што Антон Паўлавіч быў невысокім чалавекам, а тут плашч —

гіганта проста; экскурсавод паведаміў, нібы па сакрэце, тое, што чамусьці не казалі: Чэхаў быў высокім для таго часу мужчынам — за метр восемдзесят ростам... а потым дасведчаны экскурсавод-патрыёт аспрэчыў яшчэ адную «ісціну»: апошнія словы Чэхаў прамовіў не па-нямецку — «Ich sterbe», гэта прыгожая мана, ён папрасіў перад смерцю падаць яму шампанскага, і гэтая просьба ягоная была апошняй прамоўленай; з экскурсаводам, а то быў борздзенькі дзядок з «чэхаўскай» бародкай, яны потым разам выйшлі

з музея (а размяшчаўся ён у самым адметным у Паўднёва-Сахалінску будынку, былым японскім, з загнутымі, як у пагады, канцамі страхі) і прасядзелі ў кавярні колькі гадзінаў за размоваю, і *ён* усё намагаўся ўзяць яму сто гарэлкі альбо пляшачку добрага віна на дваіх, дзядок жорстка і катэгарычна адмаўляўся, як адмаўляюцца толькі істыя п’яніцы ад «спакусы», аднак на развітанні сціпла папрасіў набыць пляшачку звычайнага «чарніла», якое толькі і ўжывае сам-насам, бо жыве адзін... па дарозе да гарэлачнае крамы

стары расчуліўся і пачаў распавядаць пра «донжуанскі» спіс Чэхава, потым перакінуўся на Талстога, які прызнаўся Чэхаву, што быў у маладосці «нястомным ё...», але — няхай дасведчаныя чытачы шукаюць пра гэта ў іншых кнігах... а *ён* — *ён* здрадзіў востраву, каб не здрадзіць Беларусі: *ён* вярнуўся дамоў, і не да бульбаўборачных камбайнаў, не да родных вішняў ды ліпаў, не да маці, не да сяброў, і не да каханай нават — а проста дамоў, бо Родны Дом — гэта ёсць і маці, і сябры, і каханая — усё разам... вярнуўся,

каб зноў і зноў сцвердзіць ісціну: каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба дома бываць часцей... і — быць дома не госцем... і вось цяпер, калі *ён* сказаў пра Сахалін што мог і не мог сказаць, калі збіраецца адсюль дамоў, прыйшоў час нарэшце не прамаўчаць і пра тое, дзеля чаго *ён* паехаў на востраў, што прывяло *яго* сюды; зрэшты, ніякая гэта не таямніца, бо што яшчэ можа прывесці, як не каханне, дакладней — любоў, так любоў да ўсяго японскага, пачынаючы ад літаратуры, гісторыі, культуры, людзей...

да раслінаў, страваў, назвы якіх былі вычытаныя ў кнігах, да японскіх жанчынаў, якіх *ён* уяўляў анёламі з анёльскімі крыламі (гэтакімі мадам Батэрфляй — хоць у менскай оперы мадам Батэрфляй спявала жанчына гадоў за пяцьдзясят, гэткая грубка на тоўстых ножках) і анёлападобнымі трапяткімі характарамі... усё японскае пачыналася для *яго* з любімага Акутагавы (мінуючы Коба Абэ, Кавабату, Кэндзабура Оэ ды іншых лаўрэатаў і нелаўрэатаў Нобеля, кнігі якіх былі даступнымі, а тым болей моднага падчас

перабудовы Юкіа Місіму і звышмоднага цяпер Харукі Муракамі) нашумелай часопіснай рэчы Пікуля пра тры ўзросты Акіна-сан, фільмаў Акіра Курасавы,

якія давалі болей; праўда, галоўны фільм мэтра (не «Дэрсу Узала», як лічылі ў СССР) *ён* убачыў пазней, па вяртанні з Сахаліна — той, у якім герой амаль дзве гадзіны экраннага часу нясе сваю маці ў горы, каб пакінуць там паміраць, бо стала яна для сям'і лішняй; ага, вось яшчэ адная паралель між японцамі і беларусамі: ніхто не звярнуў увагу на беларускі

фальклор (гэтак, як Курасава на японскі): у беларускіх казках сыны заводзяць старога непатрэбнага бацьку ў лес і пакідаюць паміраць... ці не ёсць гэта родавая (радзінная) пляма беларусаў? Беларусь знаходзіцца між Захадам і Усходам (але на Захадзе), для еўрапейцаў увогуле характэрны Эдыпаў комплекс: сын забівае бацьку, для азіятаў — Рустамаў комплекс: бацька забівае сына (хто тады расейцы з іх Іванам Жахлівым ды Пятром Першым?), беларусы знаходзяцца пасярод: сын адвозіць бацьку ў лес

паміраць; Японія знаходзіцца між Усходам і Захадам (але на Усходзе: на захад ідзе поўня, а цені кветак — на усход) і ў Японіі сын адносіць маці ў горы паміраць... менавіта тут нашае падабенства і нашае адрозненне: падабенства ў сярэдзіннасці (*Дух сярэдзіны* жыве не толькі ў Японіі, лунае ён і над Беларуссю), адрозненне толькі ў накірунку вектара (праз колькі гадоў па *ягоным* вяртанні з Сахаліна здарылася тое, што нават скептыкаў прымусіла ўбачыць падабенства Беларусі і Японіі: на свет — а найперш

на Беларусь — абрынуўся Чарнобыль... «ваенны» атам першым упаў на Хірасіму і Нагасакі, на галовы японцаў, а «мірны» — на галовы беларусаў... зноў нібыта палярнасць: ваенны — мірны, зноў нібыта супрацьлегласць, а па сутнасці адно і тое ж... не

пытайцеся, чаму менавіта Беларусь і Японія — хіба бывае на гэтым свеце нешта выпадковае?); ...так, пра Японію *ён* ведаў і шмат, і мала, і гэтая палярнасць: «шмат» і «мала» — ляпіла «палярны» вобраз народа: уражанне самурайскай жорсткасці, свірэпасці нават,

межавала, перапляталася з пяшчотаю, замілаваннем, што абапіралася на асаблівае стаўленне да прыроды (зноў паралель: хто яшчэ ў Еўропе так любіць прыроду, як беларусы, хто яшчэ, нягледзячы на меліярацыю ды чарнобыльшчыну, так збярог яе, хто мае Белавежу і балоты Палесся?), сям'і, родных і блізкіх, але паколькі патрапіць у самую Японію *яму*, студэнту журфака БДУ, на той час было абсалютна немажліва нават па турыстычнай пуцёўцы, абраў *ён* больш просты шлях: на Сахаліне, паўднёвая палова якога

да 1945 года была японскай, жылі *ягоныя* цётка і дзядзька (сястра і брат маці) і *ён* вырашыў паехаць туды на творчую практыку ў абласную газету, што і зрабіў; з першых крокаў на востраве *ён* шукаў тое, што засталося тут ад японскае прысутнасці, смакаваў былыя назвы Карсакава, Паўднёва-Сахалінска, Холмска ды іншых паселішчаў (як проста: Тойохара, Отомарі, Хонто, Сірітору, Эсутору, Оціай, Маока...), шукаў будынкі — адзінкі якіх з характэрнай, неперарobленай, азіяцкай — пагаднай —

архітэктураю (з дахамі, загнутымі бы крылцы матылькоў на ўзлёце), але засталіся, думаў знайсці сакуру (у ружовым вэлюме-кімано, пакратаць смочкі яе дробных — хай і неядомых — вішанек), *ён* прывёз з сабою нават беларускіх вішняў, нарваных у бацькоўскім палескім садзе ў роднай вёсцы, каб высыпаць іх пад ногі сакуры, але так і не знайшоў яе (вішні, як

далікатэс, з непрыхаванай радасцю з'ела *ягоная* радня, бо на Сахалін тады, бывала, прывозілі на караблях бананы і ананасы, апельсіны

і грэйпфруты, на самалётах армяне вазілі дужа дарагія дыні і кавуны, траплялі і чарэшні, але вішні ніхто ніколі не прывозіў...), мо таму, што тут задужа холадна было сакуры, хоць на Курылах многія дрэвы сваёй раскідзістасцю вельмі нагадвалі яе, а мо таму, што не было тут японцаў, а яна расце толькі там, дзе ёсць японцы... так, на востраве, на Сахаліне, японцаў не было — у гэтым *ён* хутка пераканаўся (хоць і прыцягнуў да сябе сваімі роспытамі цікаўнасць пэўных органаў, пра што да пары да часу —

да выцечкі на Курылы — і не падазраваў), усіх іх альбо вынішчылі, альбо дэпартавалі пасля 1945 года, альбо саслалі ў лагеры на Далёкі Усход, альбо самі яны з'ехалі на поўдзень... японцаў не было, затое шмат жыло карэйцаў, якія хоць і вузкавокія, хоць і круглатварыя, але ад японцаў адрозніваюцца так, як бульба ад яблыка, шмат армянаў, ёсць абарыгены — ніўхі (айнаў — іх згадваў яшчэ Чэхаў — ужо няма...) ды каракі, якіх мой дзядзька называў на стары расейскі лад гілякамі і ўсё жартаваў са швагра: на фіга

ты браў у жонкі беларуску, жаніўся б лепш з гілячкаю, ім дазваляюць па сто кіло чырвонай рыбы на чалавека лавіць і за браканьерства не ганяюць, а з рыбы можна зрабіць усё: нават абутак у час тальнага дэфіцыту (а то быў якраз такі час), аднак сапраўднымі гаспадарамі былі там славяне — расейцы, беларусы, украінцы, хоць і хадзіла на востраве показка: «паспрачаліся аднойчы армянін і карэец: хто на Сахаліне гаспадар? пабіліся ў кроў, пасадзіў іх міліцыянт у кутузку, кажа: пасядзіце тут ноч,

астыньце і разбярыцеся, хто на востраве гаспадар... раніцай адчыняе дзверы, карэец першым выскоквае і крычыць, паказваючы на армяніна: ён, ён гаспадар, я — гаспадыня...» — тут кожны славянскі сахалінец голасна рагоча, бо падкузьміў-такі сваіх галоўных супернікаў па востраве, якія сваё месца ведаюць, але... прэтэнзіі маюць і жывуць шчыра, дружна ў сваіх кланах супраць «рускіх», і калі б не Масква, калі б карэйцам можна было, дык японцам давялося б надоўга забыцца пра вяртанне «ісконна

рускіх земляў» у сваё лона, а то і зусім страціць надзею... дык вось, праз колькі тыдняў *ён* ужо ведаў, што на ўсім Сахаліне і Курылах жывых японцаў менш, чымсьці пальцаў на руках, а з дзяцей і ўвогуле адна (!) дзяўчына (!) прыблізна *ягонага* ўзросту (!) — студэнтка мясцовага педінстытута, але цяпер і яе ў Паўднёва-Сахалінску няма: яна на Курылах, у будатрадзе, на пуціне, працуе на адным з кансервавых заводаў... бацькі яе — камуністы-падпольшчыкі, можа нават і завербаваныя савецкія разведчыкі падчас

вайны, цудам выжылі пасля «вызвалення», яшчэ большым цудам не патрапілі ў лагеры, яна іх позняе дзіця, народжанае падчас хрушчоўскае адлігі, бо да таго яны баяліся заводзіць дзяцей — кожную ноч чакалі «чорнага ворана» — цяпер пенсіянеры, жывуць ціха, непрыкметна, апошнія дні свае прысвяцілі адзінай дачушцы, дужа не хацелі пускаць яе ў гэты будатрад, моцна перажываюць, але на Курылы самі яны «нявыязныя»... *ён* сустрэўся з японцам — нібыта выпадкова, і ўбачыў, што японец такі, якім *ён*

яго сабе і ўяўляў (зусім не ваяр, і нават не *ронін*, хоць потым *ён* вымушаны быў прызнацца сабе, што

памыліўся, бо перад ад'ездам японец таемна паказаў *яму* свой гонар — кароткі меч *сето*, які захаваў і спадзяваўся скарыстаць у апошні — патрэбны — момант...): усмешлівы, добразычлівы, шыя ўвесь час торгаецца, нібыта ў паўпаклоне... было так: *ён* «выпадкова» прысеў, «стомлены», на лаўку, на якой сядзеў японец, абапершыся на гожы кіёчак; японец быў сухенькі, дробненькі, спакойна-мітуслівы, якімі бываюць азіяты,

недаверлівы: жыццё сярод чужых людзей навучыла яго не верыць ім ад пачатку і давяраць толькі потым; японец сядзеў шырока расставіўшы ногі і час ад часу нешта чырыў кіёчкам на пяску — можа, іерогліфы згадваў, можа, пісаў ліст дачушцы; краем вока *ён* назіраў за японцам, а той, пэўна ж, за *ім*, тэмы для размовы ў *яго* не было і не прыдумлялася і *ён* баяўся, што зараз японец устане і пойдзе, а яшчэ раз *ён* да яго падсесці «выпадкова» не зможа; перад імі, метрах у дзесяці на асфальтавым ходніку

два вераб'і распачалі бойку за скарынку хлеба, завялікую для іх, падскоквалі, стукаліся грудкамі, выбівалі з сябе па пушынцы, і разляталіся; пакуль яны біліся, артыстычна, бы акторы за ролю, скарынка ляжала голая і адзінокая, як пакінутая жанчына; да яе падышла варона, дзелавіта дзеўбанула, падкінула высока над сабою, прагна схапіла і праглынула; японец пасміхнуўся, зірнуў на *яго*: ці ўсвядоміў *ён* сімвалічнасць таго, што адбылося? — больш зручнага моманту дзеля знаёмства можа і не быць, зразумеў *ён*

і ляпнуў неўпапад першае, што прыйшло ў галаву: «не падзелішся — страціш усё...», японец зноў пасміхнуўся, кіўнуўшы галавою, нібыта пагадзіўся з ім, хоць *ён* адчуваў, што сказаў калі не глупства

дык банальшчыну, але спыняцца *яму* было нельга, і ўрэшце *ён* пачуў голас японца ў адказ і здзівіўся: за амаль сорак гадоў жыцця сярод расейцаў той так і не навучыўся размаўляць без акцэнту, без сюсюкання і скрыпу, якія яго адразу выдавалі; калі ж японец даведаўся, што праз некалькі дзён *ён* едзе

на Курылы, не стрымаўся і папрасіў адвезці перадачу дачушцы («тацюське», — сказаў японец, і *ён* не адразу зразумеў, што гэта не імя): трошкі прысмакаў і пару пашытых маці цёплых шкарпэтак; *ён* з удзячнасцю не адмовіўся — *яму* трэба было наладжваць масток... але... але на Шыкатане яны з той японачкай размінуліся: яна прастудзілася і захварэла і яе адправілі на Сахалін ці не тым цеплаходам, на якім прыплыў *ён*, і на востраве, цалкам выпадкова, аказалася толькі адна японка — тая самая маскоўская гейша Таня,

і *яму* нічога не заставалася, як скарыцца ейным чарам на самым краі СССР, на мысе каля знакамітага каменнага аргана, ад чаго *яму* цяпер сорамна і за што *яму* цяпер назаўсёды сорамна, і *ён* шукае апраўдання і вінаваціць братоў-армянаў, якія ў першы дзень адпусцілі *яго* аднога... а з той адзінай сахалінскай японачкай *ён* усё ж пазнаёміўся, калі вярнуўся ў Паўднёва-Сахалінск і панёс бацькам неперададзеную перадачу; яны вохкалі, шкадавалі, што *яму* давялося столькі дзён цягаць пакунак з сабою, ушчувалі,

што не расчыніў і не з'еў прысмакі, і тут жа частавалі імі, паілі горкаю зялёнаю гарбатай, японец вучыў гульні ў *го*; а потым яны з японачкай сядзелі ў ейным пакоі, ціха гучаў магнітафон (адмысловы, дарэчы, — «Соні»), спявала «Машына часу» — «вот новый поворот... что он нам несёт...» («і сапраўды — што?» — падумаў *ён*), і густы іхнія супалі, і гады былі

блізкія, і была яна сімпатычнаю, як усе познія дзеці, кволаю і разумнаю, *ён* быў ёй таямнічым незнаёмцам з далёкіх краёў; загучалі «Песняры», якіх яна любіла

яшчэ больш, чым «Машыну часу», не стрымалася і пачала падпяваць па-беларуску ўслед Барткевічу: «А-а-александры-ы-на-а-а, шукаю я — няма-а-а-а...», — і зусім без акцэнту, нават расейскага: чыста-чыста, а потым: «чым болей сходзіць дзён, начэй...» — і сляза ў вачах (яна сядзела на канапе, падцяўшы пад сябе маленькія — нібыта некалі *бінтаваныя* — ступні, якія так хацелася пакратаць)... Госпадзі, як добра было *яму* тут (мо ўпершыню за амаль пяць сахалінскіх месяцаў), побач з гэтаю дзяўчынаю... нічога *яму*

ад яе не трэба было — толькі каб не адштурхнула, не зірнула няласкава, не прагнала грубым словам — але яна і не збіралася гэтага рабіць; і яны пасябравалі (нікога на цэлым Сахаліне ў яго не было дагэтуль — Курылы не ў лік — і ён гатовы быў пагадзіцца са словамі месцічаў: «нашыя дзяўчаты пераменлівыя, як нашае надвор'е», а надвор'е на востраве і сапраўды было непастаянным: за дзень мог дзесяць разоў пачынацца дождж і — пад настрой, столькі ж — выходзіць яснае сонейка, яшчэ Чэхаў пісаў: тут, што ні мясціна,

свой клімат...), так, яны пасябравалі, але над ім ужо навісла сякера вяртання дамоў (і ў вушах гучала ўжо лермантаўскае: бывай, нямытая...), хай і праз паўмесяца, аднак непазбежнае вяр-тан-не, і *ён* упершыню адчуў на сабе хуткацечнасць часу; адзінае, што *ён* мог зрабіць, — не прыспешваць яго, а паспрабаваць спыніць (бо толькі тут, толькі цяперака ў яго быў рай, па японску — «*харайсо*», амаль так казаў стары японец сваё любімае расейскае слоўца: «харасо»), ці хоць бы запаволіць, але час, у кожны момант

ідучы павольна, бег няўмольна, і вось ужо заўтра *яму* ад'язджаць-адплываць з Карсакава ва Уладзівасток (Уладзя і *ён* вырашылі дабірацца дамоў праз увесь СССР на цягніку з прыпынкамі на пару дзён у Хабараўску, Іркуцку, Новасібірску...), а яны з японачкай яшчэ ні разэчку не пацалаваліся нават, ну хай яна цнатлівая, а *ён*... а *ён*... а *ён*... а што *ён*? *яму* гэтага і не трэба было, *яму*, не паверыце, хапала яе рукі ў ягонай, яе вачэй у ягоных, *яму* хапала: шчака да шчакі, плячо да пляча, калена да калена глядзець

на кволыя хмаркі вакол поўні ў небе над сопкай пад назовам «Горнае паветра» (гэта яна навучыла *яго* любавацца поўняй, і, гледзячы на поўню, *ён* і цяпер згадвае яе), на якую яны з сябрам у першы іхні выходны на Сахаліне выправіліся напрасткі, па тых самых «мядзведжых сцежках»; лезлі пад вуглом градусаў шэсцьдзясят гадзіны дзве, выпацкаліся, вымачыліся ў струменях вады, што падалі зверху з крыніцаў, абадраліся, урэшце падняліся шчаслівыя на вяршыню і ўбачылі, што там стаяць два «Масквічы-412»,

якія ўз'ехалі сюды па звычайнай дарозе, і па той дарозе хады да вяршыні хвілінаў сорак... гэтак горы ім, раўнінна-балотным людзям, упершыню сказалі, што да вяршыняў не бывае прамых шляхоў і што прамы шлях не заўсёды самы кароткі і самы хуткі, што радасць і расчараванне заўжды ходзяць побач... *ён* расказваў гэты выпадак японачцы, і яны разам смяяліся, уяўляючы, як тое было, *ён* не хацеў расчаравання ні для сябе, ні для японачкі, рускае імя якой было Аня («скажы мне, Ганулька...» — спяваў ім Мулявін...), а японскае сваё яна так *яму* і не назвала...

*Лістапад 2003 г.*

*У афармленні вокладкі скарыстана гравюра Утагавы Куніёсі «Рыбы».*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Барыс Пятровіч (Сачанка)

**Пуціна**

*Аповесці*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алесь Пашкевіч*
Мастак *Дзмітрый Шыла*
Вёрстка *Людмілы Фомчанка*
Карэктар *Ірына Іванова*
Фота *Джона Кунстандэра*

Падпісана да друку 29.12.2014. Фармат 84х108 1/32. Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 10,50. Ул.-выд. арк. 6,30. Наклад 300 асобнікаў. Зак. 768.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.